ЯК ПРАЦУЕ АЗІЯ І ШТО НЕ ТАК З КІТАЕМ

# Наша Гісторыя

@Пішам добрыя тэксты ад 1906 www.nn.by

№ 5 (10) – 2019

ЗАХАПЛЯЛЬНЫЯ БІЯГРАФІІ
ЦІКАВЫЯ ЗНАХОДКІ
ВАЖНЫЯ АДКРЫЦЦІ

ISSN 2617-2305

МАРК ШАГАЛ
У ЧЫМ ЯГО ГЕНІЙ

МОЦНАЕ ПЕРАБОЛЬШАННЕ
КОЛЬКІ ВАЯРОЎ НАСАМРЭЧ БІЛАСЯ ПАД ОРШАЙ

НАША СТРАВА
ДУХМЯНЫ КУМПЯК

НЕКАНВЕНЦЫЙНАЕ КАХАННЕ
НІНА І ПЯТРО ГЛЕБКІ

НОВЫ КОМІКС:
СУПЕРБЕЛАРУСЬ




## ГАЛОЎНАЯ ПАМЫЛКА ФЕЛІКСА ДЗЯРЖЫНСКАГА

16+

Наша Гісторыя
5/2019
history.nn.by

**Навукова-папулярны, літаратурна-мастацкі часопіс**

Выдаецца з 2018 г.

ISSN 2617-2305

Зарэгістраваны Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
Пасведчанне аб рэгістрацыі №1921 ад 11.07.2018 г.

**Галоўны рэдактар**
Андрэй Васільевіч Дынько

**Наместнікі галоўнага рэдактара**
Аляксандр Пашкевіч, кандыдат гістарычных навук
Паўліна Скурко, кандыдатка гістарычных навук

**Дызайн і вёрстка** Уладзіслава Губіч

**Карэктура** Таццяна Кур'ян

На першай старонцы вокладкі — фота Фелікса Дзяржынскага, зробленае ў Кракаве ў 1912 годзе. Расфарбоўка Klimbim.

Часопіс «Наша гісторыя» выходзіць на беларускай і рускай мовах.
Перыядычнасць — 1 раз на месяц.



**Заснавальнік:** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Суродзічы».
Р/р BY84BLBB30120190786828001001 у аддз. 539 ААТ «Белінвестбанк» г. Мінск, вул. Калектарная, 11 код BLBBBY2X, УНП 190786828.

**Адрас рэдакцыі:** 220030, Мінск, вул. Энгельса, 34А.

**Адрас для допісаў:** 220004, Мінск, а/с 62.

**Тэлефоны:** (017) 316-48-13, (029) 613-32-32, (029) 707-73-29

**E-mail:** nn@nn.by

Цана дамоўная.

**Падпісаны ў друк** 13.05.2019.
Афсетны друк. Папера лёгкакрэйдаваная.
Фармат 60×84/8.
Умоўных друкаваных аркушаў 11,16.
Гарнітура PetersburgC.
Замова 0387/19.
Наклад 5 800 асобнікаў.

Часопіс надрукаваны ў друкарні «Акварэль-прынт». Вул. Радыяльная, 40-202, 220070, г. Мінск. УНП 101282916. ЛД 02330/78 ад 03.03.2014.
Пасведчанне аб рэгістрацыі ў Дзяржаўным рэестры выдаўцоў, вытворцаў і распаўсюднікаў друкаваных выданняў № 2/16 ад 21.11.2013 г.

## Ад рэдакцыі

Лаўрэатка Нобелеўскай прэміі па літаратуры Святлана Алексіевіч аднойчы расказала пра тое, як у 1980-я брала ўдзел у напісанні сцэнара да дакументальнага фільма «Гэтыя незразумелыя старыя людзі». Адным з яе суразмоўцаў быў былы заходнебеларускі камуніст-падпольшчык Мікалай Арэхва. Акурат гэты чалавек, паводле Алексіевіч, «як ніхто, даў мне зразумець трагедыю камуністычнай веры»:

«Ён расказаў мне, як ён прыйшоў да гэтай ідэі і чым гэта скончылася. Яго пасадзілі, за ім пасадзілі яго жонку, а потым ён мне расказвае, што ў часе вайны яго адпусцілі на фронт. Ён вярнуўся з фронту ўжо з ордэнамі і медалямі, яго выклікаюць у КГБ і кажуць: "Мы вяртаем вам ваш партыйны білет". Ён кажа: "Я быў проста шчаслівы". Яны сказалі: "Жонку вашу мы вам вярнуць не можам, але мы вам вяртаем ваш партбілет". І ён зноў кажа: "Я быў шчаслівы". Я кажу: "Хіба вы не кахалі сваю жонку, яна была што, проста партыйны таварыш?" Ён кажа: "Як вы можаце так думаць! Мая жонка была вельмі прыгожая, я ніколі потым не здолеў пакахаць", і паказвае мне яе фотаздымак. Я кажу: "Дык як вы маглі так сказаць, што вы былі шчаслівыя, калі яны забілі вашую жонку?" А ён кажа: "Як вы не разумееце: яны ж вярнулі мне білет!" — "Але ж яны забілі вашу жонку!" І тут ён мне ў такой раз'юшанасці кажа: "Нас нельга судзіць паводле законаў логікі, нас трэба судзіць паводле законаў веры!" І тады я зразумела, якая гэта была рэлігія для гэтых людзей».

Вялікая памылка многіх з тых, хто спрабуе асэнсаваць і зразумець тое, што адбывалася з нашай краінай і нашым народам у XX стагоддзі, — не браць пад увагу тое, чым была камуністычная ідэя сотню гадоў таму і яшчэ некалькі дзесяцігоддзяў пасля. Тады гэтая ідэя сапраўды была жывая, прывабная і проста ды пераканаўча — прынамсі, так здавалася — адказвала на самыя складаныя светапоглядныя пытанні. Таму на службу ёй шчыра і з усёй душой станавіліся людзі, якія прагнулі палепшыць гэты несправядлівы свет.

Як правіла, гэтыя людзі нічога не хацелі асабіста для сябе. Якраз наадварот — з гатоўнасцю ахвяравалі ў імя ідэі ўласным дабрабытам, сямейным шчасцем, свабодай, здароўем і нават жыццём. А калі ідэя патрабавала запляміць рукі ды сумленне крывёй тых, хто стаяў на яе шляху, — ішлі нават на гэта. Наш зямляк Фелікс Дзяржынскі, цэнтральная постаць гэтага нумара «Нашай гісторыі», — адзін з характэрных прыкладаў людзей такога тыпу.

Гісторыя гэтых людзей не апраўдала. Спроба ўвасаблення камуністычнай утопіі ў жыццё скончылася ўрэшце поўным правалам. А цана гэтага —мільёны загубленых жыццяў і мільярды пакрыўленых душ. Апраўдаць гэта немагчыма, заклікаць да паўтарэння эксперыменту — амаральна. А вось рабіць з гістарычных памылак высновы — вельмі патрэбна. Таму «Наша гісторыя» піша і пра тыя часы, і пра тых людзей.


4


23


Longlisted for the FT & Goldman Sachs Business Book of the Year Award 2013
HOW ASIA WORKS
Success and Failure in the World's Most Dynamic Region
JOE STUDWELL
36
well-written and intellectually vigorous'
FINANCIAL TIMES




26


40


60


56


67


40


59




60




78




НУ, ВОСЬ МЫ І ПРЫЕХАЛІ!
АЛЁ, НІНА МАЦЕЕЎНА? МЫ ЎЖО ТУТ, ВЫХОДЗЬЦЕ!
84

**Ён пачынаў як ідэаліст, дайшоў да фанатызму, а скончыў як расчараваны прагматык. У маладосці думаў як Каліноўскі, а пад канец жыцця стаў Мураўёвым-Вешальнікам. І адназначна быў тым, дзякуючы каму бальшавіцкая Расія ўтрымалася. Фелікс Дзяржынскі ненавідзеў імперскасць, але стварыў спецслужбу, якая стала каркасам імперыі новага фармату. Пішуць Андрэй Скурко і Васіль Герасімчык.**




**Фелікс Дзяржынскі** з бальшавіцкім дзеячам Аляксеем Рыкавым. Рыкава разам з Мікалаем Бухарыным пераемнікі Дзяржынскага расстраляюць у 1938 годзе.

# Галоўная памылка Фелікса Дзяржынскага

У 1880–1890-я, гады юнацтва Дзяржынскага, а таксама яго сучаснікаў — Пілсудскага, братоў Луцкевічаў, Іваноўскіх, — у Беларусі і Літве яшчэ адчуваўся водгук імперскай рэакцыі на паўстанне 1863 года. Жыла памяць пра высылку цэлых сем'яў і канфіскацыю маёмасці, пра закрыццё касцёлаў і забарону выдаваць кнігі на беларускай, літоўскай і польскай мовах. Ішла русіфікацыя, і ўсім запраўлялі чыноўнікі з цэнтральных частак імперыі.

Прага вызвалення, якая цягам усяго XIX стагоддзя запальвала тут паўстанні, не была зламаная пасля страты Каліноўскага. Хутчэй, скручаная ў спружыну. «Любы гвалт, пра які я чуў ці які я бачыў — прымус гаварыць па-руску, прымус па святах хадзіць у царкву, сістэма шпіёнства, — быў як бы гвалтам нада мной асабіста. І я пакляўся змагацца з гэтым злом да апошняга ўздыху», — пісаў будучы стваральнік ВЧК.

Спружына пачала выпростваца ў канцы XIX стагоддзя. Юнакі яшчэ ў школах групаваліся ў падпольныя гурткі, дэманстратыўна адмаўляліся гаварыць па-руску з настаўнікамі. Праўда, за час, што мінуў ад паўстання Касцюшкі, абстаноўка на ўсходніх абшарах былой Рэчы

Паспалітай змянілася. Там не было ўжо адзінага фронту за аднаўленне шляхецкай дзяржавы ў межах 1772 года. Беларусь, Украіна, Літва пачыналі таксама ўсведамляць сябе. Моладзь магла выбіраць.

Прага нацыянальнага вызвалення спалучалася з перадавой і моднай у Еўропе ідэяй Маркса і Энгельса, якая абяцала паняволеным класам сацыяльную справядлівасць.

Чаму Дзяржынскі, які цвёрда ўсведамляў сябе палякам, не стаў сацыялістам польскім, як Пілсудскі? Чаму ён, народжаны ў Беларусі, не стаў сацыялістам беларускім, не далучыўся да Луцкевічаў, да будзіцеляў беларускага сялянства, калі яны засноўвалі першую беларускую газету? Чаму Дзяржынскі выбраў шлях «агульнарасійскага» сацыял-дэмакрата-інтэрнацыяналіста?

Адыгралі ролю асабістыя фактары і перыпетыі лёсу: яго гарачаму характару найлепш адпавядала ідэалогія бальшавікоў. Адзінаццаць гадоў турмаў і высылак зрабілі яго непрымірымым. Асабістае знаёмства з Леніным і захапленне ім замацавала выбар, якому Дзяржынскі застанецца верны да канца жыцця.

Складанае спалучэнне месіянства на мяжы экзальтацыі і маральнага рэлятывізму, веры ў Хрыста і камунізм, душэўнай цеплыні і жорсткасці ў практычных пытаннях, істэрычнасці ў адных сітуацыях і ўмення захоўваць каменны спакой у іншых — вось сплаў, з якога быў зроблены «жалезны Фелікс».

Ленін знайшоў гарачаму, сумленнаму і дысцыплінаванаму рэвалюцыянеру ўдалае прымяненне, паставіўшы на чале палітычнай паліцыі першай у свеце сацыялістычнай дзяржавы.

Спачатку ён быў ідэалістам. Потым «душыць контру» ўвайшло ў звычку. У апошнія ж гады жыцця пераважыў расчараванне вынікамі сваёй крывавай работы: пабачыў, як створаная ім дзяржава касцянее ў бюракратыі, а створаная ім спецслужба ператвараецца ў зборышча нягоднікаў. Стомлены і спустошаны, Дзяржынскі перад смерцю пагрузіўся ў глыбокую дэпрэсію.

Але легенда пра «жалезнага Фелікса» жыла аж да скону СССР. Бо ВЧК — ГПУ — НКВД — КГБ трэба было мець светлы вобраз у вачах грамадзян, а наступнікі Дзяржынскага — Ягода, Яжоў ці Берыя — на ролю «крыштальна чыстых рыцараў рэвалюцыі» надаваліся яшчэ менш. ◆

# Як у адным чалавеку можа спалучацца неспалучальнае? Кейс «жалезнага Фелікса»

**Ён нарадзіўся датэрмінова, калі цяжарная маці правалілася ў склеп і моцна стукнулася. Немаўля з'явілася на свет здаровым, што выглядала сапраўдным цудам. Гэта сімвалізавала і імя, якое па-лацінску значыць «шчаслівы». У гісторыю ж гэты чалавек увайшоў як «жалезны Фелікс».**

### З паўстанцкага роду

Род Дзяржынскіх вядомы з сярэдзіны XVII стагоддзя. У XIX стагоддзі ён валодаў маёнткам Дзяржынава непадалёк ад Івянца. Цяпер гэта Стаўбцоўскі раён Мінскай вобласці, і тут месціцца дом-музей «жалезнага Фелікса».

Бацька Фелікса, Эдмунд-Руфін (1837–1882), скончыў фізіка-матэматычны факультэт Пецярбургскага ўніверсітэта. Многія сваякі Дзяржынскіх удзельнічалі ў паўстанні 1863–1864 гадоў, але Эдмунда напаткаў іншы лёс. Прычыны таму — дрэннае здароўе і каханне да сваёй вучаніцы. Ёю была юная Алена Янушэўская (1849–1896), дачка прафесара Пецярбургскага чыгуначнага інстытута, сваячка паэта Юліюша Славацкага.

Вясною 1864 года Эдмунд і Алена пабраліся шлюбам. Маладому было 26 гадоў, маладой — 15. Прыйшлося з'ехаць падалей ад вачэй знаёмых і сваякоў, якія з асуджэннем глядзелі на шлюб прадстаўніцы вядомай віленскай сям'і і беднага былога студэнта. Пры дапамозе цесця маладыя ўладкаваліся ў Херсоне, а ў 1868 годзе пераехалі ў Таганрог. Тут сярод вучняў Эдмунда быў будучы славуты пісьменнік Антон Чэхаў, які згадаў прозвішча свайго настаўніка матэматыкі ў апавяданні «Рускі вугаль (Праўдзівая гісторыя)». «Дзяржынскі» тут названы «палякам», карцёжнікам, які «напаўняў паветра сваёй жоўцю».

У 1875 годзе ў Эдмунда выявілі сухоты. Пасля таго ён з сям'ёй вярнуўся на радзіму, у Дзяржынава, дзе 11 верасня (ці 30 жніўня па старым стылі) 1877 года нарадзіўся сын Фелікс, ужо шостае дзіця ў сям'і.

## Маці Дзяржынскага ў 32 гады засталася адна з васьмю дзецьмі на руках

### Мамчын пястун

Хлопчык рос упартым, але сумленным. Ён быў душой дзіцячай грамады, выдумляў розныя свавольствы і забавы. Сярод яго любімых заняткаў былі верхавая язда, паляванне на ракаў і гадаванне вавёрак. Але ў 1892 годзе ў сям'і Дзяржынскіх здарыўся трагічны выпадак: Фелікс з братам ▶




**Сядзіба ў Дзяржынаве**, Налібоцкая пушча.

WIKIMEDIA COMMONS, BY ROBERT DANIELUK

Станіславам узялі стрэльбу, каб пастраляць па мішэні, і выпадкова забілі сястру Ванду. Напэўна, гэтая трагедыя адбілася на яшчэ неўмацаванай псіхіцы падлетка.

Фелікс выхоўваўся ў польскім патрыятычным духу: на паўстанцкіх песнях, музыцы Фрэдэрыка Шапэна і Міхаіла Клеафаса Агінскага, творах Юліюша Славацкага і Адама Міцкевіча. У чатыры гады ён на памяць цытаваў «Пана Тадэвуша».

Ён быў любімым сынам сваёй маці, якая, маючы 32 гады, засталася адна з васьмю дзецьмі на руках. Эдмунд памёр ад сухотаў, калі Феліксу было ўсяго пяць гадоў, а найстарэйшай, Альдоне, толькі 12. «Матуся», нягледзячы на недахоп сродкаў, знаходзіла час не толькі на працу па гаспадарцы. Фелікс успамінаў: «Я памятаю вечары ў нашай маленькай сядзібе, калі маці пры святле лямпы расказвала, а за акенцам шумеў лес, як яна расказвала пра пераследы ўніятаў, пра тое, як у касцёлах прымушалі спяваць малітвы па-руску на той падставе, што гэтыя каталікі былі беларусамі; памятаю яе аповеды пра тое, як кантрыбуцыі накладаліся на насельніцтва, якім чынам яно падпадала пад пераследы, як яго даймалі падаткамі».

У 1922 годзе Дзяржынскі згадваў: «Яшчэ хлопчыкам я марыў пра шапку-невідзімку і знішчэнне ўсіх маскалёў».

## Хацеў стаць ксяндзом

Да сямі гадоў ён увогуле не ведаў рускай мовы, таму два гады заставаўся ў першым класе віленскай гімназіі. Любімы яго ўрок — Закон Божы. Фелікс нават хацеў паступіць у духоўную семінарыю, удзельнічаў у невялічкім гуртку «Сэрца Ісуса», прымушаў старэйшага брата штодня маліцца. На пытанне, што для яго Бог, ён адказваў: «Бог — у сэрцы», «Калі я аднойчы даведаюся, што Бога няма, я пушчу сабе кулю ў лоб».

Фелікс часам параўноўваў сябе з Хрыстом, ён збіраўся «абняць усе пакуты людскія, пакутаваць за іншых і збавіць чалавецтва. Але нядоўга працягваліся такія мроі. Я падаў з такой жудаснай вышыні ў рэчаіснасць. Я карлік».

**Толькі па Законе Божым у яго была чацвёрка, усе тройкі, а па рускай мове — увогуле двойка**

Ад святарскага шляху Фелікса адгаварылі маці і ксёндз Ясінскі. Святар лічыў, што юнак «занадта вясёлы і какетлівы», а найгорш — вельмі папулярны сярод гімназістак. Дзяўчаты перадавалі яму запіскі, падкладаючы іх пад вусцілкі галёшаў Ясінскага, які ранкам наведваў як жаночую, так і мужчынскую віленскія гімназіі. Калі ж дзве гімназісткі пасварыліся, пра гэта стала вядома. У ксяндза адбылася жорсткая размова з Феліксам. І юнак пасля крыўду на святара перанёс на рэлігію ў цэлым. У 1894 годзе ў яго з'явілася новае захапленне: «Тады я цэлы год насіўся з тым, што Бога няма, і ўсім горача даказваў гэта». Пасадзейнічалі таму родныя браты першай каханай дзяўчыны Фелікса — Юліі Гольдман, дачкі вядомага віленскага камерсанта, паэта і журналіста Ісака Меековіча.

## Смерць маці і рэвалюцыя

14 студзеня 1896 года пасля цяжкай хваробы памерла Алена Дзяржынская. Фелікс быў пасля таго сам не свой, канфліктаваў з настаўнікамі гісторыі і рускай мовы. Калі ж у гімназіі з'явілася распараджэнне размаўляць вучням выключна па-руску, Дзяржынскі ўварваўся ў настаўніцкую і назваў педагогаў «мярзотнікамі». Сястра Альдона ўспамінала: «[Педагогі] былі так збітыя з панталыку, што не паспелі прыняць ніякіх мераў. Дома Фелікс весела расказваў пра ўсё гэта з пачуццём радасці ад выкананага абавязку».

Пасля гэтага Фелікс, які цягам студзеня 1896 года страціў і маці, і бабулю, вырашыў з гімназіі сысці. Толькі па Законе Божым у яго была чацвёрка, па астатніх прадметах тройкі, а па рускай і грэчаскай мовах — увогуле двойкі.

Але Дзяржынскага гэта ўжо не цікавіла. Яго цалкам захапіла ідэя перабудовы свету. Марк і Барыс Гольдманы пазнаёмілі Фелікса з творамі Чарльза Дарвіна, анархіста П'ера-Жазэфа Прудона і сацыяліста-ўтапіста Анры Сэн-Сімона. 1 мая 1896 года ён удзельнічаў у заснаванні Літоўскай сацыял-дэмакратычнай партыі. На яе патрэбы ён аддаў усе свае






Бутырская турма, 1909 год.

WIKIMEDIA COMMONS





Арлоўскі катаржны цэнтрал, 1914 год.





Цэнтральная перасыльная турма, Масква, 1916 год.

## Рэкардсмен

Дзяржынскі стаў легендай у асяродку рэвалюцыянераў дзякуючы сваім уцёкам з высылак. У 1899-м ён адзін пераадолеў 1500 кіламетраў пешкі і плывучы на чаўне супраць плыні па рацэ Кама.

## Псякосць сланова!

(Неперакладальная гульня словаў.) Паводле сукамерніка, польскага сацыяліста Тадэвуша Венявы-Длугашоўскага, гэта была любімая лаянка Дзяржынскага, якую ён ужываў у камеры «праз слова». Длугашоўскі пакінуў каларытныя ўспаміны, як павернуты на чысціні Дзяржынскі драіў да бляску турэмны посуд, мыў шкарпэткі і насоўкі; як ён да дзірак зачытваў *«Quo vadis»* Сянкевіча і травіў байкі пра сібірскія высылкі.

## Цітушкі

Падчас падпольнай дзейнасці сярод рабочых у Коўне Дзяржынскаму даводзілася сутыкацца з «цітушкамі», нанятымі ўласнікамі фабрык. Раз на яго і рэвалюцыйнага паэта Гульбіновіча напалі пяцёра з каламі і жорстка збілі. Абмыўшыся ад крыві, сацыялісты пайшлі пісаць скаргу ў паліцыю.

## Забіў мядзведзіка

У высылцы Дзяржынскаму, які пісаў лісты за непісьменных мясцовых жыхароў, на знак падзякі падаравалі медзведзяня. Мядзведзік быў вельмі прыгожы і моцна прывязаўся да ссыльнага. Фелікс навучыў яго танцаваць і лавіць рыбу. Але, падрастаючы, мядведзь зрабіўся агрэсіўным, пачаў душыць курэй, а аднойчы пакусаў і Дзяржынскага. Той вымушаны быў прыстрэліць яго.

## Вянчанне атэістаў

З жонкай Сафіяй Мушкат Фелікс вянчаўся ў касцёле Святога Мікалая ў Кракаве. Чаму двое атэістаў так зрабілі? Таму што ў тыя часы ў Расіі прызнаваўся толькі царкоўны шлюб. У 1945-м у касцёл прыйшоў савецкі афіцэр і забраў наяўныя дакументы пра вянчанне Дзяржынскіх.

► грошы, заробленыя рэпетытарствам. А 14 мая, у дзень каранацыі імператара Мікалая II, на гары Гедыміна ў Вільні даў клятву змагацца са злом да апошняга подыху.

### Шэсць арыштаў, тройчы ўцякаў

Ужо ў першыя месяцы рэвалюцыйнай дзейнасці Фелікса ледзь не забілі. Прычым спрабавалі гэта зрабіць віленскія рабочыя, за якіх ён змагаўся, — ударылі нажом у скроню. А ў ліпені 1897 года Дзяржынскага ўпершыню арыштавалі. За 10 рублёў Фелікса выдаў юнак, якому ён перадаваў нелегальную літаратуру.

**Ужо пры першым арышце царскія жандары збілі Дзяржынскага да непрытомнасці. Ён марыў ім адпомсціць**

Фелікс адмовіўся выдаць сяброў, і яго білі да непрытомнасці. Сябрам на волі ён абяцаў: «Жандары б'юць мяне, і я ім адпомшчу». Час на гэта яшчэ прыйдзе, а пакуль Дзяржынскі, як непаўналетні, у маі 1898 года атрымаў тры гады ссылкі ў Вяцкую губерню. Па дарозе ўлады спрабуюць яго «перавыхаваць», змяшчаючы ў перасылачных турмах у адныя камеры з крымінальнікамі. Але марна.

У жніўні 1899 года Дзяржынскі першы раз уцёк. Спачатку на лодцы, потым, хаваючыся па лясах, дабраўся да чыгуначнай станцыі і далей — у Вільню. Але праз паўгода — зноў арышт. Фелікс утрымліваўся ў X павільёне Варшаўскай цытадэлі, атрымаў пяць гадоў ссылкі ў Якуцкую губерню. Падчас перасылкі ў маі 1902 года ён з-за жорсткасці рэжыму ўзняў бунт у Аляксандраўскім цэнтрале Іркуцкай губерні.

Палітзняволеныя завалодалі некалькімі браўнінгамі і захапілі адзін корпус турмы, над якім узнялі чырвоны сцяг з надпісам «Свабода». Два дні доўжылася аблога, пакуль улады не пайшлі на саступкі. Дзяржынскага адправілі да месца ссылкі. Але ў чэрвені 1902 года ён зноў уцёк і дабраўся да сястры, у вёску Паплавы Мінскай губерні.

Далей Дзяржынскі выехаў у Варшаву. Каб весці працу сярод яўрэйскага насельніцтва, ён самастойна вывучыў ідыш. Ягоны сябар Карл Радэк успамінаў: «Мы смяяліся пазней, што ў кіраўніцтве польскай сацыял-дэмакратыі, у якой быў цэлы шэраг яўрэяў, чытаць па-яўрэйску ўмеў толькі Дзяржынскі, польскі дваранін і каталік».

1 мая 1905 года Фелікс арганізаваў у Варшаве 25-тысячную дэманстрацыю рабочых, падчас якой было забіта каля 50 дэманстрантаў, а яшчэ 100 паранена. У ліпені яго арыштавалі і змясцілі ў X павільён Варшаўскай цытадэлі, дзе ён шмат чытаў, падвучваў французскую мову. 2 лістапада Мікалай II абвясціў амністыю, і ў той жа дзень Дзяржынскі зноў апынуўся на волі. У красавіку 1906 года ён у Стакгольме пазнаёміўся з Леніным і зрабіў на яго прыемнае ўражанне.

У снежні 1906 года Дзяржынскі зноў за кратамі, дзе гуляе з сукамернікамі ў карты на чаргу прыбіраць. І заўсёды выйграе. У азартных гульнях, як і з жанчынамі, яму заўсёды шанцавала. Аднойчы ён нават выйграў у казіно ў Монтэ-Карла.

**Дзённы графік Фелікса Дзяржынскага ў першай ссылцы, складзены ім самім**

8–10 — прыбіранне і работы па гаспадарцы, чай
10–12 — нямецкая мова
12–14 — чытанне кніг па эканоміцы
14–17 — абед і прагулка
17–19 — лёгкае чытанне і публіцыстыка
19–21 — чай
21–24 — пісаць і чытаць «сур'ёзныя кнігі»
Па нядзелях — адпачынак і візіты

**Ад Яцэка да жалезнага Фелікса**

Сваю першую мянушку, Яцэк, Дзяржынскі атрымаў у 1895 годзе. У 1897 годзе ў Коўне ён працаваў у пераплётнай майстэрні і стаў «Пераплётчыкам». Тут Фелікс навучыўся хаваць у кнігах забароненыя выданні і падробленыя пашпарты. Франкам і Астраномам Дзяржынскага празвалі за філасофскія і адарваныя ад жыцця разважанні. Менавіта як Астраном ён заснаваў у 1900 годзе ў Мінску аб'яднаную Сацыял-дэмакратыю Каралеўства Польскага і Літвы (СДКПіЛ). Пад Літвой у гэтым выпадку разумелі землі былога Вялікага Княства Літоўскага. Асноўная ж яго мянушка, Юзаф, з'явілася ў 1904 годзе. Дзяржынскі тады лячыўся ў Аўстра-Венгерскай імперыі пад іменем Юзафа Даманскага. «Жалезным Феліксам» ён зрабіўся пасля смерці, калі стаў ствараца ягоны культ.

У маі 1907 года Фелікса вызваляюць пад заставу 1000 рублёў, але зноў арыштоўваюць у красавіку 1908 года, пазбаўляюць дваранскага звання і выпраўляюць на вечнае пасяленне ў Сібір. Па дарозе ён уцякае і ўжо апошні, шосты, раз арыштоўваецца ў верасні 1912 года. Яго прыгаворваюць да катаргі.

У 1914 годзе ў Арлоўскай губернскай турме Фелікс выступіў супраць турэмнага рэжыму, не жадаючы прамаўляць

**Дзяўчаты з жаночай гімназіі перадавалі Дзяржынскаму ў мужчынскую гімназію запіскі, таемна падкладаючы іх у галёшы ксяндза, які выкладаў і там, і там**



WIKIMEDIA COMMONS

**У азартных гульнях, як і з жанчынамі, яму заўсёды шанцавала**

начальніку «Здравия желаем, ваше благородие». Арганізаваў галадоўку. Некалькі зняволеных падчас яе памерлі. На мяжы жыцця і смерці быў і Дзяржынскі, але начальнік пайшоў на саступкі. Праўда, гэтым разам яго закавалі ў кайданы. Іх знялі толькі пры канцы 1916 года, калі ў маскоўскай Бутырцы Дзяржынскі пайшоў працаваць на нажную швейную машыну.

Вызваліць яго павінны былі ў маі 1919 года. Аднак карэктывы ўнесла Лютаўская рэвалюцыя. 1 сакавіка 1917 года Фелікс Дзяржынскі выйшаў на волю, а пасля ў турму саджаў ужо толькі сам. ▶

### Клецкі доктар Мушкат

Сафія, асуджаная за рэвалюцыйную дзейнасць, нарадзіла ў турме. Першыя восем месяцаў жыцця малы Ясік пражыў з маці ў камеры, што адбілася на яго здароўі. Пасля, калі яе выслалі, хлопчыка аддалі дзядзьку Сафіі, доктару з Клецка Мар'яну Мушкату. У Клецку Ясік жыў, пакуль маці не ўцякла з высылкі і не забрала яго.

### Мэта апраўдвае сродкі

У 1917-м, пасля Лютаўскай рэвалюцыі, вызвалены з турмы Дзяржынскі казаў, што для рэвалюцыянера не існуе аб'ектыўнай сумленнасці. «Тое, што ў адных умовах лічыцца сумленным, несумленна ў іншых, а для рэвалюцыянераў сумленна толькі тое, што вядзе да мэты».

### Фатальная Сабіна Фейнштэйн

Была нешчаслівым каханнем Дзяржынскага. Ён пісаў ёй прызнанні нават пасля шлюбу, эмацыйна абяцаючы вырваць з сябе пачуцці да яе разам з сэрцам, спаліць яе лісты і фотакартку. Шлюб з Соф'яй Мушкат ён тлумачыў тым, што такая жонка можа быць яму таварышам у рэвалюцыйнай барацьбе. Сабіна ж замуж так і не выйшла, хоць пражыла 89 гадоў. Яна захоўвала лісты Дзяржынскага, а пахаваць сябе наказала з пярсцёнкам, які ён падараваў ёй.

### Адпачынак Дзяржынскага

Фармальна таварышы адправілі Фелікса Эдмундавіча ў Швейцарыю ў 1918-м, каб ён паправіў здароўе і сустрэўся з жонкай і сынам. Але па дарозе Дзяржынскі завітаў у Берлін, каб паінфармаваць савецкага пасла пра забойства царскай сям'і. У Лугана, дзе Дзяржынскія каталіся на параходзе, ён нос у нос сустрэўся з Локхартам, нядаўна высланым з Расіі англійскім паслом. Але англічанін не пазнаў Дзяржынскага, паголенага налыса, без шыняля і характэрнай барады. Калі Дзяржынскі вярнуўся ў Маскву, Ленін сустрэў яго словамі: «Дзе ты швэндаешся, у нас тут столькі працы».

### Не быў палітыкам

Троцкі прыгадваў, што Дзяржынскаму заўсёды трэба было чыёсьці палітычнае кіраўніцтва. І калі стаяў выбар паміж рэальнай працай і ўладай, ён, практык-рэвалюцыянер, заўжды выбіраў працу. Аўтарытэтамі для Дзяржынскага былі спачатку Роза Люксембург, пасля — Ленін.

### Дзяржынскі ганарыўся

тым, што стварае спецслужбу новага тыпу: у ВЧК працавалі толькі два спецыялісты са старой царскай ахранкі. На хвалі рамантызму ён планаваў адмовіцца ад звычайнай для спецслужбаў платнай агентуры, але ўжо ў 1921-м яго намеснік Мянжынскі разаслаў дырэктыву, абавязаўшы губернскія ЧК абапірацца на асведаміцеляў і засяродзіцца на вярбоўцы агентуры.



РАСІЙСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ АРХІЎ КІНАФОТАДАКУМЕНТАЎ

**Кіраўніцтва ВЧК Савецкай Расіі**

складалася ў асноўным з палякаў і латышоў. На шараговых пасадах пераважалі рускія, хоць таксама было многа латышоў, трапляліся кітайцы, а ў Адэскай ЧК, дакладвала дзянікінская выведка, каменданцкай ротай кіраваў і славіўся сваімі зверствамі «негр Джонстан». Шматнацыянальнасць ЧК не дазваляла звінаваціць яго ў рускім нацыянальным шавінізме. **На фота: Дзяржынскі з намеснікам Якавам Петэрсам. Да рэвалюцыі яму, латышскаму сацыялісту, вырвалі пазногці падчас катаванняў у царскай ахранцы.**

### Жанчыны Дзяржынскага

Іх у яго было шмат, і гісторыі кахання найчасцей былі трагічнымі. Наўрад ці ўвогуле магло быць інакш у чалавека, які не вылазіў з турмаў і ссылак.

Згаданая ўжо Юля Гольдман была ў ліку тых гімназістак, якія сварыліся з-за Фелікса. У 1904 годзе дзеля яе ён кіне ўсё і прыедзе ў Швейцарыю. Але ў іх быў толькі тыдзень. Юля памірала ў пакутах: «Я не мог адысці ад яе ложка ні днём, ні ноччу».

Падчас першай ссылкі ў Вяцкай губерні Фелікс хацеў ажаніцца з Маргарытай Нікалаевай. Але пасля таго, як ён выкінуў з пакоя паліцэйскага спраўніка, маладых раздзялілі 400 вёрстаў. Фелікс пісаў: «Я Вас кахаю, і так моцна, наколькі здольны і як ніколі ў жыцці яшчэ не кахаў» і «Баюся, што сяброўства з жанчынай абавязкова павінна перайсці ў больш жывёльнае пачуццё». Паўгода яны перапісваюцца, пакуль, нарэшце, не сустракаюцца. Але Дзяржынскі не знайшоў патрэбных слоў і... ўцёк са ссылкі. Нікалаева спрабавала з ім звязацца, але Фелікс запатрабаваў больш не пісаць. На ўспамін Маргарыце засталіся 19 лістоў. Яны былі знойдзеныя ў невялікай скрыначцы пасля яе смерці ў 1957 годзе. Цалкам лісты надрукавалі толькі ў 2007-м.

У час рэвалюцыі 1905—1907 гадоў Фелікс Дзяржынскі ў Варшаве піша пранікнёныя лісты новай каханцы — Сабіне Фанштэйн. Іх адносіны перарваліся пасля арышту. Фелікс намагаўся іх аднавіць. Але без поспеху. Ён не ведаў, што малодшая сястра Сабіны таксама кахала Фелікса і з-за непадзеленага пачуцця атруцілася цыяністым каліем.

У лістападзе 1910 года Дзяржынскі ажаніўся з актывісткай сацыял-дэмакратыі — Соф'яй Мушкат, якая паходзіла з заможнай варшаўскай сям'і. Аднак ужо на наступны месяц жонку арыштавалі



WIKIMEDIA COMMONS

Пролетарии всех стран, соединяйтесь!

Почетное звание чекиста требует бдительности, решительности и храбрости.

От Коллегии ГПУ

Товарищу Дзержинскому Феликсу Эдмундовичу за беспощадную борьбу с контрреволюцией

выдан нагрудный знак за № 1.

Грамата аб прысуджэнні Дзяржынскаму **звання Ганаровага чэкіста.**

# ЧЫРВОНЫ

Ці быў «чырвоны тэрор» бальшавікоў нечым унікальным у сусветнай гісторыі? На жаль, не: спробы палітычных фанатыкаў уадначас разбурыць старое грамадства і неадкладна пабудаваць на яго руінах прынцыпова новае вельмі часта суправаджаюцца масавым вынішчэннем не толькі адкрытых, але і гіпатэтычных апанентаў.

Расійскія бальшавікі на чале з Уладзімірам Леніным у якасці прыкладу для сябе бралі практыку Вялікай Французскай рэвалюцыі часоў якабінцаў (канец XVIII стагоддзя). Менавіта адтуль былі запазычаныя «рэвалюцыйныя камітэты» і «камісары». Нават само паняцце «чырвонага тэрору» было калькай з тэрміна «якабінскі тэрор».

У рэвалюцыйнай Францыі за час так званай «эпохі тэрору» (з 5 верасня 1793-га па 27 ліпеня 1794 года), па падліках амерыканскага даследчыка Дональда Грыра, якабінцамі было забіта каля 35–40 тысяч чалавек (18 613 з іх адсеклі галаву на гільяціне).

Але гэтыя лічбы, вядома, не ідуць ні ў якое параўнанне з тым, што рабілася ў крывавым XX стагоддзі, калі ў многіх краінах свету былі ўсталяваныя таталітарныя рэжымы.

Наступствы часта былі катастрафічнымі. Каля мільёна чалавек загінулі падчас «культурнай рэвалюцыі»

ў Варшаве і змясцілі ў адну камеру з дзетазабойцай. Соф'я ж была ўжо цяжарная і ў чэрвені 1911 года нарадзіла сына Ясіка. Сям'я сустрэлася толькі праз 8 гадоў, калі Дзяржынскі быў ужо вядомы як «пралетарскі якабінец» і старшыня Усерасійскай надзвычайнай камісіі па барацьбе з контррэвалюцыяй і сабатажам (ВЧК).

### ВЧК: 50 расстрэлаў за першыя паўгода

Вызвалены Лютаўскай рэвалюцыяй з турмы, Дзяржынскі адразу ж акунуўся ў вір палітычнага жыцця. У кастрычніку 1917-га ён быў камендантам Смольнага, дзе распрацоўваўся план узброенага ▶



РАСІЙСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ АРХІЎ КІНАФОТАДАКУМЕНТАЎ

**Дзяржынскі і Сталін на дачы** пад Масквой. Лета 1924 года.

# ТЭРОР У ПАРАЎНАННІ

1966–1976 гадоў у Кітаі. Крывавы рэкорд паставілі «чырвоныя кхмеры» ў 1975–1979 гадах у Камбоджы (якая пры іх звалася Дэмакратычнай Кампучыяй). Пракіравалі яны ўсяго тры з паловай гады, але за гэты час было знішчана, па розных ацэнках, ад 1 да 3 мільёнаў чалавек (прытым што ўсё насельніцтва Кампучыі тады складала не больш за 10 мільёнаў).

Шмат панішчылі і сваіх, і чужых грамадзян у 1933–1945 гадах нямецкія нацысты. Адносна дакладнай колькасці ахвяраў разгорнутага імі ідэалагічна абумоўленага дзяржаўнага тэрору навукоўцамі дагэтуль вядуцца спрэчкі – не дазваляюць прыйсці да паразумення розніцы ў метадалогіях падліку і класіфікацыях ахвяр. Але ў любым разе лік ідзе на мільёны.

Надзвычай лютавалі і некаторыя саюзнікі нацыстаў, як, напрыклад, харвацкія усташы, ахвярамі якіх сталі каля 300 000 сербаў.

На гэтым фоне даволі памяркоўнымі выглядаюць многія рэжымы, якія традыцыйна прынята лічыць рэпрэсіўнымі, але ў якіх тэрор не закранаў шырокія масы насельніцтва. Ды і смяротнае пакаранне, нягледзячы на гатоўнасць рэжыму падаўляць палітычных апанентаў, заставалася тут не ардынарнай, а выключнай мерай. Напрыклад, у фашысцкай Італіі часоў Беніта Мусаліні пасля замаху на «дучэ» ў 1926 годзе быў прыняты закон «Аб абароне дзяржавы» і ўтворана Асобая служба палітычных расследаванняў. За час яе існавання да 1943 года спецыяльнымі трыбуналамі было асуджана 4 671 чалавек, з якіх 4 030 скаладалі камуністы. Але ў той жа час за 1927–1940 гады ў Італіі толькі 10 чалавек былі прысуджаныя да смяротнага пакарання і толькі 9 прысудаў былі выкананыя.

Спецыфічная практыка палітычнага тэрору склалася пры праамерыканскіх дыктатарскіх рэжымах у некаторых краінах Лацінскай Амерыкі.

Для падаўлення апанентаў і запалохвання грамадства мясцовыя ўладары стваралі спецыяльныя ваенізаваныя арганізацыі, своеасаблівыя «эскадроны смерці». Іх члены беспакарана выкрадалі і забівалі праціўнікаў, прычым рабілі ўсё адкрыта і паказальна. Найбольш вядомы прыклад такога кшталту — тантон-макуты ў Гаіці часоў дыктатарскай дынастыі Дзювалье (1958–1986 гады). Членамі гэтай групоўкі былі забітыя 30 тысяч чалавек. Падобная арганізацыя, пад назвай «Белая рука», існавала ў 1966–1982 гадах і ў Гватэмале. На яе сумленні — жыцці 20 тысяч чалавек.

### Чаму чэкісты насілі скуранкі

Бальшавікі знайшлі ў Петраградзе склад з падарункам Антанты расійскай арміі — скураным абмундзіраваннем для вайсковых лётчыкаў. Скуранкі раздалі супрацоўнікам новаўтворанай ВЧК. Была і празаічная карысць: на скуры не пладзіліся вошы, разносчыкі тыфу. Дзякуючы ЧК, скуранкі сталі модным сімвалам улады, іх насілі нават Троцкі са Свярдловым. Пасля Грамадзянскай вайны скуранкі выйшлі з ужытку, у ГПУ з'явілася форма.

### «Як Юзаф можа быць такім жорсткім?»

— дзівілася Роза Люксембург пасля рэвалюцыі. Юзаф — самы вядомы псеўданім Дзяржынскага па дарэвалюцыйнай падпольнай рабоце. Партрэт Розы ў аксамітавай рамцы вісеў у працоўным кабінеце Дзяржынскага.

### Выкарыстаў уладу ў асабістых мэтах

...каб знайсці забойцаў брата Станіслава. Яго забілі ў Дзяржынаве ў чэрвені 1917-га салдаты-дэзерціры, якія папрасіліся пераначаваць. Сям'і 45-гадовы Станіслаў не меў, прыслуга разбеглася. Калі Фелікс прыехаў у Дзяржынава, брат быў ужо пахаваны, а дом стаяў разрабаваны і пусты. Больш ён у Дзяржынаве не быў.

### Родная беларуская прырода

З Дзяржынава Фелікс з'ехаў у 15 год і ў памяці захаваў яго вобраз як страчаны рай: «Калі я ўспамінамі вяртаюся да нашых гадоў у Дзяржынаве, мяне ахоплівае кранальнае пачуцце, я зноў адчуваю радасць маіх тагачасных дзіцячых настрояў... У гэтыя хвіліны я хачу апынуцца ў нашых лясах і слухаць шум дрэваў, песні жаб — усю музыку нашай прыроды. Можа быць, у жыцці мне і давала сілу гэтая музыка лесу, музыка маіх дзіцячых гадоў, якая і цяпер увесь час іграе ў маёй душы гімн жыцця... Я ж думаю пра наша Дзяржынава як пра казку, што там адновяцца і ўсе сілы мае, і маладосць вернецца. ...Ува сне я часта бачу дом наш, і хвоі нашы, і горкі белага пяску, і канавы, і ўсё, усё, да найменшых драбніц», — пісаў ён брату Уладзіславу.




У апошнія гады, у перыяд НЭПу, **Фелікс Дзяржынскі істотна паправіўся.**

захопу ўлады бальшавікамі. Ён зарэкамендаваў сябе адказным, прынцыповым выканаўцам і ідэалістам, які здольны прымусіць сваё сумленне маўчаць у імя найвышэйшай мэты. І нездарма менавіта на яго выпаў выбар Уладзіміра Леніна ў якасці кіраўніка арганізацыі, якая павінна была змагацца з контррэвалюцыяй.

7 снежня 1917 года ён быў прызначаны старшынёй Усерасійскай надзвычайнай камісіі (ВЧК). Камісія ствараласся для прадухілення агульнарасійскай

Пасля рэвалюцыі Дзяржынскі працаваў як вол. Ён увесь час недасыпаў і адмаўляўся ад адпачынкаў. У выніку ў 48 гадоў Дзяржынскі быў ужо фізічна зношаным чалавекам: распаўнеў, з цяжкасцю падымаўся па лесвіцы і не спаў па начах, задыхаючыся ад кашлю.

забастоўкі дзяржслужачых і барацьбы з п'янымі бунтамі, якія пашырыліся ў Петраградзе ў выніку масавага рабавання вінных складоў. Але працягнула сваю дзейнасць і пасля вырашэння гэтых бягучых праблем.

У Дзяржынскага спачатку было ўсяго 23 супрацоўнікі і 1000 рублёў у касе, але ён зрабіў стаўку на дапамогу «добраахвотных бясплатных супрацоўнікаў». ВЧК спачатку мела права весці толькі папярэдняе следства, але яе старшыня дабіўся стварэння спецыяльнага ўзброенага атрада з 30 чалавек. Пасля замаху на Леніна 1 студзеня 1918 года Фелікс энергічна правёў арышты палітычных праціўнікаў бальшавікоў.

У першыя паўгода існавання арганізацыя Дзяржынскага паводзіла сябе даволі стрымана, расстраляўшы да канца чэрвеня 1918 года «ўсяго» 50 чалавек. Першы паказальны расстрэл ВЧК правяла 24 лютага 1918 года. Быў забіты вядомы сталічны бандыт, налётчык «князь Эболі».

У сакавіку савецкае кіраўніцтва перабралася ў Маскву, дзе ВЧК заняла спачатку будынак на Паварской вуліцы, а затым перамясцілася на Лубянку. Першым вялікім выпрабаваннем ВЧК было знішчэнне базы анархістаў у Маскве, што каштавала чэкістам 12-ці забітых. Дзяржынскі пісаў у гэты час жонцы ў Швейцарыю: « Я высунуты на пост перадавой лініі агню, і мая воля — змагацца і глядзець адкрытымі вачамі на ўсю небяспеку грознага становішча і самому быць бязлітасным...». Хоць яму, як ідэалісту, гэта давалася вельмі цяжка.

## «Чырвоны тэрор»

Тым часам сітуацыя ў краіне ўскладнялася, праціўнікі бальшавікоў узяліся за зброю. 6 ліпеня 1918 года ў Маскве левымі эсэрамі, якія хацелі сарваць Брэсцкі мір, быў забіты германскі пасланнік граф Вільгельм фон Мірбах. 30 жніўня ў Петраградзе быў забіты Майсей Урыцкі, старшыня




**Славутая Лубянка.**

### З ліста Дзяржынскага Валяр'яну Куйбышаву ад 3 ліпеня 1926 года пра савецкую сістэму

Існуючая сістэма — перажытак. У нас цяпер ужо ёсць людзі, на якіх можна ўскласці адказнасць. Яны цяпер тонуць ва ўзгадненнях, справаздачах, паперах, камісіях. Капіталісты — кожны з іх меў свае сродкі і быў адказны. У нас цяпер за ўсё адказвае Савет працы і абароны і Палітбюро. Так канкураваць з прыватнікам і капіталістам і з ворагамі нельга. У нас не праца, а суцэльная пакута. Функцыянальна камісарыяты з іх кампетэнцыяй — гэта параліч жыцця і жыцця чыноўніка-бюракрата. Менавіта з гэтага параліча не вырвемся без хірургіі, без смеласці. Гэта будзе тое слова і справа, якой усе чакаюць. І для нашага ўнутранага партыйнага становішча гэта будзе адраджэнне. Апазіцыя будзе раздушана тымі задачамі, якія партыя паставіць...
Калі не знойдзем гэтай лініі і тэмпу, апазіцыя нашая будзе расці і краіна тады знойдзе свайго дыктатара — пахавальніка рэвалюцыі, якія бы чырвоныя пёры ні былі на яго касцюме. Амаль усе дыктатары цяпер — былыя чырвоныя: Мусаліні, Пілсудскі.

ФОТА ВОЛІ АФІЦЭРАВАЙ




**Тут бываў Дзяржынскі.** Будынак па вуліцы Энгельса, 18, у якім знаходзілася мінская ЧК.

тамтэйшай ЧК. А ў Маскве ў той жа дзень эсэрка Фані Каплан ледзь не забіла самога Леніна.

У адказ бальшавікі 5 верасня выдаюць знакаміты дэкрэт СНК пра «чырвоны тэрор», у якім на ВЧК ускладаліся функцыі галоўнага рэпрэсіўнага органа. Аднак яшчэ да з'яўлення гэтага дэкрэта ў Петраградзе цягам тыдня было расстраляна больш за 500 чалавек, у Маскве — каля 130. Усяго ВЧК на чале з Дзяржынскім у 1918 годзе расстраляла 6 185 чалавек, яшчэ 14 829 чалавек змясцілі ў турмы, 6 407 — накіравалі ў канцэнтрацыйныя лагеры, 4 068 — узялі ў закладнікі. Барацьба з палітычнымі ворагамі была выкарыстана Дзяржынскім і для чысткі ў шэрагах саміх чэкістаў, 60 з якіх расстралялі.

Пасля гэтага ВЧК зрабілася істотнай сілай Савецкай Рэспублікі. У 1919 годзе яе нават абвінавацілі ў імкненні стаць вышэйшай за іншыя органы ўлады. Сярод крытыкаў былі Мікалай Бухарын, Леў Каменеў і Іосіф Сталін, але Ленін быў цвёрда на баку ВЧК. Як паказчык гэтага даверу з боку лідара — 30 сакавіка 1919 года Дзяржынскі стаў яшчэ і кіраўніком наркамата ўнутраных спраў (НКВД).

Менавіта тады пры ўдзеле Дзяржынскага была закладзена сістэма будучага савецкага ГУЛАГа. З красавіка 1919-га Дзяржынскі прысутнічаў на пасяджэнні калегіі НКВД РСФСР, на якім было прынята рашэнне аб арганізацыі Галоўнага ўпраўлення лагерамі ▶




SHUTTERSTOCK.BY, JULITT

**У СССР у гонар Дзяржынскага назвалі фотаапарат:** ФЭД расшыфроўваецца як «Фелікс Эдмундавіч Дзяржынскі».

## Так званыя інтэлігенты

Гады ў Віленскай гімназіі «не ўзбагацілі маёй душы, а зрабілі яе больш убогай... Пачынаю ненавідзець гэтую дрэсіроўку, якая ставіць сваёй задачай вытворчасць так званых інтэлігентаў», — пісаў Дзяржынскі.

## «Мы — арганізаваны тэрор»

«Грамадства і прэса не разумеюць задач і характару ВЧК, — казаў Дзяржынскі ў 1918-м. — Яны разумеюць барацьбу з контррэвалюцыяй як від дзяржаўнай палітыкі і таму крычаць пра гарантыі, суды, следства. Мы не маем нічога супольнага з ваенна-рэвалюцыйнымі трыбуналамі, мы ўяўляем сабой арганізаваны тэрор».

## Ці сапраўдны быў подпіс?

Бальшавікі ўзялі ўладу разам з левымі эсэрамі. Але, узмацніўшыся, знішчылі іх. Нагодай для расправы стала забойства нямецкага пасла Мірбаха. Нібыта эсэры зрабілі гэта, бо не былі згодныя на мір з Германіяй.
Мірбаха, праз якога ленінскі ўрад кантактаваў з кайзерам Вільгельмам, забіў 18-гадовы эсэр-чэкіст Блюмкін. Ён увайшоў у пасольства, паказаўшы распараджэнне за подпісам Дзяржынскага. Пазней Дзяржынскі казаў, што подпіс быў падроблены. Вынікам забойства сталі рэпрэсіі супраць эсэраў у органах савецкай улады і ўзброенае паўстанне эсэраў, якія нават узялі Дзяржынскага ў закладнікі. Але ёсць меркаванне, піша біёграф Дзяржынскага Сільвія Фралоў, што Ленін ведаў пра падрыхтоўку замаху на Мірбаха. Нямецкі пасол у той час пачаў сумнявацца, што бальшавікі ўтрымаюць уладу, і немцы маглі падтрымаць апазіцыю або запатрабаваць вяртання цара. Факт, але Блюмкін у хуткім часе пасля здушэння «эсэраўскага мяцяжу» аднавіўся на працы ў ЧК і выконваў адказныя місіі, нават за мяжой. Блюмкіна расстраляюць як трацкіста толькі праз 11 гадоў, у 1929 годзе.

## Рыцарскія жэсты

Калі ў 1921 памёр анархісцкі лідар князь Крапоткін, Дзяржынскі пад чэснае слова выпусціў анархістаў з турмы, каб яны маглі пабываць на пахаванні.



**Знос помніка Дзяржынскаму** на Лубянцы ў Маскве ў ноч з 22 на 23 жніўня 1991 года.

прымусовай працы. У 1924 годзе ён пісаў у адным з лістоў: «Пакаранне мае на мэце не выхаванне злачынцы, а адгароджванне ад яго Рэспублікі». Гэта былі словы з прамовы супраць самога Дзяржынскага на працэсе 1908 года ў Варшаве — яшчэ ў той, царскай Расіі.

У наступныя гады было яшчэ некалькі сітуацый, калі праціўнікаў савецкай улады адначасова расстрэльвалі тысячамі. У лістападзе 1920 года Дзяржынскі кіраваў ліквідацыяй белагвардзейцаў з пакінутых у Крыме войскаў Пятра Урангеля. Згодна толькі з афіцыйнымі савецкімі дадзенымі, ВЧК расстраляла тут каля 8 тысяч чалавек. А ў сакавіку 1921 года была крывавая расправа над удзельнікамі Кранштацкага паўстання, дзе супраць саветаў узняліся савецкія ж маракі. Да расстрэлу прысудзілі больш за 2100 чалавек, яшчэ каля 6,5 тысячы атрымалі розныя тэрміны зняволення. І калі спачатку Дзяржынскі выказваў нязгоду з гэтым і нават пагражаў сысці з ВЧК, бо, па ягоных словах, замест «класавых ворагаў» пачалі вынішчаца «працоўныя і сяляне», то хутка памяняў меркаванне і ўжо ў маі сам патрабаваў расстрэлу ўсіх матросаў, якія вялі «контррэвалюцыйную агітацыю».

Хутка, аднак, часы змяніліся, савецкая ўлада мусіла абвясціць новую эканамічную палітыку. Гэта вымагала таксама і згортвання «чырвонага тэрору».

## Лібералізацыя гаспадаркі — той жа жалезнай рукой

6 лютага ВЧК ліквідавалі, адначасова ствараючы Галоўнае палітычнае ўпраўленне (ГПУ), якое пазней ператварылася ў ОГПУ. Дзяржынскі ўсё адно заставаўся на чале гэтай структуры да самай сваёй смерці, але асноўная ўвага яго ў гэты час павярнулася да развіцця савецкай эканомікі. І тут таксама напоўніцу праявілася ягоная характэрная рыса — цвёрда, нават фанатычна праводзіць у жыццё тую палітыку, якая на дадзены момант з'яўлялася для партыі афіцыйнай.

Яшчэ 14 красавіка 1921 года Дзяржынскі быў, у дадатак да сваіх чэкісцкіх пасадаў, прызначаны і наркамам шляхоў зносін. Аднаўляючы разбураную ў часы вайны працу чыгункі, ён зрабіў стаўку на старых супрацоўнікаў, якіх вярталі з войска і іншых установаў. Ён вярнуў на працу каля 100 тысяч ранейшых чыгуначнікаў, у тым ліку былога міністра шляхоў зносін Часовага ўрада Аляксандра Лівяроўскага.

2 лютага 1924 года Дзяржынскі ўзначаліў Вышэйшы савет народнай гаспадаркі СССР, стаў на чале ўсёй савецкай эканомікі. Ён — прыхільнік новай эканамічнай палітыкі, аднаўлення старых і стварэння новых вытворчасцяў. Правёў рэформы ў металургічай прамысловасці, стварыў новыя сіндыкаты, дасягнуў стварэння адзінага прамысловага бюджэту. Пры гэтым выступаў супраць незабяспечанага росту заробкаў працоўных, патрабаваў дысцыпліны і самаадданасці на вытворчасці. Яго надта раздражняў бюракратызм савецкіх установаў.

## Апошні дзень

20 ліпеня 1926 года Дзяржынскі ўжо з самага ранку быў на працы. Усю ноч ён рыхтаваў разгромнае выступленне па праблемах эканомікі ў СССР. Апошнім часам у яго моцна ныла сэрца, але, нягледзячы на гэта, а 12-й гадзіне ён выступаў у Крамлі. Дзяржынскага шматразова перабівалі прадстаўнікі партыйнай апазіцыі. У адзін з такіх асабліва жорсткіх момантаў Дзяржынскі адказаў: «Вось няшчасце! Нашыя дзяржаўныя дзеячы баяцца дабрабыту вёскі. Але ж нельга індустрыялізаваць краіну, калі баяцца дабрабыту вёскі!»

Падчас выступлення Дзяржынскі увесь час прыціскаў руку да сэрца, у чым бачылі аратарскі прыём. Але, выступіўшы, ён з цяжкасцю пакінуў залу, перайшоў у суседні пакой і лёг на канапу. Пасля аказання медыцынскай дапамогі яму палепшала, але ў той жа дзень, у 16 гадзін 40 хвілін, «жалезны Фелікс» памёр ад разрыву сэрца.

На кароткі час смерць галоўнага выканаўцы «чырвонага тэрору» аб'яднала партыю бальшавікоў, але ненадоўга. Дзяржынскаму ў гэтым плане нават пашанцавала. Яго постаць у сталінскім СССР не толькі не шальмавалася, але і ператварылася ў легенду пра «жалезнага Фелікса», якому ў 1941 годзе прыпісалі словы пра «чыстыя рукі, гарачае сэрца і халодную галаву». ◆

## Не галасаваў за мір

У 1918-м падчас галасавання па пытанні замірэння з Германіяй Дзяржынскі і Троцкі ўстрымаліся. Дзяржынскі лічыў, што Германію можна «даціснуць» да капітуляцыі. Але яны былі ў меншасці, і Савецкая Расія падпісала выгадны для Германіі Брэсцкі мір. Ёсць меркаванне: адным з фактараў замірэння было тое, што Ленін разлічваў на чарговы перавод грошай ад нямецкага ўрада, каб утрымаць уладу.

## «Помню я Махно, псіхапат сапраўдны!»

Дзяржынскі сказаў, што сядзеў разам з ім да рэвалюцыі ў Бутырскай турме: «Помню я гэтага дзеяча, сапраўдны псіхапат, увесь час кідаўся на ахову, будзе ў нас з ім клопат!» З Махно Дзяржынскі сутыкаўся ва Украіне, куды яго скіравалі вясной 1920-га на чале 1400 чэкістаў для «зачысткі» Данбаса і аднаўлення паставак у Расію вугалю з Данецкага басейна.

## Мог стаць кіраўніком Польшчы

Гэта адбылося б у выпадку перамогі Расіі ў савецка-польскай вайне 1920-га. Калі Чырвоная армія заняла Беларусь, у Беластоку быў абвешчаны Часовы рэвалюцыйны камітэт Польшчы (Польрэўкам). Старшынёй урада лічыўся дзеяч сацыял-дэмакратычнага руху Юліян Мархлеўскі, але фактычным кіраўніком быў Дзяржынскі.
Урад не даехаў да Варшавы 50 кіламетраў. Палякі (у тым ліку сацыялісты) даражылі незалежнасцю і разграмілі савецкія войскі на Віслe. Дзяржынскі цяжка гэта перажываў і адчуваў спустошанасць, пра што пісаў жонцы.

## Музей Адама Міцкевіча

Дзяржынскі ў Мінску спыняўся ў жніўні 1920-га падчас адступлення з Польшчы. Ён жыў у доме па вул. Маркса, 30 — за квартал ад тагачаснага будынка ЧК. Дзяржынскі накруціў мінскім чэкістам хвасты за «недахопы» ў вядзенні следчых справаў і незаконныя загады.
Таксама адчыніў дом для беспрытульных дзяцей, даручыў «азнаёміцца са станам лясной справы ў Белавежскай пушчы» і ўзяць пад ахову сядзібу Адама Міцкевіча ў Завоссі. І ўжо ў верасні Навагрудскі рэўкам выдаў пастанову пра арганізацыю музея Міцкевіча.

## Дзяржынскія мелі прыслугу

Сям'і Дзяржынскіх выдзелілі асобную кватэру з трох пакояў у Крамлі: вітальня, спальня і дзіцячы пакой. Кабінета дома Дзяржынскі не меў, яго стол стаяў у спальні. Жонцы па гаспадарцы дапамагала хатняя работніца Алена Яфімцава, непісьменная і рэлігійная вясковая жанчына.

## Умеў набіць пудзіла

Ян Дзяржынскі ўспамінаў, што восенню 1920-га ў бацькі, які вярнуўся з польскага паходу, пайшла горлам кроў і Ленін змусіў яго сысці на два тыдні ў адпачынак. Яны пасяліліся ў падмаскоўным саўгасе, гулялі, хадзілі на паляванне. Раз Дзяржынскі застрэліў каршуна, але птушка зачапілася за галіны. Фелікс азартна залез на дрэва, каб зняць яе, а пасля сам набіў пудзіла.

## Канфлікт з Леніным

У 1922-м грузінскія камуністы, дабіваючыся аўтаноміі ад Масквы, не пагаджаліся з планам Сталіна ўключыць Грузію ў Закаўказскую федэрацыю з Арменіяй і Азербайджанам пад кіраўніцтвам Сярго Арджанікідзэ. Адбыўся канфлікт з лаянкай і абразамі, Арджанікідзэ назвалі «ж...ай Сталіна», той даў аплявуху крыўдзіцелю. Дзяржынскі, накіраваны ў Тыфліс разабрацца, стаў на бок Арджанікідзэ і Сталіна. Гэта выклікала шаленства хворага Леніна, які назваў Дзяржынскага «абруселым інародцам», які паводзіць сябе як царскі дзяржымарда-чарнасоценец. Магчыма, Дзяржынскі разумеў, што час Леніна мінае, і ставіў на Сталіна, у якім бачыў новага гаранта адзінства партыі бальшавікоў.
Гэта быў не першы выпадак, калі будучы «жалезны Фелікс» выклікаў незадавальненне Леніна. Правадыр сусветнага пралетарыяту быў вельмі раздражнёны, напрыклад, калі ў 1919-м уначы яго машыну проста на вуліцы Масквы спыніла і абрабавала банда налётчыка Кашалькова.

## Акцэнт

Дзяржынскі да канца жыцця не навучыўся чыста гаварыць па-руску — у Дзяржынаве гаварылі на беларускай і польскай мовах. У атэстаце Віленскай гімназіі Фелікс меў па рускай мове двойку, хоць гэта магло быць выклікана і нежаданнем гаварыць на мове акупанта. Яго і з гімназіі выгналі за канфлікт з настаўнікам, які назваў польскую мову «сабачай». З жонкай і сынам Дзяржынскі гаварыў па-польску.

## Пляменнік Дзяржынскага быў жанаты з пляменніцай Пілсудскага

Сын Альдоны, любімай сястры Фелікса, з якой ён многа перапісваўся, Антоні Ежы Булгак, у 1923-м ажаніўся з Вандай Юхневіч, пляменніцай Пілсудскага, і стаў ад'ютантам начальніка польскай дзяржавы.
Яшчэ адзін пляменнік Дзяржынскага, сын яго сястры Ядвігі, Ежы Кушлеўскі, быў капітанам II аддзела польскага Генштаба (вайсковай выведкі).
Маскоўскі ж пляменнік Дзяржынскага Раман Піляр рабіў кар'еру ў ВЧК: працаваў у нямецкім і польскім тыле, быў начальнікам НКВД па Сярэдняй Азіі. Яго расстраляюць у 1937-м як нібыта польскага шпіёна.

## ЧК як магільшчык эканомікі

Наркам замежнага гандлю Леанід Красін скардзіўся Леніну: «Пакуль нашы некампетэнтныя і цёмныя ў пытаннях прамысловай вытворчасці, тэхнікі і г. д. следчыя органы будуць гнаіць у турмах тэхнікаў і інжынераў, абвінавачваючы іх у выдуманых недавукамі-следчымі злачынствах — "тэхнічны сабатаж" або "эканамічны шпіянаж", — замежны капітал не распачне ў Расіі ніводнай буйной інвестыцыі».

## «Стаміўся жыць»

У апошнія гады, пабачыўшы, што крывавыя ахвяры не далі краіне эфекту, на які ён спадзяваўся, Дзяржынскі ўпадае ў дэпрэсію. Ён наракае Зіноўеву, Радэку, Сталіну на самаўпраўства намеснікаў, на адсутнасць перспектывы. І скардзіцца на сэрца.

# «Майго бацьку запрасіла ў Амерыку дзяўчына, якая планавала выйсці за яго замуж»

Вітаю, паважаная рэдакцыя!
У № 2 за 2019 год змешчаны ліст Андрэя Шымко, які расказвае, як ягоны прадзед Макар ездзіў у Амерыку на заробкі. На гэтую тэму і я хачу паведаміць сёе-тое.
Недзе ў 1912 годзе мой бацька Шорац Іван Паўлавіч (**на фота знізу — крайні злева**) паехаў у Амерыку за сродкі, якія даслала адна дзяўчына, плануючы потым выйсці за яго замуж. Ехалі ў Амерыку на цягніках да возера Байкал, па Байкале на параходзе, потым зноў на цягніку і параходзе. У той час уздоўж Байкала чыгункі не было. Працаваў у шахце, ногі ў вадзе, і такім чынам падчапіў такую хваробу, як рэўматызм. З той дзяўчынай не ажаніўся па невядомай мне прычыне.
Дома ў гэты час памерла матуля, а бацька ажаніўся з другой кабетай, вельмі сварлівай, яны нарадзілі сына. Па просьбах бацькі праз тры гады Іван вярнуўся на радзіму. Пакуль быў малады, хвароба не часта давала аб сабе знаць, а на старасці не ўставаў з ложка.
Ажаніўся з 17-гадовай дзяўчынай, пабудаваў хату, бо з мачыхай жыццё не цукар, і выгадаваў шасцёра дзяцей, я апошні.
У войска і на вайну не бралі праз хваробу. Памёр у 70 гадоў, калі мне было 20.
Больш падрабязна не ведаю, бо з дому давялося ўцякаць у 16 гадоў: калгас не цётка — дарма працаваць ніхто не хоча, ды і размова не пра мяне.
Жылі мы ў вёсцы Журыкі Вілейскага раёна Мінскай вобласці.

**Шорац А. І., Маладзечна**



**На здымку мой бацька крайні злева.** Напэўна, яшчэ не паспеў купіць гальштук, але потым купіў. Бо калі жыў у вёсцы, то ён адзін умеў яго завязваць, і калі зрэдчас хто меў патрэбу ў гэтым, звярталіся да яго.

# «Гралі ў бэрыка і калечка»

Маё дзяцінства і юнацтва прыпала на 1960–1970-я гады. Мяне моцна зачапіла гэта тэма, бо мы гулялі амаль што ва ўсе гульні, пра якія піша Святлана Курс у «Нашай гісторыі» № 2 (7). Хочацца да гэтага артыкула дадаць і свае гульні.

**Калечка**

Каля суседзяў была лаўка, на якой мы вечарамі любілі пасядзець і адпачыць (напрацаваўшыся і набегаўшыся за дзень). Усе сядзяць на лаўцы. Вядучы сціскае невялікі прадмет (звычайна каменьчык) паміж дзвюма далонямі і дакранаецца да самкнёных далоняў кожнага, але калечка дастаецца камусьці аднаму. Той ускоквае, адбягае, і разам з вядучым яны загадваюць словы, называючы першую і апошнюю літару. Хто адгадаў — той становіцца вядучым.

**Гарады**

Гулялі чалавек 5–7. Вялікае кола разбіта на аднолькавыя сектары. Кожны прыдумляе назву свайго «горада» і становіцца ў сектар. Вядучы падкідае мяч і называе горад. Усе разбягаюцца, а той, чый горад быў названы, лавіў мяч і, зрабіўшы тры падскокі, павінен быў трапіць у якога-небудзь гульца. Калі ён трапляў, то браў кій, ставіў ногі на шырыню плячэй і «адразаў» кавалак «горада», далучаючы яго да сваёй зямлі. Наступным вядучым станавіўся той, чыю тэрыторыю захоплівалі цалкам.

**Бэрык**

Таксама гулялі ў бэрыка. Кідалі мяч, называючы імя гульца, а той у сваю чаргу павінен злавіць мяч і трапіць у каго-небудзь. А «каляровы бэрык» адрозніваўся тым, што, калі вядучы называў выпадковы колер, гульцы павінны былі схапіцца за вопратку такога колеру. А таго, хто не паспяваў, вядучы павінен быў дагнаць.

Калі было кепскае надвор'е, то збіраліся дома. На гэты выпадак была наступная гульня. Бралі аркуш паперы, яго крэслілі на слупкі з загалоўкамі: «гарады», «рэкі», «рыбы», «жывёлы», «расліны» і г. д. Выбіралі выпадковую літару, і на яе трэба было хутка прыдумаць прыклады. Потым падлічвалі балы.

Начытаўшыся кніг пра вайну, мы арганізавалі каманду, каб рыхтаваць сябе да цяжкасцяў. Спаборнічалі ў тым, хто даўжэй затрымае паветра пад вадой, поўзалі па бэльках, перакінутых цераз глыбокі роў.

Мы вучыліся ў пятым ці шостым класе, калі здарылася так, што мой «камандзір» аднойчы стаў тануць па-сапраўднаму, а я на той час была «камісарам» атрада і кінулася яе ратаваць. Праўда, мне не ўдалося, але выратаваў яе брат.

У час свайго амаль саракагадовага педагагічнага стажу я часта выкарыстоўвала гульні майго дзяцінства. Сучасным жа дзецям, якія не адрываюцца ад тэлефонаў, я толькі спачуваю.

**Раіса Шумер, Камянецкі раён**

**Ад рэдактара.** Сапраўды! А калі гулялі ў бэрыка, то таго, у каго мяч, дражнілі: «Бэрык-бэрык, дай цукерак».

# Малюнак не Лангбарда, а Святліцкага

Добры дзень, паважаныя рэдактары.
У № 4 за 2019 год на с. 39 у подпісе да ілюстрацыі артыкула пра Мінск Станіслава Манюшкі няправільна пазначаны аўтар малюнка. Малюнак касцёла Фамы Аквінскага выкананы не Лангбардам,

**Завіталі на магілу Марка Шагала ў Сэн-Поль-дэ-Ванс, што на Лазурным беразе. Пахаваны ён у вельмі маляўнічым месцы, я вам скажу. Гарадок проста фантастычны! Ну і вось, у заплечніку быў нумар «Нашай гісторыі», то прывітанне Андрэю Дынько і ўсёй камандзе, якая выдае такі класны часопіс.**

Кірыл Атаманчык, Вільня


SHUTTERSTOCK.BY TRABANTOS

а Сяргеем Святліцкім.Так было пазначана на выставе «Горад, які мы не бачылі. Мінск на малюнках 1940–1950-х гадоў», якая праходзіла ў 2016 годзе ў мастацкай галерэі Леаніда Шчамялёва.

**Вольга Сакалова**

**Ад рэдактара.** Памылка прайшла, бо малюнак быў няправільна падпісаны ў Вікіпедыі. Мы звязаліся з Музеем гісторыі Мінска, і нам пацвердзілі, што малюнак сапраўды быў зроблены Святліцкім.

## Людзі — не вераб'і

Вераб'і харчуюцца зернем. Кітайцы пад кіраўніцтвам вялікага Мао абвесцілі ўсенароднае паляванне на шкодных птушак. Кітайцы паспяхова вынішчылі ўсіх вераб'ёў. Гэтым была парушана прыродная раўнавага, і дробныя арганізмы, якімі гэтаксама харчаваліся вераб'і, бязмерна распладзіліся і ўшчэнт вынішчылі кітайскія палі. Каб аднавіць прыродны баланс, КНР купляла ў Францыі тамтэйшых вераб'ёў і завозіла іх на новае месцажыхарства — у Кітай.

Людзі — не вераб'і. Інтэлект з-за мяжы не завязеш. Яго трэба выгадаваць, выпеставаць уласны. А ў нас ужо цэлае незалежнае пакаленне вырасла савецкім, дэнацыяналізаваным. Трэба, не саромеючыся, прызнаць сваю адсталасць ад цывілізаванага свету і вучыцца ў тых, да каго мы хочам наблізіцца. Вось ЗША — безупынна прыцягваюць мазгі з усяго свету, хоць ім і няма каго даганяць, бо яны — першыя. Раней нашы вялікія князі з мэтай інтэграцыі ў Еўропу запрашалі адтуль найлепшых майстроў, спецыялістаў, архітэктараў, медыкаў. Канечне, завабіць у цяперашнюю Беларусь замежных спецыялістаў высокага ўзроўню праблематычна. Значыць, нам самім найперш трэба вучыцца зарабляць.

Хочаш быць вольным, багатым і шчаслівым? Дык будзь ім.

**Віктар Савіцкі, Мінск**




**Дзень добры, калі пачынаецца са свежага нумара «Нашай гісторыі». Сёння нашай маме і бабулі — 94 гады.**

Аляксандр Рагойша

# «60-гадовы селянін Ісак Цітавіч Савіч быў расстраляны 6 красавіка 1933 года»

**Святлана Міхалоўская**
**шукае ўсё пра сваіх рэпрэсаваных сваякоў.**

Кожны год, па набліжэнні гэтай даты, недзе пад сэрцам я пачынаю адчуваць востры цвічок шкадобы па бязвінна забітым сваяку — прадзеду мужа, селяніне з вёскі Пярэжыр Пухавіцкага раёна Ісаку Цітавічу Савічу.

Так, пры словах «масавыя расстрэлы» кожны чалавек адчувае абурэнне. Але толькі тады, калі дзяржаўная машына забіла менавіта твайго блізкага чалавека, у душы падымаецца хваля: чаму менавіта яго, за што? 60-гадовы Ісак Цітавіч быў расстраляны 6 красавіка 1933 года разам з сотняй беларусаў, большасці з якіх ён наогул не ведаў, але, па меркаванні «органаў», разам з імі браў удзел у адной суполцы нейкай міфічнай «Партыі вызвалення сялян». Наогул, у пачатку 30-х органамі ОГПУ – НКВД якіх толькі партый не было выяўлена на тэрыторыі БССР!

У час масавых рэпрэсій, у атмасферы страху за сваё жыццё і жыцці дзяцей сваякі імкнуліся знішчыць усе рэчы і дакументы пра сувязь з рэпрэсаваным. Дарма шукаць фотаздымак Ісака Цітавіча ў сямейных альбомах. Нават у картатэцы рэпрэсаваных Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь пазначана, што яго фота ў справе КГБ адсутнічае.

У сямейных паданнях застаўся толькі слоўны партрэт прадзеда: ён быў высокі, прыгожы тварам, меў вялізны памер абутку. Але прырода часам стварае цуды: знешнасць прадзеда адбілася на тварах чатырох з пяці яго дачок — прыгожых, падобных адна да адной.

Прадзед быў добрым гаспадаром (менавіта з яго вялікай хаты калгасам у 30-я гады была зроблена школа) і разумным палітыкам. Упэўнены, што ўлада не пакіне яго ў спакоі, у канцы 20-х, калі пачалася калектывізацыя, склікаў дзяцей і абвесціў ім, што аддае ўсю сваю гаспадарку і дом у калгас. Пераехаў у маленькую хатку і стаў жыць аднаасобнікам.

Здавалася б, што дзяржава, атрымаўшы ад яго ўсе матэрыяльныя каштоўнасці, пакіне 60-гадовага старога дажываць свой век. Дык не, спатрэбілася ж і адабраць у яго жыццё. Навошта? Каб застрашыць іншых? Усё больш схіляюся да думкі, што тагачасныя кіраўнікі дзяржавы самі трэсліся ад паранаідальнага страху — яны баяліся такіх здатных, самастойных людзей і вынішчалі іх.

Апошні ўчынак прадзеда выклікае глыбокую павагу: у згаданай картцы рэпрэсаванага ў Нацыянальнай бібліятэцы ў графе «колькасць членаў сям'і» стаіць самотная адзінка — чалавек зрабіў усё, каб збавіць ад пакутаў жонку і дзяцей.

Па справе «Партыі вызвалення сялян» (далей у тэксце — «ПВС») на працягу 1932–1933 гадоў было арыштавана 110 чалавек, з іх 100 чалавек забітыя, 10 асуджаныя да 10 гадоў папраўча-працоўных лагераў (далей — ППЛ), усе — з канфіскацыяй маёмасці, а сем'і асуджаных сялян — з высылкай на 3 гады ў Паўночны край. Дагэтуль нідзе не публікаваўся поўны спіс абвінавачаных па гэтай справе. Я склала гэты спіс, карыстаючыся дадзенымі з дзвюх крыніц: кнігі «Памяць» Пухавіцкага раёна і дадзенымі аб ахвярах палітычных рэпрэсій, выкладзенымі на сайце «Жертвы политического террора в СССР» (www.base.memo.ru), — якія дапаўняюць адна адну.

Каго ж чэкісты запісалі чальцамі «ПВС»? Большасць — 77 чалавек — былі сялянамі: 54 аднаасобнікі і 23 калгаснікі. 7 чалавек былі кіраўнікамі розных калектываў або так ці інакш па спецыфіцы сваёй дзейнасці мелі зносіны з людзьмі (напрыклад, дырэктар цагельнага завода Іван Кратовіч, старшыня калгаса «Ураджайны край» Аляксандр Ількевіч, Мікалай Ліпскі, настаўнік Пухавіцкай СШ, пухавіцкі святар Георгій Перапечын). Астатніх жа 26 чалавек немагчыма аб'яднаць па якой-небудзь прыкмеце: тут і праваднікі цягнікоў, і службовец пошты, фельчар, гідратэхнік, міліцыянты, ляснік, трактарысты і нават чалавек без пэўнага месца жыхарства і без пэўных заняткаў (бомж?).

Фігуранты справы №7458-с нарадзіліся і жылі ў суседніх вёсках Пухавіцкага раёна: Забалоцце, Пярэжыр — па 13 чалавек, мястэчка Пухавічы — 11 чалавек, Матарова — 9 чалавек, Грабаўе — 8 чалавек, у астатніх: Малінаўцы, Наваполлі, Пясках, Раўчаку, Ясноўцы, Забычанах, Зацітавай Слабадзе і Сінінках — па 2 чалавекі і 12 чалавек у Мінску.


WIKIMEDIA COMMONS, BY ANDREJ KUZNIECYK

Прысуд усім членам спехам прыдуманай «ПВС» быў вынесены 02.04.1933, толькі ў Іллі Каленіка, Пятра Лунеца і Уладзіміра Райко пазначана дата прысуду 04.02.1933. Паколькі ўсе трое абвінавачваліся па адной справе, верагодна, розныя даты асуджэння — гэта памылка аператара пры аблічбоўцы дадзеных. Такога ж кшталту памылка прысутнічае яшчэ ў чатырох: Васіля Простака, Апанаса Дразда, Міхаіла Дразда і Хведара Дразда — дата 02.04.1932. Няма сумневу, што дату трэба чытаць як 02.04.1933, інакш атрымліваецца, што прысуд быў вынесены раней, чым адбыўся арышт. Даты расстрэлу Уладзіміра і Канстанціна Няпомнікаў — 06.04.1922 — наогул пакідаем без каментара. У Змітра Расолькі у абодвух дакументах адсутнічае дата расстрэлу. На 93 чалавекі — прынамсі 16 памылак у датах і імёнах. Гэта паказчык вышэйзгаданага феномена: калі людзей занадта, яны губляюць індывідуальнасць.

Калі ўважліва паставіцца да дат арыштаў членаў «ПВС», выяўляюцца цікавыя факты.

Першымі, 4 мая 1932 года, былі арыштаваныя двое мінчукоў: 17-гадовы хлопец, работнік мінскай пошты, які прыехаў у Мінск з вёскі Матарова, і 20-гадовы гідратэхнік мінскай балотнай станцыі, ураджэнец пухавіцкай вёскі Цагельня. Напэўна, 17-гадовы юнак, які знаходзіўся на сёмым небе ад шчасця, што яму ўдалося вырвацца ў горад з вёскі (згадаем галодны год, прадуктовыя карткі, указ аб увядзенні пашпартнага кантролю насельніцтва, які паставіў непераадольную сцяну перад ахвотнымі перасяліцца з вёскі ў горад), у запале юнацкага захаплення ад сваёй удачы дазволіў сабе неасцярожнае

выказванне на працы, за што і быў адзначаны адразу ў даносе мясцовага «стукача».

Адсутнасць арыштаў па справе цягам наступных чатырох месяцаў сведчыць аб тым, што маладыя хлопцы трымаліся мужна і ніякіх прозвішчаў не называлі (або не разумелі, якіх прызнанняў ад іх дамагаюцца следчыя). Толькі 28 жніўня быў арыштаваны трэці ўдзельнік справы — аднаасобнік-«кулак» з Забалацця, затым зноў перапынак больш чым на два месяцы — да лістапада, калі былі арыштаваныя трое: 22-гадовы калгасны рахункавод з Пярэжыра (прысуд — 10 гадоў ППЛ), праваднік чыгуначнай станцыі Мінск і мінскі міліцыянт. Пасля гэтага пачаўся вал арыштаў: у снежні арыштавана 66 чалавек (24 снежня дайшла чарга і да Пярэжыра: Ісак Цітавіч Савіч са сваім родным братам Сямёнам ехалі ноччу 24.12.1932 у адным «варанку» з шасцю іншымі пярэжырцамі), у студзені — 16 чалавек, у лютым — 14 чалавек і апошнімі — 15 сакавіка — былі арыштаваныя 3 трактарысты з Пухавіч. У гэтым раскладзе мною не ўлічаны тыя 5 чалавек, звесткі пра якіх былі ўзятыя толькі з КП Пухавіцкага раёна, дзе дата арышту не пазначана: Барыс Чахоўскі, Павел Сачак, Васіль Простак, Хведар Дрозд, Андрэй Моўчан.

Якія ж абвінавачванні былі прад'яўленыя падследным? Здавалася б, усе яны павінны праходзіць як члены або кіраўнікі створанай імі «ПВС». Аднак пэўная згадка гэтай арганізацыі прысутнічае толькі ў 89 чалавек, з якіх толькі чацвёра абвінавачваліся ў тым, што былі «кіраўнікамі суполкі “ПВС”» (хоць, згодна з абвінаваўчым заключэннем па справе, такіх суполак было выкрыта 11!): праваднік вагонаў Сямён Крывашчок, дырэктар цагельнага завода Іван Кратовіч, жыхар Мінска Сяргей Савіч і рабочы станцыі Мінск Аляксей Савіч. Абвінавачванні астатніх «злачынцаў» следчыя нават не паспрабавалі прывесці да агульнага назоўніка: у шасцёх ідзе гаворка аб удзеле ў контррэвалюцыйнай арганізацыі без назвы, у сямёх (у тым ліку ў Канстанціна Муравіцкага, Канстанціна Шышэя і Мікалая Ліпскага, якія ў абвінаваўчым заключэнні названыя «практычнымі кіраўнікамі контррэвалюцыйнай арганізацыі») запісана абстрактная «антысавецкая дзейнасць». Відаць, што «ляпілі» справы адна да адной у агульную, №7458-с, спехам.

На першы погляд здаецца, што абвінаваўцы спачувальна паставіліся да маладых: тыя 10 чалавек, каму было захаванае жыццё, мелі ўзрост ад 17 да 31 года. Але маладых — да 33 гадоў — сярод асуджаных было больш — 33 чалавекі. Першы з арыштаваных, кантралёр мінскай пошты Дзям'ян Крайко, наогул быў непаўналетнім — усяго 17 гадоў! Нікога не асуджаю (бо дакладна ведаю, што сама наўрад ці была б здольная вытрымаць бесчалавечныя «жорсткія метады допыту»), але хачу нагадаць, што паслабленні ў пакаранні даюцца за «супрацоўніцтва» са следствам.

Аналізуючы дадзеныя з «Мемарыяла», адзначым, што адначасова са справай №7458-с у гэты ж перыяд, з мая 1932 года па красавік 1933-га, у распрацоўцы «органаў» знаходзіліся яшчэ 29 спраў, па якіх былі арыштаваныя яшчэ 129 жыхароў Пухавіцкага раёна. Сярод іх былі і справы з «расстрэльнымі» прысудамі.

Вырак чальцам міфічнай «ПВС» быў вынесены 2 красавіка 1933 года. Возьмем гэтую дату за пункт адліку і, абапіраючыся на дадзеныя сайта «Жертвы политического террора в СССР», паглядзім, колькі чалавек таксама атрымалі свой вырак 2 красавіка 1933 года ў маштабах БССР. Атрымаем лічбу асуджаных 2 красавіка 1933 года па Мінскай, Віцебскай і Магілёўскай абласцях 254 чалавекі, з іх 184 атрымалі найвышэйшую меру пакарання. Дата расстрэлу па віцебскіх і магілёўскіх справах не пазначана, а вось у Мінску 6 красавіка 1933 года было расстраляна ў адну ноч 154 чалавекі! Гэта своеасаблівы антычалавечы рэкорд БССР, бо ён перавышае лічбу з даследаванняў Леаніда Маракова, па якіх гэты «рэкорд» быў усталяваны 29 кастрычніка 1937 года, калі ў адну ноч было расстраляна 132 чалавекі.

Лічбы, лічбы… За кожнай з іх — чалавечае жыццё ці жахлівая несправядлівасць, зробленая з кожным пэўным, хто выйшаў жывым з «мясасечкі», чалавекам, лёс якому зламалі, паздзекаваліся з яго, а пасля выпіхнулі, нават не папрасіўшы прабачэння, без дапамогі ў далейшым жыцці, якое трэба ладзіць на папялішчы.

Ці трэба нам памятаць пра гэта? Можа, лепш забыць, пахаваць у глыбінях памяці гэтыя жудасныя факты, паддацца ўласцівасці чалавечага мозга пазбаўляцца ад непрыемных успамінаў? Мяркую, што памяць аб гэтых бязвінных ахвярах павінна існаваць у нас, іхніх нашчадкаў. Гэта нейкая гарантыя таго, каб гэтыя жудасныя часы не паўтарыліся ізноў.

А зараз хочацца, хаця і са спазненнем, сказаць прадзеду Ісаку Цітавічу і ўсім бязвінна забітым: даруйце нам! Даруйце за выкінутыя з альбомаў вашы фота і спаленыя вашы дакументы, даруйце за крамольныя думкі пра вас, кшталту: калі ж пасадзілі, то было за што… Даруйце адрачэнне дзяцей ад сваіх арыштаваных бацькоў! Даруйце суседзям за даносы, бо не ведалі, што робяць! Даруйце за адсутнасць крыжоў на вашых магілах і няведанне месцаў саміх гэтых магіл! Даруйце і вы, што выйшлі з гэтага пекла жывыя, за тое, што не пачулі прабачэнняў за ўчынены над вамі гвалт і не адчулі падтрымкі ў адбудове зруйнаванага вашага жыцця! Даруйце за адсутнасць дня памяці ўсіх вас, бязвінна загінулых, і помнікаў вам… Пакуль гэтага няма — ніхто з нас не застрахаваны ад жудаснага паўтарэння. ◆



**Жонка Ісака Цітавіча Марыя Андрэеўна** з малодшай дачкой Надзеяй.

# Моцнае перабольшанне: колькі ваяроў насамрэч білася пад Оршай

Звычайна пішуць пра 80 тысяч маскавітаў супраць 30 тысяч нашых. 30/80 ужо стала своеасаблівым вымярэннем нацыянальнай годнасці: гэтым падкрэсліваюць высокі баявы дух нашых продкаў і майстэрства палкаводца Астрожскага. Але, як часта бывае, гістарычная праўда куды больш складаная. Калі вера ў перамогу над незлічонымі маскоўскімі ордамі для вас святая, не чытайце гэты артыкул, папярэджвае кандыдат гістарычных навук Алесь Казакоў.

НАЦЫЯНАЛЬНЫ МУЗЕЙ У ВАРШАВЕ

**Маскоўскае войска,** фрагмент «Бітвы пад Оршай».

### Чаму гісторыкі не давяраюць кананічным 30/80

У папулярнай версіі пра перамогу 30-ці над 80-цю тысячамі ёсць некалькі нестыковак. Па-першае, у іншых бітвах і аперацыях таго часу ўдзельнічала куды менш войскаў. На Вядрошы ў 1500 годзе Астрожскі камандаваў 3–4,5 тысячамі. Пад Клецкам у 1506 годзе Міхаіл Глінскі разбіў 4 тысячы татар з 6 тысячамі воінаў. Дзякуючы попісам палявых армій мы маем даволі дакладныя звесткі пра XVII стагоддзе — і аказваецца, што ў эпахальнай бітве пад Кірхгольмам 1605 года Ян Караль Хадкевіч меў пад сцягамі ўсяго 3400–3700 чалавек. А што тычыцца маскоўскіх сіл, то ў самай буйной аперацыі за час кіравання Івана Жахлівага — паходзе на Полацк 1563 года — удзельнічала 40–50 тысяч ваяроў. Гэта шмат, але ўсё ж далёка не 80.

Яшчэ адзін важны фактар: 80-тысячнае войска ў тых умовах мела б вялікія праблемы з харчам і фуражом. Любая армія імкнулася харчавацца за кошт тэрыторыі, праз якую праходзіла, а Усходняя Еўропа тады мела даволі нізкую шчыльнасць насельніцтва. Параўнаем нашу сітуацыю з Паўночнай Італіяй, якая ў канцы XV – першай палове XVI стагоддзяў стала арэнай міжнародных канфліктаў, вядомых як Італьянскія войны. Памеры палявых армій, якія хадзілі па гэтым густанаселеным краі, рэдка дасягалі 30 тысяч. Пры Фарнова (1495 год) французы мелі 10–11 тысяч супраць 20 тысяч войска італьянскіх дзяржаў, пры Равэне (1512 год) — каля 23 тысяч супраць 16 тысяч іспанцаў, пры Марыньяна (1515 год) — 33–38 тысяч супраць 22 тысяч швейцарцаў, пры Павіі (1525 год) — 20 тысяч супраць 17 тысяч імперскай арміі.

Пры гэтым тыя арміі на 70–90% складаліся з пяхоты. Цяжка ўявіць, як 80-тысячнае маскоўскае войска, амаль цалкам коннае (а конь патрабуе ў разы больш ежы за чалавека), магло сябе пракарміць на тэрыторыі з такой нізкай шчыльнасцю насельніцтва, яшчэ і спустошанай падчас папярэдніх паходаў. А калі ўлічыць, што


IANI DA
miani Senensis ad Leonem X. Pont. Max. de expeditione in Turcas Elegeia, cũ argutissimis doctissimorum uirorum epigrammatibus.
Epistola Pisonis ad Io. Coritium, de conflictu Polonorum & Lituanorum cum Moscouitis.
Henricus Penia ad Reuerend. Card. de Saulis, de gestis Sophi contra Turcas.
Epistola Sigismundi Poloniæ Regis ad Leonem X. Pont. Max. de uictoria contra Schismaticos Moscouios, apud Aras Alexandri Magni parta.
ERASMI ROTERODAMI EPISTOLA AD LEONEM X. Pont. Max. de laudibus illius, & noua Hieronymianorum operum æditione.
Eiusdem ad Reuerendiss. D. Grimannum S. M. Cardinalem Epistola.
Eiusdem ad Reuerendiss. Dn. Raphaelem Rearium tit. S. Georgij Cardinalem Epistola.
Eiusdem ad eximium sacræ Theologiæ Doctorem Martinum Dorpium Hollandum Epistola Apologetica de suarum lucubrationum æditione.
Eiusdẽ in laudẽ urbis Selestadij Panegyricũ Carmẽ
BASILEAE APVD IOANNEM FROBENIVM.

E-RARA.CH

**Тытульны аркуш выдання 1515 года «Iani Damiani Senensis ad Leonem X...»,** якое змяшчае ліст Якуба Пізы.

ратнікі звычайна ішлі ў паход на двух конях, і яшчэ тысячы коней патрабаваліся для абозу і чэлядзі...

## Такія вялікія войскі проста не змаглі б пракарміць сябе

У тую эпоху буйныя аперацыі, якія не прыводзілі да банкруцтва і лагістычнага калапсу, удаваліся толькі туркам-асманам. Але нават іх арміі не дасягалі такіх памераў і дзейнічалі часцей за ўсё на густанаселеных тэрыторыях з добра развітай дарожнай сеткай. Характэрна, што для блізкага паходу супраць персідскіх Сефевідаў султан Селім I сабраў ▶

Раней існавала версія і пра 40-тысячнае маскоўскае войска пад Оршай. Яна ўзнікла на падставе вядомай карты Вялікага Княства Літоўскага 1613 года, на якой напісана, што пад Оршай Канстанцін Астрожскі пабіў 40 тысяч «москаў». Але, хутчэй за ўсё, аўтар карты Тамаш Макоўскі меў на ўвазе менавіта страты маскавітаў: паводле найбольш папулярнай версіі, палова маскоўскай раці засталася ляжаць на полі бою.

▶ 60–70 тысяч ваяроў, а вось у Егіпет біцца супраць мамлюкаў павёў толькі 20 тысяч: тады армія мусіла зрабіць марш праз Сінайскую пустыню.

### Адкуль узяліся гэтыя лічбы

Падчас кампаніі 1514 года ў Вільню прыбыў легат Папы Рымскага Якуб Піза. Ён павінен быў садзейнічаць перамовам паміж Жыгімонтам І і Васілём ІІІ. У сталіцы Піза назіраў ваенныя прыгатаванні і апісаў іх у лісце да прыяцеля. Ён піша, што Жыгімонт сабраў вялікае наёмнае войска: 2 тысячы цяжкаўзброеных вершнікаў і крыху больш за 2 тысячы пяхоты. «Было таксама 30 тысяч вершнікаў, вельмі моцных мужоў», — дадае аўтар. Усяго атрымліваем 34 тысячы. Таксама Піза паведамляе, што 4 тысячы воінаў засталіся з Жыгімонтам пад Барысавам і прыбылі да Астрожскага ўжо пасля бітвы. Адсюль вынікае, што пад Оршай змагаліся 30 тысяч чалавек.

У 1515 годзе ліст Піза разам з іншымі творамі, прысвечанымі перамозе пад Оршай, выйшаў друкам. У выніку звесткі пра 30-тысячнае войска патрапілі ва ўсе хронікі і лічба стала практычна безальтэрнатыўнай. Да нядаўняга часу ёй давярала і большасць гісторыкаў.

Невядома, адкуль Піза атрымаў гэтыя звесткі. Але відавочна, што яго аповед грашыць перабольшаннямі. Напрыклад, ён сцвярджае, што на ўласныя вочы бачыў у Вільні 20 тысяч чатырохконных вазоў, падрыхтаваных для перавозкі харчу для войска — але такога быць не магло! У той час у ВКЛ не існавала цэнтралізаванай сістэмы забеспячэння войска. Акрамя таго, такая колькасць вазоў нават на 30 тысяч — занадта шмат. Для параўнання: у 1602 годзе 24-тысячнае нідэрландскае войска патрабавала ўсяго 3 тысячы вазоў. Таксама Піза піша, што вялікі князь маскоўскі, напалоханы паразай пад Оршай, так шпарка ўцякаў са Смаленска ў Маскву, што за суткі адолеў 300 міль (450 км). Гэта таксама хуткасці, для таго часу зусім немагчымыя.

У тым лісце Піза называе і памер маскоўскай арміі — 80 тысяч. Гэта была афіцыйная версія польска-літоўскага боку, якая тыражавалася ў літаратуры. Чым большая варожая армія, тым ярчэй ззяюць лаўры



BIBLIOTEKA EPOKI NOWOŻYTNEJ, T. III: BITWA POD ORSZĄ

**Маскоўскі вершнік.** Сучасная рэканструкцыя. Малюнак Мікалая Зубкова.

пераможцы. Дыпламатыя імкнулася максімальна выкарыстаць эфект ад аршанскай перамогі, і ёй гэта ўдалося. Цікава, што, паводле рэляцый Жыгімонта, маскоўскае войска, якое атакавала Смаленск у папярэднім, 1513-м, годзе, таксама сягала 80 тысяч.

### Колькі было насамрэч

Незадоўга да бітвы невядомы агент Тэўтонскага ордэна паведамляў пра становішча на маскоўска-літоўскім фронце. Паводле яго слоў, Жыгімонт сабраў 17 тысяч ваяроў. Шпіён мусіў даць дакладную інфармацыю, таму гэтыя лічбы выклікаюць давер.

Гэта, аднак, не адзіная альтэрнатыўная крыніца. У 1570—1580-х гадах польскі ваенны тэарэтык Станіслаў Сарніцкі стварыў трактат «Гетманскія кнігі». У ім ёсць і апісанне Аршанскай бітвы. Сарніцкі кажа, што пад камандаваннем Астрожскага былі «2 тысячы добра ўзброеных палякаў, 12 тысяч літвы, 3 тысячы пяхоты». Разам — тыя ж 17 тысяч, пра якія казаў ордэнскі агент. Верагодна, праз некалькі дзесяцігоддзяў пасля бітвы Сарніцкі карыстаўся крыніцамі, якія да нас ужо не дайшлі.

Больш складаная сітуацыя з памерам маскоўскага войска. Яго колькасць застаецца невядомай. Крыніцы не данеслі звестак, якія заслугоўвалі б даверу: дакументальныя сведчанні з канкрэтнымі лічбамі паходзяць толькі з другой паловы XVI стагоддзя. А спробы высветліць колькасць на падставе ўскосных дадзеных даюць гіпатэтычны вынік.

Аднак не падлягае сумневу, што пра 80 тысяч гаворкі ісці не можа. Зважаючы на заціяты характар бітвы, можна меркаваць, што маскоўскі бок не саступаў непрыяцелю ў колькасці. Але ці пераўзыходзіў?..

Нягледзячы на тое, што пад Оршай не маглі сысціся 110 тысяч чалавек і сотні тысяч коней, у нашым рэгіёне бітва застаецца адной з самых буйных ваенных падзей. Ужо сярод сучаснікаў яна атрымала назву «Вялікая бітва». ◆

# Каго называлі літоўскім Геркулесам


WIKIMEDIA COMMONS

**У Нацыянальным мастацкім музеі з вялікага партрэта строга пазірае сівы стары ў варанёных даспехах. Гэты рыцар — вялікі гетман літоўскі Юрый Радзівіл герба «Трубы», якога сучаснікі звалі Пераможцам, Віктарам, літоўскім Геркулесам, піша гісторык Андрэй Шпунт.**

У другой палове XIV стагоддзя пад Вільняй жыў Осцік (у хрышчэнні Крысцін), і быў ён паплечнікам князя Вітаўта Вялікага. Аўтограф Осціка ёсць пад шматлікімі дзяржаўнымі дакументамі, у тым ліку актам Гарадзельскай уніі 1413 года, калі ён атрымаў герб «Трубы».

Осцік пакінуў некалькіх сыноў. Адзін з іх, Радзівіл, і даў пачатак знатнаму роду. Сын Радзівіла Осцікавіча, віленскі ваявода і літоўскі канцлер Мікалай, па мянушцы Стары, заклаў падмурак магутнасці роду, стварыўшы латыфундыю, якая аб'ядноўвала Кейданы, Біржы, Дубінкі, Жупраны, Геранёны, Нягневічы, валасць Бобрык на Прыпяці і іншыя ўладанні.

У шлюбе з Сафіяй з Манівідаў Мікалай Радзівіл Стары меў чатырох сыноў. Малодшы, Юрый, пра якога пойдзе гаворка, нарадзіўся каля 1480 года.

**Гарадзельская унія** — саюз Вялікага Княства Літоўскага з Польшчай, заключаны ў 1413 годзе ў замку Гарадло на рацэ Буг. Быў закліканы ўмацаваць саюз дзвюх дзяржаў пасля пераможнага Грунвальда. Падчас заключэння уніі 47 каталіцкіх шляхецкіх родаў з ВКЛ упершыню атрымалі гербы.

### Трывожныя часы

XV стагоддзе было шчаслівым: быў спынены націск крыжакоў, слабелі татары. Але дзякуючы апошняму расправіла плечы Масква. І пачынаючы з 1492 года пачаліся цяжкія войны за так званую «айчыну» — землі, якія і Масква, і Літва лічылі па праве сваімі. Гэта быў працяг барацьбы за «збіранне Русі», якую пачаў яшчэ князь Альгерд у XIV стагоддзі.

У першай (1492–1494) і другой (1500–1503) войнах Вялікае Княства страціла вялізныя тэрыторыі. Асабліва цяжкім было паражэнне ў бітве на рацэ Вядрошы ў 1500 годзе, дзе загінуў цвет нашага рыцарства, а вялікі гетман Канстанцін Астрожскі трапіў у палон.

Пачатак вайсковай кар'еры Юрыя Радзівіла прыпадае на трэцюю вайну з Масквой. Да гэтага ж часу адносіцца і ўвогуле першая згадка пра яго. У студзені 1507 года 27-гадовы Радзівіл прыбыў у Кракаў на каранацыю новага караля і вялікага князя Жыгімонта I.

Вайна з Масквой пачалася вясной, пасля таго як пасольства Жыгімонта I ва ўльтыматыўнай форме запатрабавала вярнуць захопленыя гарады і землі. У студзені 1508-га становішча ВКЛ ускладніла паўстанне Міхаіла Глінскага, які моцна канфліктаваў са старой літоўскай знаццю. У маі аб'яднаныя сілы Глінскага і маскоўскіх войскаў трымалі ў аблозе Менск, спусташалі наваколле і рабілі рэйды аж да Слоніма.

У гэты складаны час удалося ўцячы з маскоўскага палону гетману Канстанціну Астрожскаму. Ён узначаліў войска ВКЛ, а ягонай правай рукой стаў Юрый Радзівіл. Праз некалькі месяцаў бакі падпісалі пагадненне — межы заставаліся нязменнымі.

### Супраць татар

У 1511 годзе літоўскі падчашы Юрый Радзівіл накіраваўся ў Кіеў, каб заключыць перамір'е ▶

Надворны маршалак ВКЛ Міхаіл Львовіч Глінскі ў пачатку XVI стагоддзя быў адным з фаварытаў вялікага князя. Але пасля смерці Аляксандра Ягелончыка, пры ягоным браце Жыгімонце, Глінскі з фаварытаў выпаў. Тады ён з прыхільнікамі выступіў са зброяй у руках, яго ў сваіх мэтах пачалі выкарыстоўваць крымскія татары і маскоўцы. Пасля заключэння міру ў верасні 1508-га Глінскі з братамі і васаламі перабраўся ў Маскву. Яго пляменніца Алена стане мамай Івана Жахлівага.

з крымскімі татарамі, што здзейснілі чарговы набег на ВКЛ.

За 150 км ад Кіева ва ўрочышчы Рутка разам са слуцкім князем Юрыем Алелькавічам Радзівіл разбіў татараў і вызваліў шмат палонных. А ў наступным годзе пад Вішняўцом на рацэ Гарынь (цяпер гэта Цярнопальская вобласць Украіны) войска Канстанціна Астрожскага разграміла крымскага хана Менглі-Гірэя і вызваліла 16 000 палонных. Радзівіл у гэтай бітве ўзначальваў кавалерыю на правым флангу.

### Супраць Масквы

Беспаспяховым паходам маскоўскага князя Васіля III на Смаленск, які належаў Вялікаму Княству, пачалася чарговая вайна паміж Масквой і ВКЛ восенню 1512 года. У чэрвені 1513-га маскоўскі князь паўтарыў спробу.

У лютым 1514-га было прынята рашэнне аб трэцім паходзе на Смаленск. У канцы мая маскоўскія ратнікі ўварваліся ў ВКЛ, а 31 ліпеня, пасля няспыннага абстрэлу з 300 гармат, Смаленск адчыніў брамы. Хутка маскоўцы занялі Мсціслаў, Крычаў, Дуброўну, перайшлі Дняпро і Друць і толькі каля Бярэзіны сутыкнуліся з перадавымі атрадамі Астрожскага.

8 верасня на рацэ Крапіўне адбылася бітва, вядомая як бітва пад Оршай. Юрый Радзівіл узначальваў у ёй лёгкую кавалерыю на правым флангу. Гэта з яго ўдзелам адбыўся славуты манеўр, калі маскоўская кавалерыя была заціснутая ў багністую даліну паміж Дняпром і Крапіўнай і там знішчаная.


WIKIMEDIA COMMONS

Барбара Радзівіл.

Далей вайна вялася ў форме асобных паходаў углыб чужой тэрыторыі. У 1517 годзе Юрый Радзівіл удзельнічаў у паходзе на Пскоўшчыну, а летам 1518-га разбіў атрады князёў Васіля Растоўскага і Васіля Абаленскага, якія рухаліся да Полацка.

Кульмінацыйным у той вайне стаў 1519 год. Удар з поўдня нанеслі саюзныя Маскве татары Багатыр-Салтана. Яны разграмілі войска Астрожскага пад Сакалем на Львоўшчыне. Пасля гэтага Васіль III з поўначы, усходу і поўдня пайшоў у кірунку Вільні. З вялікімі цяжкасцямі вораг быў спынены на лініі Крэва — Ашмяны — Меднікі. Пад Крэвам трымаў абарону Юрый Радзівіл. Прастаяўшы месяц, Васіль III павярнуў назад.

Летам 1520-га ваенныя дзеянні спыніліся, а праз два гады было падпісана пагадненне. Смаленск, які называлі «ключом ад Вільні», пераходзіў у склад Маскоўскай дзяржавы. Вялікае Княства прайграла вайну.

**Пасада падчашага была вельмі прэстыжная.** Той, хто яе займаў, мусіў карыстацца поўным даверам уладара, бо сярод іншага падаваў вялікаму князю напоі, папярэдне пакаштаваўшы іх сам.

### Супраць крыжакоў

Польшчы ў цяжкі 1519 год пашанцавала больш. Тэўтонскі вялікі магістр Альбрэхт здолеў падрыхтавацца да вайны толькі ў снежні. А вайна наспявала даўно. Калі ў 1512-м Васіль III уварваўся ў ВКЛ, вялікі магістр, як васал Польшчы, мусіў аказаць ваенную падтрымку. Але не зрабіў гэтага. Да таго ж у 1517 годзе заключыў з Масквой саюзны дагавор.

Стомленае Вялікае Княства афіцыйна не брала ўдзелу ў змаганні з нямецкімі рыцарамі. Але Юрый Радзівіл прайшоў усю вайну на чале ўласнага атрада як галоўны прадстаўнік Вялікага Княства. У выніку планамернага захопу гарадоў і крэпасцей Тэўтонскі ордэн страціў тры чвэрці сваёй тэрыторыі.

## Бітва пад Оршай, Прусія, разгром Менглі-Гірэя, вызваленне Гомеля — Юрый Радзівіл на пярэднім краі ўдзельнічаў ва ўсіх вялікіх войнах свайго часу

За ўдзел у вайне з ордэнам кароль узнагародзіў Юрыя Радзівіла. Ён стаў першым у ВКЛ польным (палявым) гетманам, намеснікам вялікага гетмана. Яго ўлада пашыралася на паспалітае рушанне, найманае войска, а таксама на павятовыя і прыватныя харугвы.

### Дыпламат і дзяржаўнік

Пачынаючы з 1508 года Юрый Радзівіл займаў шэраг важных пасад. Ён быў вялёнскім і мэйшагольскім намеснікам (Вялёна і Мэйшагола —

**Захоп палонных** (па-татарску — ясыр) быў важнай крыніцай даходу Крымскага ханства. Палонныя прадаваліся ў асноўным для працы на турэцкіх галерах. Тых, хто туды патрапіў, эксплуатавалі настолькі бязлітасна, што на рабскую сілу, каб мяняць знясіленых і памерлых, існаваў пастаянны попыт. Палонных татары звязвалі або прывязвалі да жэрдак, гналі іх разам з захопленай жывёлай. Натуральна, далёка не кожны мог фізічна вытрымаць настолькі складаныя ўмовы транспарціроўкі. Калі каму шчасціла пазбегнуць адпраўкі на галеры і застацца ў Крыме, то праз 5–6 гадоў палонных адпускалі. Частка пускала карані на новай радзіме.


WIKIMEDIA COMMONS

Жыгімонт I Стары.

замкі на тэрыторыі Літвы), кіеўскім ваяводам, гарадзенскім старастам (намеснікам), троцкім, віленскім кашталянам, надворным маршалкам. У 1516 годзе быў прызначаны камісарам па вызначэнні польска-літоўскай мяжы ад Тыкоціна да Ратна, а ў 1522-м — па дэмаркацыі мяжы паміж ВКЛ і Мазовіяй. Вяршыняй вайсковай і палітычнай кар'еры Радзівіла стала пасада вялікага літоўскага гетмана 1531 года.

Да 1530 года ўлада ў ВКЛ аказалася ў руках магнацкага трыумвірату — Альбрэхта Гаштольда, Юрыя Радзівіла і ягонага пляменніка Яна. Значэнне гэтых магнацкіх родаў ілюструе попіс войска ВКЛ. Радзівілы і Гаштольды выстаўлялі тады разам 1 073 коннікі, а ўсё астатняе войска, выстаўленае 56-ю князямі і панамі, налічвала 6 681 вершніка.

### Апошняя вайна

У 1533 годзе памёр Васіль III. Тады якраз абвастрылася барацьба за ўладу пры маскоўскім двары, ускладніліся адносіны з ВКЛ. Пасля адмовы новага вялікага князя Івана IV вярнуцца да межаў канца XV стагоддзя на Віленскім вальным сойме 1534 года было ўрачыста абвешчана пра вайну з Масквой. Велікакняжацкія ўніверсалы прызначалі на 4 красавіка збор у лагеры пад Менскам усіх харугваў ВКЛ.

На пачатку лета планавалася нанесці ўдар па памежных гарадах, але паветы пад сваімі харугвамі пачалі «конна і збройна» з'язджацца пад Менск толькі ў ліпені. 1 жніўня вялікі гетман зрабіў агляд і застаўся незадаволены якасцю і дысцыплінай войска.

Прамарнаваны час звёў на нішто першапачатковыя перавагі. Маскоўскі ўрад пры малалетнім Іване IV здолеў перамагчы баярскую апазіцыю. Таму вайна ў першы год ішла з пераменным поспехам: наступалі то адныя, то другія, але трывала замацавацца нікому не ўдавалася.

Узмацніўшы свае войска польскімі наёмнікамі, у ліпені 1535-га Юрый Радзівіл вызваліў Гомель, які знаходзіўся пад Масквой з пачатку XVI стагоддзя. Войска ВКЛ адваявала ўсю Северскую зямлю да Бранска і Мгліна. Але поспех быў часовым. На наступны дзень пасля ўзяцця Старадуба камандзіры польскіх наёмнікаў пачалі вяртацца ў Польшчу. Грошай у ВКЛ хранічна не хапала, і плаціць наёмнікам не было чым.

Сыход палякаў паўплываў на баявы дух войска, якое таксама пачало адступленне, пакінуўшы ўсе занятыя землі і захаваўшы за сабой толькі Гомельшчыну. Такі стан рэчаў быў зафіксаваны перамір'ем 1537 года.

Гэта была апошняя вайна «літоўскага Геркулеса». Яшчэ некалькі гадоў Юрый Радзівіл, ушанаваны за заслугі перад Айчынай залатым ланцугом, пакутаваў ад цяжкай хваробы — у тыя часы хваробы адрознівалі слаба. Памёр ён пасля Вялікадня 1541 года.

**Намеснік, ваявода, староста** — паўнамоцныя прадстаўнікі вялікага князя на асобных тэрыторыях.

**Кашталян** (ад лац. *castellum* – замак) — камендант крэпасці, горада або замка, начальнік гарнізона. Таксама выконваў у межах замка судовыя абавязкі.

**Надворны маршалак** – урааднік, які кіраваў гаспадарчымі справамі велікакняскага двара.

### След у гісторыі

Юрый Радзівіл добра бачны з далечыні стагоддзяў як палкаводзец. А вось як пра чалавека ведаем пра яго няшмат. Вядома, што любіў раскошу і заўсёды атачаў сабе пышным і шматлікім початам. У той жа час пакінуў пра сябе памяць і як набожны вернік і мецэнат: «Нямала на хвалу Божую пабудаваў касцёлаў... Пачынаючы з Вербнай нядзелі і аж да Вялікадня знаходзіўся ў касцёле ў роздуме і малітвах. А калі ў гэты час быў у Вільні, то, каб яму ніхто не замінаў, маліўся ў кляштары».

Не менш знакамітымі сталі нашчадкі Юрыя Радзівіла. Увогуле «літоўскі Геркулес» быў жанаты двойчы, але дзяцей (сына Мікалая і дачок Ганну і Барбару) меў толькі ў другім шлюбе — з Барбарай, дачкой падольскага ваяводы Паўла Колі.

«Геркулесаў» сын Мікалай з мянушкай Руды (1512–1584) займаў многія прэстыжныя пасады, здабыў на полі бітвы некалькі слаўных перамог. Ён атрымаў для сваёй часткі роду тытул князя Святой Рымскай імперыі «на Біржах і Дубінках».

А пра дачку Юрыя Барбару (1520–1551) чулі ўсе. Яна стала спачатку каханкай, а пасля і жонкай апошняга з Ягелонаў, Жыгімонта Аўгуста, напрыканцы свайго кароткага жыцця пабыўшы нават вялікай княгіняй і каралевай. ◆

# Духмяны КУМПЯК
## *з радзімай у Ашмянах*



**Пра наш традыцыйны выраб, роднасны іспанскаму хамону, італьянскаму прашута і балканскаму пршуту, піша доктар гісторыі Алесь Белы.**

Наогул, кумпяк — гэта частка свіной нагі, тое, што па-руску завецца *окорок*. Звычайна гэта частка задняй нагі, «сцягна». Але часам салілі і пярэднюю нагу, «лапатку». Салілі сухім спосабам або ў расоле і потым як след сушылі на паветры.

Слова «кумпяк» бытавала ў паўночнай частцы Беларусі, ад Ваўкавыска да Оршы. У паўднёвай частцы Беларусі, ад Навагрудка да Магілёва, такога слова не ведалі, казалі «сцягно».

Слова «кумпяк» паходзіць ад балцкага *kumpis*, які мае тое ж значэнне, і супадае па распаўсюджанні з тэрыторыяй, дзе раней жылі балты. Дарэчы, многія беларускія кулінарныя тэрміны маюць літоўскае паходжанне (а літоўскія — беларускае). Прытым менавіта літоўцы лічыліся асаблівымі майстрамі вэндзіць і вяліць мяса. У сучаснай літоўскай мове, дарэчы, слова *kumpis* азначае не толькі сыравяленае сцягно або лапатку (і свіную, але таксама і ялавічную, птушыную, барановую). Так яшчэ называюць свіную вяндліну ўвогуле. Але першым значэннем слова ў сучаснай літоўскай застаецца «крывы».

### Смак Вялікага Княства

Кумпякі праходзяць праз усю нашу гісторыю. У дакументах яны згадваюцца рэгулярна пачынаючы




**Кумпяк лепшы з чырвоным віном**, але смачны і з добрай вадою.

Славуты гаспадарчы даведнік XIX стагоддзя «Літоўская гаспадыня» выразна адрознівае «кумпяк» ад «шынкі» — паводле аўтаркі Ганны Цюндзявіцкай, тых жа самых свіных ног, але з нязнятай скуркай і з праслойкай сала. Сёння, здаецца, такую класіфікацыю ніхто не ўжывае.

**КУМПЯКІ**
(вытрымка з «Літоўскай гаспадыні»)

Гэта свіныя лапаткі, задняя і пярэдняя, з якіх знялі скуру, каб дадаць яе да сала. Некаторыя робяць іх распластанымі, дзеля чаго вымаюць з лапаткі костку, а мяса рэжуць слаямі — на кавалкі, не да канца разрэзаныя, што трымаюцца адзін за другі. Іх выцягваюць у прадаўгаваты пласт, зусім непадобны да лапаткі. Аднак такі спосаб, хаця і распаўсюджаны, нязручны, бо падрыхтаванае гэткім чынам мяса вэндзіцца з абодвух бакоў і, каб яго ўжываць, трэба шмат ад кавалка адразаць і выкідаць. Да таго ж яно хутчэй пачынае гарчыць. А цэлыя кумпякі пры старанным зберажэнні ад чарвякоў застануцца свежымі да позняй восені.

з XV стагоддзя. У тым ліку і ў Статуце 1588 года, у раздзеле, які вызначае кампенсацыі за нарабаваную маёмасць: «За полаць мяса дваццаць грошаў. За сала пятнаццаць грошаў. За ***кумпь*** два грошы. За мядніцу масла капу грошаў. За сыр вялікі вуглясты два грошы». У тагачаснай мове гэтае слова вымаўлялася як ***кумпь*** — як і ўсе словы, што ў сучаснай літоўскай маюць канчатак - іс: *kumpis*.

Хроніка Быхаўца XVI стагоддзя сцвярджае, што легендарны заснавальнік Ашмянаў і слаўнага роду Гаштольдаў меў імя *Кумп*, або інакш *Грумп* (у розных спісах сустракаюцца розныя варыянты). Праўда, не абавязкова гэтае літоўскае імя адсылала да часткі свіной нагі, магчыма, якраз да першаснага значэння слова — «крывы», «выгнуты».

Магчыма, гаворка ішла пра нейкі фізічны недахоп гістарычнага персанажа (гарбатасць?), а не пра яго любоў да вэнджаных кумпякоў. Тым не менш такое імя заснавальніка дае права ашмянцам дасціпна намякаць на спрадвечную сувязь з кумпякамі і прэтэндаваць, прынамсі жартам, на званне прарадзімы гэтага культавага гастранамічнага вырабу.

## Кумпяк лепш за ўсё есці з простым хлебам

А лівонская «Рыфмаваная хроніка» XIII стагоддзя распавядае, як захоплены крыжакамі каля 1245 года і трыманы ў палоне ў Рызе літоўскі князь Лунгвен (пляменнік Міндоўга) з болем даведаўся пра загібель малодшага брата, наваражыўшы гэта па костцы ад з'едзенага за абедам кумпяка. Такая варажба па костках была звычайнай справай у Сярэднявеччы. ▶




З КНІГІ «GERVĖČIŲ LIETUVA» (2013)

**Сыравэнджаныя кумпякі** на сцяне традыцыйнага літоўскага дома ў вёсцы Мільцэі каля Гервятаў у Астравецкім раёне. Пачатак 2010-х.

## Будучыня кумпяка

У Падляшскім ваяводстве Польшчы кумпякі канцэптуалізаваныя і зарэгістраваныя як традыцыйны выраб. Традыцыйны падляшскі вясковы кумпяк важыць 6–8 кг і ў даўжыню дасягае 35–40 см. Робіцца ён так. Кумпяк з часнаком, ядлаўцовымі ягадамі, зелянінай і перцам змяшчаюць у драўляную бочачку або скрынку з соллю, якая «выцягвае» з яго ваду і стабілізуе бактэрыяльную флору. Пры гэтым прынята выразаць костку, якая ідзе ад сустава да крыжа. Перыяд засолкі доўжыцца больш за два тыдні. Даўней працэс вырабу пачынаўся позняй восенню ці зімой, падчас забою свіней.

Апрацоўка праходзіць у прахалодных скляпах з глінянымі скляпеннямі без вокнаў, у так званых «каморах». Пасля салення мяса прамываюць ад залішняй солі і сушаць. Працэс даспявання, які ў добрага гаспадара доўжыцца як мінімум шэсць месяцаў, адбываецца на гарышчы, па суседстве з развешанымі вязанкамі араматычных зёлак. Пры гэтым прадукт дубянее, набывае характэрны водар і смак. Пасля яго можна захоўваць на працягу многіх месяцаў, нават не ў халадзільніку. Ужываюць яго, адразаючы тонкія скрылькі ўздоўж,

### Запечаны кумпяк (Пячыста)

Калі не лянота важдацца, можна купіць сярэдніх памераў кавалак тазасцегнавой часткі і прыгатаваць самастойна «кумпячок» запечаны. Прыкладна гэтак жа яго гатуюць у некаторых беларускіх рэстаранах.

- 1–2 кг свінога кумпяку (можна ўзяць і шыю, але гэта ўжо будзе не зусім кумпячок).
- Соль, перац, часнок, араматычныя прыправы на ваш густ.
- Марынад з кетчупу, маянэзу і гарчыцы (200—250 г на 1 кг мяса).

Прыкладна ў роўнай прапорцыі (1:1:1) змяшаць кетчуп, маянэз і гарчыцу. Замест маянэзу можна выкарыстоўваць аліўкавы алей, прапорцыі злёгку змяніць у адпаведнасці з вашымі густамі. Надрэзаць кумпяк у некалькіх месцах і нашпігаваць яго дробна нарэзаным часнаком, старанна нацерці сумессю спецый і солі. Марынаваць ноч у халадзільніку. Запякаць у духоўцы загорнутым у фольгу пры 200° каля 1,5–2 гадзін, да стану гатоўнасці. Пакінуць астываць у духоўцы на паўгадзіны.



**Лусцік добрага кумпяку літаральна растае ў роце, пакідаючы саладкаваты смак тлушчу і прысмакі труфеляў, траў.**


SHUTTERSTOCK_BY BONDVIT

**«Хаманэра»** — традыцыйная іспанская прылада для замацавання іспанскіх хамонаў пры нарэзцы, якую паспяхова выкарыстоўваюць і літоўцы для сваіх кумпякоў.

- Сушаны кумпяк **вельмі смачны з дыняй**. Рэкамендуем!
- Водар кумпяку надаюць зёлкі, якія вісяць у каморы, дзе ён сохне. **Добры кумпяк пахне добрым сенам.**
- Іспанцы сушаць **хамон** 2–3 гады. Італьянскае традыцыйнае **прашута** сушыцца не менш за год.
- Італьянцы ў свае прашута не дадаюць нічога, акрамя солі. Іспанцы ў некаторыя — але не ўсе — віды хамону дадаюць часам іншыя прыправы.
- Добры кумпяк каштуе **ад 60 даляраў за кілаграм**.
- Вы можаце смяяцца, але на кумпяк еўрапейскіх свіней **выкормліваюць жалудамі**. Для найлепшых гатункаў іх пускаюць выпасвацца на дварэ, у лес. Так, як гэта рабілі некалі нашы дзяды. Еўропа — яна і ў гэтым уменні захаваць вякамі адточаныя тэхналогіі, ва ўменні цаніць тонкасці.

зверху ўніз. Есці кумпяк лепш за ўсё з простым хлебам, які падкрэслівае вытанчанасць смаку і водару, атрыманых за час доўгага паспявання. Калісьці на кумпяку прынята было варыць баршчы, на Вялікдзень яго запякалі ў хлебным цесце.

На дзіва, у Літве кумпякі пакуль што не зарэгістраваныя як нацыянальны прадукт. Магчыма, таму, што літоўскі падыход да рэгістрацыі адрозніваецца. У Польшчы рэгіструецца сама канцэпцыя прадукту, і выгаду атрымлівае ўся супольнасць яго вытворцаў, якая прытрымліваецца зададзенага стандарту. А ў Літве ініцыятарамі рэгістрацыі традыцыйных прадуктаў выступаюць канкрэтныя прадпрыемствы, якім цяжка дамовіцца з канкурэнтамі і сфармаваць «капітулу», што выражала б супольныя інтарэсы.

Беларускія дзяржава і грамадства пакуль не адчуваюць патрэбы стандартызаваць беларускі кумпяк і паспрачацца з хамонамі ды прашута за сваю долю славы і прыбыткаў. У нас яшчэ вельмі мала дробных і сярэдніх вытворцаў мясных (і не толькі) прадуктаў, якія б культывавалі стары добры рамесніцкі дух, «свойскасць», вернасць старадаўнім тэхналогіям і «генію месца». Але кумпякі дзенідзе можна набыць і ў нас, хоць самога слова «кумпяк» буйныя вытворцы чамусьці саромеюцца. Хоць пры гэтым — дзіўная рэч — у многіх вытворцаў вы без праблем знойдзеце гэтак званы «кумпячок». У ідэале гэта мусіць быць частка вялікага кумпяка, тобок тазасцегнавой часткі свіной тушы. Хутчэй вэнджана-вараная, чым сыравяленая, засоленая з традыцыйнымі спецыямі (кмен, лаўровае лісце, каляндра). Але вакуумная ўпакоўка тоіць спакусу для несумленнага вытворцы! Мяса для «кумпячка» могуць узяць з любой часткі тушы і ці мала якія Е дакласці ў расол. Так што не палянуйцеся перад купляй разгледзець склад і рэцэптуру. ◆

**Мяса ў добрым кумпяку** павінна быць насычанага характэрнага чырвонага колеру.

**Кумпяк не ядуць халодным.** Цёплым ён аддае свае пахі і адценні смаку.

**Праслойкі сала між мясам** — вось што надае добраму кумпяку асаблівы смак.


SHUTTERSTOCK_BY NADISJA

# Ніна і Пятро Глебкі: неканвенцыйнае каханне народнага паэта Беларусі

**Ніна зацяжарыла ад іншага, але не змагла з гэтым жыць. Яны здраджвалі адно аднаму і ўзаемна дзяліліся гэтым. Але да канца жыцця звярталіся адно да аднаго «родны мой ветрык» і «белая мая сняжынка».**

**Яны былі разам больш за сорак гадоў, на якія прыпалі калектывізацыя, рэпрэсіі, вайна. Яны перажылі яго і яе каханак, нянавісць суседзяў і праклёны сям'і, з якой яны забралі дзіця. Піша Ганна Севярынец.**

### Падмурак і глеба

Пятро Глебка, сялянскі хлопец з Вялікай Вусы на Уздзеншчыне, пазнаёміўся з карэннай мінчанкай Нінай Бялькевіч у Белпедтэхнікуме.

Пятро быў зоркай: малады, але ўжо знакаміты паэт.

Ніна была звычайнай студэнткай: чорныя вочы, акуратныя косы, модны кажушок і навюткія боцікі.

Ён — летуценны і раздураны закаханымі прыхільніцамі. Яна — спакойная і практычная дзяўчына строгіх правіл.

«Яна такая харошая, што мне часта хочацца рабіць ёй больна», — шчыра запісвае ў дзённік Пятро.

«Мне страшна згубіць майго ветрыка. Я нічога не хачу, няхай ён мучыць, здзекуецца з мяне, але няхай толькі дазволіць мне быць каля яго. Ён жа страшна малы яшчэ і яго трэба глядзець. А хто гэта здолее зрабіць лепш за мяне?» — занатоўвае ў дзённіку Ніна.

Яны абое старанна вядуць дзённікі, пішуць іх акуратнымі літарамі, Ніна нават некалькі разоў перапісвае некаторыя нататкі, папраўляе стылістыку, удакладняе фармулёўкі. Такія дзённікі пішуцца дзеля таго, каб іх нехта чытаў. Напрыклад, каханая жанчына. Ці каханы мужчына.

Потым, калі яны пабраліся шлюбам, панесліся лісты: па два, па тры на дзень. «Пісаў бы табе больш, але страшна трасе і хлопцы высмейваюць», — гэта прызнанне Пятра з трэцяга ліста, напісанага з цягніка,




**Ніна і Пятро на дачы ў Ждановічах**, 1950-я.

якi яшчэ не паспеў даехаць да Харкава.

Не толькі з падарожжаў: нават сыходзячы на заняткі альбо ў бібліятэку, яны пакідалі пяшчотныя цыдулкі са справаздачамі, просьбамі і абавязковымі «буськамі»: «Ніка! Я пайшоў у Дзяржаўную бібліятэку і забаўлюся там, пэўна, да гадзін дзевяці. (Калі толькі яна адчынена да дзевяці.) Ты калі будзеш ісці ў тэхнікум, дык зайдзі паглядзі на свайго Ноніка, а пакуль дай любкі для бусек, і модачку, і ласкі, і носік — я іх зацалую. Ну, бывай — чуць у сантыменталізм не падаўся! Пятрусь». — «Нонік! Зараз я іду ў тэхнікум рабіць прывіўку, а адтуль пойдзем на выступленне ў нашу падшэфную вёску Лошыца (вёрст шэсць). Бывай здароў, мой Нонік-лямчык. Адзін маленечкі бусячык у носік перадай “Нікі Нонікавай Ноніку Нічынаму”».

Нонік — такую мянушку даў Глебку Кузьма Чорны: Глебка надта любіў паспаць, аж да самага абеду, дык Чорны, жартуючы, казаў: «Эх ты, соня-ноня». Ніка — так зваў Ніну толькі Пятро. «Любкі» і «ласкі» з іх лістоў — гэта «губкі» і «вочкі», «лямчык» — мальчык, «модачка» — мордачка. Абое адрасаты шчодра перасыпаюць лісты сваёй уласнай інтымнай мовай.

Ступень шчырасці паміж імі ўражвае. «Перад ад’ездам Нонік атрымаў ліст ад сваёй знаёмай Л. Ж. з Віцебска. Па яго словах, гэта дзяўчына надзвычай прыгожая,

У дзённіку Ніны ёсць такі запіс: «Нашы дачыненні адзін да аднаго, якія на першы погляд здаюцца добрымі і шчаслівымі, — усё ж у сваёй аснове маюць надзвычай вялікую трагедыю. У нас няма дзяцей. Яго юнацтва было бурным, і чалавек не здолеў зберагчы сябе. Першыя гады нашага сумеснага жыцця праходзілі весела і радасна, але з кожным годам адчуванне незадаволенасці жыццём усё больш і больш узрастала. Прага мець дзіця, сваё ўласнае дзіця — маленькую бездапаможную істоту, якую потым выхаваць у вялікага і моцнага змагара, прывяла да таго, што я пачала жыць з чалавекам, які не выклікаў у мяне зусім ніякіх пачуццяў прыхільнасці».



З ПРЫВАТНАГА АРХІВА ЛАРЫСЫ ГЛЕБКІ

**Дзяўчынку-яўрэйку Лару забрала сабе дыктарка «Краёвай радыёстанцыі Менск» Ніна Глебка** (зверху фота **).** Яна ўратуе яе ад даносаў з дапамогай фота, на якім маленькая дорыць букет гаўляйтару Кубэ. **Мама Лары Няхама Жытніцкая (справа)** загіне ў гета. А сама Лара пасля вайны адмовіцца вяртацца да родных таты і бабулі: настолькі лепш ёй жылося ў новай сям'і.

але недалёкая. І ўсё ж мяне гэта непакоіць. Хочацца зрабіць так, каб яна ведала, што я ў курсе спраў усяго асабістага жыцця Ноніка, што ён нават кожную маленькую дробязь гаворыць мне. Хочацца крыху пазліць яе. Я ж вялікая злосніца», — піша Ніна ў дзённік. Думаецца, той, дзеля каго яна гэта піша, словы гэтыя абавязкова чытае.

За першыя гады свайго раману яны паспелі зрабіць вялікі запас кахання і даверу, пяшчоты і ласкавых мянушак, уласнай мовы і рытуалаў.

## Першыя выпрабаванні

Разам з 1930-мі прыходзіць страх. Яна дае яму парады адносна «Узвышша» і Дома пісьменнікаў, ён пільна сочыць за яе правільным настроем па вострых палітычных пытаннях. І здараецца першая сямейная драма. Ніна, змучаная нясцерпным жаданнем мець дзіця, — Глебка бясплодны, — вырашае зацяжарыць ад іншага.

Здаецца, Пятро спачатку прымае такое рашэнне жонкі, але з цягам часу разумее: не. Не здолее, не прыме дзіця ад іншага. Будзе ўвесь час думаць пра таго, другога. Гутаркі, прызнанні, слёзы, тлумачэнні. Ніна робіць аборт, доўга хварэе. Пятро кідае пісаць, пачынае шмат піць.

Увосень 1936-га Пятро раптам знікае з дому. Нібыта едзе да бацькоў у Вялікую Вусу, літаральна на дзень — і не вяртаецца. Ані лістоў, ані тэлеграм, ані звестак. Праз знаёмых Ніна дазнаецца, што нібыта муж тэлефанаваў Янку Купалу, прасіў выслаць грошай. Чаму не прасіў у яе, чаму не тэлефанаваў ёй? Яе лісты ў Вусу перапоўненыя трывогай, крыўдай, неразуменнем. Адказу няма. Але праз некаторы час з’яўляецца сам Глебка. Ім хапіла некалькіх словаў, каб паразумецца. Ішлі павальныя арышты пісьменнікаў. Па некалькі чалавек за адну ноч. Дзясяткі — і ўсе калегі, знаёмыя, сябры, усе так ці інакш звязаныя з Глебкам. І ў Пятра не вытрымалі нервы. Зараз Ніна ▶

ў сваіх лістах будзе клапатліва і метадычна падказваць Пятру, чые прозвішчы выкрасліць з карэктур артыкулаў, якія яна часам прыносіць з выдавецтва.

### Вайна і акупацыя

У чэрвені 1941-га Пятро і Ніна выходзяць з палаючага Мінска. З імі — скульптар Андрэй Бембель і ягоная жонка Вольга. Спыняюцца ў маленькай вёсцы: стомленыя жанчыны і дзеці не хочуць ісці далей, але ж мужчынам заставацца небяспечна і яны маюць абавязак камуніста. Вырашана: мужчынам ісці далей, жанчынам — перачакаць тут, усё адно вайна працягнецца ўсяго некалькі месяцаў і можна будзе вярнуцца дахаты.

Так яны апынаюцца па розныя бакі фронту: Пятро дойдзе да Масквы і ўвойдзе ў склад рэдакцый газет «Раздавім фашысцкую гадзіну» і «За Савецкую Беларусь», Ніна стане супрацоўніцай калабарацыйнага радыё і ў 1944-м выедзе з Мінска разам з немцамі.

Думка пра Ніку неадступна пераследуе Пятра ўсю вайну. Як там яна, што з ёй, ці жывая, ці не здзекуюцца з яе немцы? Потым: як?! Яна?! На гэтым радыё?! Як яна можа чытаць гэтыя словы, як можа прамаўляць супраць той краіны і той улады, якую разам будавалі?! Яшчэ пазней: няўжо ж яна не звязаная з нашымі, няўжо ж не спрабуе змагацца?

На пачатку 1944 года Панцеляймон Панамарэнка, тагачасны кіраўнік КПБ і партызанскага руху, выклікаў да сябе Пятра Глебку. «Ну, што, Пятро... Жонка твая... Ніна... Там, пад немцамі, дачку сабе нажыла». Ён быў вялікі жартаўнік, таварыш Панамарэнка.

А Ніна, сапраўды, нажыла сабе дачку. Маленькую габрэйскую дзяўчынку Лару, дачку Няхамы Жытніцкай, уратавалі ад немінучай смерці ў гета Бембелі, але іх суседзі — «Вы падстаўляеце ўвесь дом, хаваючы тут габрэйку!» — гразілі данесці ў паліцыю. Тады Лару забрала сабе Ніна Глебка. Навучыла называць сябе «мамай». Ніколі не выпускала адну на вуліцу, паўсюд — за руку. Затуляла


ЦЭНТРАЛЬНАЯ НАВУКОВАЯ БІБЛІЯТЭКА НАНБ

Пятро і Ніна ў 1927 годзе.

сабой, калі бачыла нечы пільны погляд. А калі ў Мінск прыехаў генерал-камісар Вільгельм Кубэ, «легалізавала» сваю Лару самым нечаканым чынам. Рыхтавалася ўрачыстая сустрэча Кубэ, у колах беларусаў, што супрацоўнічалі з новай уладай, шукалі прыгожую дзяўчынку — апрануць у беларускі строй, даць у рукі букет кветак, прывітаць генерал-камісара «Беларутэніі». Не ўсе хацелі такой ролі для сваёй дачкі. «Вазьміце маю Лару», — папрасіла Ніна. Вялікі фотаздымак, на якім Лара ўручае кветкі Кубэ, вісеў усю вайну ў доме, дзе жылі Ніна, Лара і старыя Бялькевічы. Паліцаі зойдуць, пабачаць — і на выхад.

З 1943 года праз сувязных з Нінай усталявалі сувязь партызаны атрада маёра Сцяпана Казанцава. Падступаліся да яе асцярожна: усё ж супрацоўніца нямецкага радыё. Але ўжо былі наладжаныя сувязі з яе стрыечным братам Мікалаем Качарэўскім, які ўдзельнічаў у працы падпольнай групы на Мінскай чыгунцы, працавала яўка на кватэры Ніхінага дзядзькі Мірона ў Забалоцці, дый сама Ніна — жонка Пятра Глебкі, ардэнаноснага беларускага паэта. Павінна быць «нашай».

Праз Ніну Глебку атрад Казанцава атрымаў пішучую машынку, яна арганізавала перадачу медыкаментаў і бінтоў, у доме на Старой Мацвееўскай перахоўвалі лістоўкі і зброю — партрэт Лары на руках Кубэ ратаваў. Напрыканцы 1943-га праз Казанцава Ніне ўдалося перадаць ліст да Пятра — трымаючы яго ў руках, і жартаваў са збялелага Глебкі Панамарэнка.

### З надзеяй і без

Вайна не адмяняе пачуццяў. Людзі і пад кулямі кахаюць, спадзяюцца, сыходзяць і вяртаюцца.

Ніна сама потым раскажа Пятру (а яшчэ раней за яе раскажуць добрыя людзі), як хадзіў да яе пад вокны прыгожы доктар Барыс Гузарэвіч. Бацькі гналі яго, каб не сараміў дачкі, але ён прыходзіў зноў. І Ніна... збягала на прагулкі з ім. У 1943 годзе СД арыштавала групу медработнікаў, праз якіх сыходзілі «ў лес» медыкаменты. Узялі і Гузарэвіча. У ноч пасля арышту, не чакаючы першых допытаў, доктар расціснуў зубамі ампулу з атрутай, якую трымаў за шчакой.

Раскажа і Пятро Ніне. У 1942 годзе да іх у рэдакцыю накіравалі дзвюх дзяўчат, Лену і Лілю. Рэдакцыя тады стаяла ў падмаскоўным Калбасіне, побач — вайна, баі, смерць і невядомасць, а ў Калбасіне — лета, цішыня, рака і сонца. Зразумела, што пад гэтым сонцам успыхнулі два раманы: Ліліна сэрца скарыў малады прыгажун Пімен Панчанка, Лена Межыгурская закахалася ў Пятра. Гэта было няпростае каханне: адчуўшы спагаду і разуменне неабыякавага чалавека, адказаўшы на шчырыя пачуцці, Пятро даў волю свайму сапраўднаму болю. Ён бясконца гаварыў з Ленай пра Ніну. Праз некалькі месяцаў, калі сярод супрацоўнікаў рэдакцый шукалі добраахвотнікаў перапраўвіць цераз лінію фронту паходную друкарню, Лена і Ліля прынялі рашэнне ісці ў акупаваны Мінск. Ліля — бо прыгожы каханак нічога ёй не абяцаў. Лена — бо каханы чалавек пакутаваў. Яна абяцала яму даведацца пра Ніну. Але абяцанне сваё Лена Межыгурская не выканала. Пры пераходзе лініі фронту абедзве дзяўчыны зніклі без вестак.

### З Мінска ў Берлін, з Берліна ў Мінск

А цяпер проста паспрабуем уявіць сабе.

1944 год, ліпень. Мінск толькі-толькі вызвалены. Пятро Глебка імчыць у горад на папутцы.

«Сэрца аж не ўрымсціцца: а як жа дом, а як жа нашы, ці жывыя хаця? Дзесьці цепліцца харошая надзея. Гаспадары машыны, на якой мы прыехалі, возяць нас па горадзе, шукаючы сваіх прыстанкаў. Мы не можам ад іх адлучыцца, бо на машыне нашы досыць цяжкія чамаданы. Нарэшце мы з Броўкам не вытрымалі і, пакінуўшы рэчы на догляд Пестрака, рушылі на Розу Люксембург. Набліжаемся да пераезду, дом наш, відаць, стаіць цэлы. Зараз убачу яе, каторую не бачыў тры гады, але насіў заўсёды ў сэрцы. Памятаю, што мне тады прыйшла бязглуздая думка: пайсці з ёю зараз жа ў горад, па свежых слядах яго мук і барацьбы; яна мне пакажа, як мой горад пакутаваў і змагаўся, пакажа месцы, дзе паміралі і біліся насмерць за свой гонар, за свабоду, за наша шчасце. Адчыняю брамку. На двары — нікога. Уваходзім на веранду. З крыкам і плачам кідаецца маці. Я чакаю, што зараз выбежыць Ніна. Яе няма. Пэўна, ад усхваляванасці не можа і ступіць. Бедная! Кідаюся ў хату. Бацька. — А дзе ж Ніна? Следам з плачам уваходзіць маці: — Ніна выехала ў Германію. — Мяне як громам ударыла. Я, акамянелы, апусціўся на крэсла. Праз нейкі час я запытаўся: — Што яна мне пакінула — пісьмо, запіску, сказала што-небудзь перадаць? — Не. — Я адчуў, што здарылася нешта незразумелае і страшнае. Пайшлі дні».

Глебку не адразу паведамяць, што Ніна з'ехала па загадзе партызанскага штаба. Якія задачы перад ёй ставілі — пра гэта ў дзённіках нідзе ні слова.

А добрыя людзі — суседзі, знаёмыя — ад усяго сэрца дапамагалі. Расказалі, як з немцамі гуляла, і з Гузарэвічам, і цукеркі ела, і габрэйскую дзяўчынку адкрыта выхоўвала, і нічога ёй не было...

Але быў запас бязмежнага даверу, усёдаравальнага кахання.

Глебка адшуквае Ніну ў Берліне — дапамаглі знаёмыя франтавыя карэспандэнты. Ніна адразу ж адказвае. Панамарэнка абяцае выслаць у Берлін свой самалёт, каб забраць Ніну з Ларысай, і самалёт ляціць, але ж Ніна не вяртаецца. Глебка просіць: выбірайся сама. Яна адмаўляецца: то сама захварэла, то Лара. Мусіць, яна наўмысна цягнула час, бо не была ўпэўненая, што яе чакае. Ніякіх доказаў сваёй супрацы з партызанамі на руках не было. Таму яна, каб перастрахавацца, выключыць арышт, прасіла «Ноніка», каб ён асабіста прыехаў і забраў.



З ПРЫВАТНАГА АРХІВА ЛАРЫСЫ ГЛЕБКІ

**У двары бацькоўскага дома** з роднымі.

Нарэшце Ніну і Лару па тэлеграме («По распоряжению тов. Пономаренко отправьте в Минск жену писателя Глебко — Глебко Нину Илларионовну с дочерью, находящейся в Берлине по улице Грайфсвальдерштрассе, 33а») забірае чарговы вайсковы самалёт на Мінск.

**Пасля вайны прыёмная дачка Глебак не захацела вяртацца да роднага таты. Дарма родная бабуля шаптала ёй: «Ты яўрэйка, а не беларуска»**

**«Я стала плакаць»**

А ў 1947 годзе ў Мінск вяртаецца мастак Марк Жытніцкі — родны бацька Лары. Ён быў арыштаваны ў 1937-м і асуджаны да 10 год лагера за трацкізм (у студэнцтве трапіў на нейкі мітынг, дзе выступаў Троцкі). Акрамя Лары, роднай дачушкі, якую люляў ва ўспамінах усе дзесяць лагерных гадоў, нікога ў яго не было: Няхама, маці Лары, загінула ў гета.

Амаль адразу Жытніцкі прыйшоў да Глебкі: дзякуй за ўсё, я прыйшоў забраць дачку. А той не аддаў.

Паміж імі адбылася няпростая гутарка: маўляў, давай глядзець цвяроза. Дзе Лары будзе лепш? На табе лагернае надзета, ані дома, ані працы. А я вядомы паэт, ардэнаносец. Марк Жытніцкі не адступаўся. Ажаніўся з сястрою былой жонкі — каб была сям'я. Адбудаваў хату, каб быў у Лары дом. Хадзіў да дачкі — угаворваць. Тая не пагадзілася. Пазней успамінала: «Бацьку свайго роднага ў дзяцінстве я амаль не памятала. ▶



**Кандрат Крапіва, Пятро Глебка, Пятрусь Броўка, Ніна Глебка.** 1960-я.

Бачыла яго ў свядомым узросце толькі аднойчы — мы з мамай ездзілі да яго, здаецца, маме ўдалося дабіцца спаткання. Я памятаю, як у 1945 годзе па мяне прыйшла мама маёй роднай мамы. Вайна скончылася. Я гуляла дома. У вароты пачалі так гучна стукаць. Я пабегла адчыняць. І вось адчыняю — а на мяне нешта такое вялізнае валіцца, я не пабачыла, ні хто, ні што, зверху navалілася, абдымае і шэпча: "Ты не беларуска, ты яўрэйка, зараз жа ідзём адсюль!" Як я спалохалася! Для мяне за вайну слова "яўрэйка" было такім страшным! Мяне ад гета ўратавалі, мама мая ў гестапа загінула... Я стала плакаць, вырывацца. Бо можна было неяк зрабіць гэта па-людску... Так, Глебкі мяне не аддалі. А як яны маглі гвалтам аддаць мяне? Я баялася».

**«Мне бывае душна ад таго, што вялікі цяжар нясу, і нясу я яго адзін»**

### Наша апошняя святыня

Далей было працейшае жыццё. Цяпер у лістах Ніна просіць Ноніка прывезці з замежных паездак для дачкі беленькія панчошкі ці сукенкі, потым — касцюмчыкі для ўнукаў. Улетку адпачываюць на дачы. Узімку — акадэмічныя абавязкі дырэктара Інстытута этнаграфіі і няспынны хатні клопат Ніны Іларыёнаўны.

Цяпер, нарэшце, яны могуць дазволіць сабе і звычайныя сямейныя непаразуменні. Як заўсёды, і ў гэтых выпадках яны пішуць адно аднаму сумныя, роспачныя альбо выбачальныя лісты.

«Ніка! Мы стаялі з табою сягоння над магілаю, куды мы ўсе памаленьку прыйдзем. І шлях туды застаўся ў нас не такі ўжо доўгі. Добрая палавіна пройдзена, ужо добра ці дрэнна, але пройдзена. З гэтай палавіны мы палавіну ішлі разам (хутка 20 год, як мы тупаем туды, і ўсё разам). Я не ведаю. Магу толькі сказаць, што мне бывае душна... Не ад таго, што высока падымацца, а ад таго, што вялікі цяжар я нясу, і нясу яго адзін. Мы ўжо ў такім веку, што ні ты, ні я не перапробім ні сваіх характараў, ні зменім сваіх прынцыпаў. Ты гаворыш, што нават Лару нельга пераламаць. А мяне, а цябе? Тым больш! Дык навошта ламаць? Ёсць сонца пад блакітным небам. Яно акрые нас усіх і сагрэе. Будзьце такімі шчаслівымі, як я вам таго жадаю. Помніце аба мне, але не таіце злосці і крыўды. Магчыма, што мы ўсе толькі ашчэпкі нашай неўраўнаважанай эпохі. Дык навошта ж крыўда і гнеў? Будзем сумленнымі і пастараемся зрабіць усё для шчасця другога. Усё, абы мне толькі не гаварылі, што ўтапталі ў гразь нашу апошнюю святыню — шчырае жаданне радасці другому. Мы не ведаем, дзе гэта радасць ляжыць, і шукаем яе на розных сцежках. Пойдзем жа кожны тою, якая яму здаецца найбольш прыдатнай. А ідучы, не забудземся безупынна жадаць адно аднаму шчасця. Нонік». ◆

# ЯК ПРАЦУЕ АЗІЯ
## *і што не так з Кітаем*

**У чым сакрэт імклівага эканамічнага росту «азіяцкіх тыграў»? Працавітасць, клімат, палітычная сістэма, грамадскія інстытуты ці амерыканская дапамога? Чаму ў Паўднёвай Карэі, Японіі, Тайваня, Кітая атрымалася, а ў Інданезіі і Філіпінаў — не? У азіяцкім эканамічным буме ёсць нешта ўнікальнае ці эфект будзе спрацоўваць і ў іншых рэгіёнах? Пра кнігу «Як працуе Азія» (*«How Asia works»*) брытанскага рэпарцёра *The Financial Times*, выкладчыка Кембрыджа Джо Стадвэла піша Максім Маханькоў.**

### Каго нельга лічыць «тыграм»

Стадвэл пачынае з таго, якія краіны можна лічыць «азіяцкімі тыграмі», а якія не. На яго думку, паспяховымі з'яўляюцца ўсе краіны Паўночна-Усходняй Азіі (за выключэннем КНДР, якую аўтар разглядае як *failed state* — «дзяржаву, якая не адбылася»). У гэты спіс уваходзяць Японія, Карэя, Тайвань і, з пэўнымі агаворкамі, Кітай. Краіны Паўднёва-Усходняй Азіі (Інданезія, Малайзія, Філіпіны і Тайланд) нельга лічыць *failed state*, як КНДР, але і «тыграмі» яны не з'яўляюцца, хоць і спрабавалі паўтарыць поспех паўночных краін.

Не ўключае ў спіс «тыграў» Стадвэл і Сінгапур, Ганконг ды Макаа. Хоць гэтыя гарады-дзяржавы дабіліся поспехаў, аўтар не лічыць іх паўнавартаснымі дзяржавамі. Іх багацце забяспечваецца ў першую чаргу буйнымі партамі і гульнявым бізнэсам. Гэта вялізныя афшорныя цэнтры, якія проста высмоктваюць рэсурсы ў іншых краін — а таму яны не могуць быць прыкладам.

### Што дакладна не прычына

Стадвэл пералічвае самыя папулярныя версіі прычын поспеху і адразу ж іх абвяргае.

Напрыклад, хтосьці лічыць, што для развіцця эканомікі неабходныя дэмакратыя і палітычны плюралізм. Ці, наадварот, што менавіта аўтарытарызм дазволіў «тыграм» правесці хуткую індустрыялізацыю. Але досвед Усходняй Азіі паказвае, што карэляцыі паміж узроўнем дэмакратыі і эканамічным развіццём няма.

Ёсць прыклад дэмакратычнай Японіі, якая імкліва мадэрнізавалася разам з паступовым развіццём дэмакратычных інстытутаў. А ёсць прыклад Паўднёвай Карэі, якая таксама вельмі хутка развівалася, але ажно да сярэдзіны 1980-х была яўна аўтарытарнай дзяржавай. Ёсць таксама прыклады Інданезіі і Філіпінаў. Яны паспелі пабыць і аўтарытарнымі, і дэмакратычнымі, але на эканамічны вынік гэта не паўплывала.

Яшчэ адна версія — што эканамічнае развіццё магчымае толькі ў краінах з «вяршэнствам права». Але прыклады Кітая, дзе камуністычная партыя дагэтуль уплывае на разгляд важных юрыдычных спраў, і Паўднёвай Карэі, дзе суды і таемная паліцыя на замову вялікага бізнэсу займаюцца запалохваннем і збіццём прафсаюзных актывістаў, гэта абвяргаюць.

Таксама Стадвэл не згодны, што эканамічнае развіццё вызначаюць геаграфія і клімат. Шмат людзей верац, што паўднёвыя краіны адстаюць, бо там спякотна. А Паўночна-Усходняя Азія, маўляў, у авангардзе таму, бо там умераны клімат. Але ўспомнім досвед развітага Тайваня, які жыве ў субтрапічнай і трапічнай зонах (як і неразвітыя Філіпіны).

### Першы крок — падтрымаць фермераў

На думку Стадвэла, у поспеху азіяцкіх «тыграў» амаль нічога выключна «азіяцкага» няма. Краіны гэтага рэгіёна ўсяго толькі праходзяць той этап, які краіны Захаду прайшлі ў XVIII і XIX стагоддзях.

Тайвань, Японія, Кітай, Паўднёвая Карэя — вельмі розныя, з рознай гісторыяй, але ў эканамічнай палітыцы іх аб'ядноўваюць тры фактары, дзякуючы якім яны пераскочылі ў вышэйшую лігу.

**Усе «тыгры» пачыналі з зямельных рэформаў**

Першая прычына поспеху — зямельная рэформа. На гэтым этапе дзяржава фактычна забірае зямлю ў буйных землеўласнікаў-латыфундыстаў і пераразмяркоўвае яе сярод звычайных фермераў. Такім чынам ствараюцца высокаканкурэнтныя дробныя фермерскія гаспадаркі.




Прадукцыйнасць працы ў такіх гаспадарках значна вышэйшая. Калі зямля належала латыфундыстам, а дробныя фермеры працавалі на арандаванай зямлі, у сялян не было стымулаў выракляць больш, таму што гэта амаль не ўплывала на іх дабрабыт. Было мала стымулаў і ў буйных землеўласнікаў-латыфундыстаў, бо яны маглі спакойна жыць, проста здаючы дзялянкі ў арэнду.

Пасля таго, як дзяржава стварае ўмовы для канкурэнцыі дробнага фермерства, сяляне істотна павялічваюць ураджайнасць. З'яўляецца лішак харчовых прадуктаў, які можна накіраваць у гарады альбо экспартаваць. Грошы ад экспарту можна выкарыстаць для індустрыялізацыі. Фермеры, якія гандлююць вынікамі сваёй працы, таксама багацеюць. Яны становяцца спажыўцамі прамысловай прадукцыі, што дае для індустрыялізацыі дадатковы імпульс.

Роля дзяржавы — не проста раздаць зямлю фермерам, але зрабіць так, каб зямля праз нейкі час зноў не апынулася ў руках латыфундыстаў. Таксама дзяржава павінна стварыць для фермераў добрую інфраструктуру для перавозкі і захоўвання сельскагаспадарчай прадукцыі, курсы павышэння кваліфікацыі і абмену досведам, крэдыты для куплі тэхнікі, угнаеннеяў і г. д.

Усе азіяцкія «тыгры» пачыналі менавіта з зямельных рэформаў. І правялі іх рашуча ды паслядоўна, абапіраючыся на заходні досвед. А вось краіны Паўднёва-Усходняй Азіі свае зямельныя рэформы правалілі. Падзел зямлі там быў толькі фармальны. Адгэтуль і іншы вынік.

### Другі крок — падтрымаць інаватараў і стымуляваць экспарт

На працягу ўсёй кнігі Стадвэл бязлітасна і з'едліва крытыкуе міжнародныя фінансавыя арганізацыі (кшталту Міжнароднага валютнага фонду) і ўрады багатых дзяржаў, якія рэкамендуюць бедным краінам адмовіцца ад розных субсідый для прамысловых прадпрыемстваў і дэрэгуляваць эканоміку. Сярод міжнародных фінансавых структур пануе думка, што толькі свабодны рынак зможа дапамагчы бедным краінам выйсці з галечы. Стадвэл мяркуе, што такія парады вельмі шкодныя для краін, якія развіваюцца. Бо калі для развітых постындустрыяльных краін свабодны рынак сапраўды з'яўляцца неабходным, то бедныя аграрныя дзяржавы, наадварот, павінны абараняць сваю прамысловасць і даваць ёй субсідыі. Але падтрымліваць трэба толькі тыя кампаніі, якія выпускаюць высокаканкурэнтную прадукцыю на экспарт.

І толькі калі краіна стварыла свае транснацыянальныя карпарацыі, здольныя прадаваць на сусветныя рынкі высокатэхналагічную прадукцыю, прыдумляць і ўкараняць уласныя інавацыі, толькі тады можна памяншаць ролю дзяржавы і ўводзіць «англа-саксонскую мадэль рынку», калі роля дзяржавы мінімальная. Перад тым, як зрабіць рынак свабодным, дзяржава ў партнёрстве з бізнэсам павінна яго пабудаваць. Тое самае рабілі і еўрапейскія краіны падчас сваёй індустрыялізацыі ў XVIII–XIX стагоддзях.

Але хіба не так рабіў СССР, які праводзіў прымусовую індустрыялізацыю, ці сучасная Беларусь, якая ўкладае велізарныя грошы ў МАЗ і іншыя прамысловыя гіганты, якія належаць дзяржаве? Не, не так.

Па-першае, Японія, Карэя, Тайвань, а з канца 1970-х і Кітай не былі эканамічна ізаляванымі, як СССР. Яны гандлявалі са знешнім светам, пазычалі ў яго грошы, пераймалі і нават кралі тэхналогіі, а самае галоўнае — патрабавалі ад сваіх кампаній прадаваць прадукцыю на экспарт. І не займаліся імпартазамяшчэннем, як гэта робяць сёння ў Беларусі. Карэя, Японія, Тайвань і Кітай не абмяжоўвалі імпарт, а стымулявалі экспарт.

## Карэя, Японія і Кітай не абмяжоўвалі імпарт, а стымулявалі экспарт

Па-другое, дзяржаўная падтрымка прадпрыемстваў наўпрост залежала ад памераў экспарту. У азіяцкіх «тыграў» была сапраўдная экспартная дысцыпліна. Яркі прыклад — Паўднёвая Карэя. Спачатку яна стварыла некалькі аўтамабільных заводаў, прымусіўшы іх экспартаваць аўтамабілі. Тым, у каго гэта атрымлівалася, дзяржава дапамагала, а кампаніі-няўмекі спецыяльна ліквідавала. У выніку ў Карэі з'явіўся аўтамабільны гігант *Hyundai*.

У Беларусі дзяржаўная падтрымка МАЗа і іншых прадпрыемстваў ніяк не прывязаная да іх экспартных паказчыкаў. Гэтаксама было ў «няўдахаў» Інданезіі і Малайзіі: тут дзяржава таксама давала вялікія субсідыі сваім вытворцам, але не прымушала экспартаваць прадукцыю. Яны абыходзіліся ўнутраным рынкам, таму іх прадукцыя на глабальным узроўні была неканкурэнтаздольнай. ▶

▶ Хоць у багатых заходніх постындустрыяльных краінах на першую ролю замест прамысловасці выйшлі сферы паслуг і IT, Стадвэл мяркуе, што бедныя краіны не змогуць ліквідаваць сваю адсталасць, абапіраючыся толькі на гэта. Ім усё адно жыццёва неабходна развіваць сваю прамысловасць. Па-першае, паслугі немагчыма экспартаваць у такіх памерах, як прадукцыю прамысловасці. Па-другое, у сферы IT працуе мізэрная колькасць людзей, і глабальна гэты сектар на эканоміку краіны амаль не ўплывае.

## Трэці крок — умяшацца ў фінансавы рынак

«Фінансавая палітыка набывае вагу, калі можа накіраваць абмежаваныя рэсурсы краіны ў патрэбнае рэчышча», — піша Стадвэл. Калі коратка, то Цэнтрабанк дае льготныя пазыкі банкам, што крэдытуюць вытворцаў, якіх падтрымлівае дзяржава. Даходзіла да таго, што ў Японіі і Карэі профільныя чыноўнікі ўказвалі такім кампаніям, як *Toyota* і *LG*, якую прадукцыю яны павінны выпускаць, каб атрымаць танны крэдыт. Дэпазітная стаўка абмяжоўвалася і была ніжэйшай за ўзровень інфляцыі ў краіне, а ўзятыя з розніцы сродкі накіроўваліся на вытворчасць.

Акрамя таго, Паўднёвая Карэя шмат пазычала на міжнародных рынках і ўлівала ў свае карпарацыі. Бралі так шмат пазык, што МВФ і Сусветны банк пастаянна панікавалі і прадказвалі хуткі дэфолт. Але дзякуючы экспартнай дысцыпліне карэйцы атрымлівалі пастаянны прыток валюты і разлічваліся з даўгамі.

Стадвэл даказвае, што краінам, якія развіваюцца, нельга дэрэгуляваць фінансавыя рынкі і ліквідаваць умяшанне дзяржавы. У бедных дзяржавах гэта прыводзіць да надзімання бурбалкі нерухомасці.

Прыклад — Інданезія, якая, як і азіяцкія «тыгры», фінансава дапамагала свайму бізнэсу. Пасля парад міжнародных арганізацый умяшальніцтва дзяржавы ў бізнэс істотна скарацілася. У выніку грошы ішлі мясцовым алігархам, якія нажываліся на манапалізме ўнутранага рынку (экспартнай дысцыпліны не было) і не думалі ўкладаць у тэхналагічнае развіццё. Замест гэтага яны ўкладалі даходы ў люксавую нерухомасць.



**Панарама сталіцы Паўднёвай Карэі — Сеула.**
У цэнтры — галоўны дзелавы квартал.

SHUTTERSTOCK, BY MOSES SYE

Дайшло да таго, што ў канцы 1980-х цэнтр Джакарты, сталіцы Інданезіі, быў забудаваны люксавай нерухомасцю. У тыя часы сталіца прамыслова развітай Карэі, Сеул, была проста бедным і бляклым гарадком. Але ў 1997—1998 гадах, падчас Азіяцкага фінансавага крызісу, бурбалка нерухомасці лопнула.

Тайланд, Інданезію і Філіпіны падштурхнулі да фінансавай дэрэгуляцыі занадта рана, і гэта абярнулася катастрофай. А вось Паўднёвая Карэя правяла дэрэгуляцыю фінансавага рынку ўжо пасля таго, як стварыла моцныя прамысловыя транснацыянальныя кампаніі.

### А што Кітай?

Хоць Кітай і ставяць у адзін шэраг з іншымі «тыграмі» (Японіяй, Карэяй, Тайванем), сітуацыя там спецыфічная. На думку Стадвэла, пакуль што заўчасна казаць, наколькі Кітай паспяховы. З усіх «тыграў» ён пачаў рэформы найпазней, толькі ў канцы 1970-х, таму яму яшчэ давядзецца прайсці шлях, які ўжо даўно прайшлі Японія, Паўднёвая Карэя і Тайвань.

Пакуль што Кітай за кошт велізарных інвестыцый здольны пераймаць і красці замежныя тэхналогіі. Але ці здольны будзе Кітай сам ствараць інавацыйныя прадукты — пытанне адкрытае. Нядаўні паказальны прыклад — кітайская сетка хуткаснай чыгункі. Кітай разгарнуў яе па ўсёй краіне, а таксама распрацаваў спецыяльныя цягнікі. Хадзілі гэтыя цягнікі нават хутчэй, чым французскія ці японскія. Гэта ўсё выдавалася за ўласную інавацыйную тэхналогію. Але хутка аказалася, што ніякіх кітайскіх інавацый не было. Кітайцы проста запазычылі замежныя тэхналогіі,



а хуткасць цягнікоў павысілі за кошт змяншэння патрабаванняў да бяспекі.

Кітай гіганцкі і можа дазволіць сабе маштабныя праекты. Але ВУП на душу насельніцтва па парытэце купчай здольнасці там нават меншы, чым у Беларусі. За дзесяцігоддзі рэформаў Кітай так і не стварыў сусветна вядомых транснацыянальных карпарацый, якія б на аснове ўласных інавацыйных распрацовак выраблялі якасны тавар, вядомы на сусветным рынку. Выключэннем з'яўляецца хіба што сфера тэлекамунікацый.

**Аказалася, што ніякіх кітайскіх інавацый не было. Кітайцы проста запазычылі замежныя тэхналогіі, а хуткасць цягнікоў павысілі за кошт змяншэння патрабаванняў да бяспекі**

Кітай дасягнуў поспехаў у кіраванні дзяржаўнымі прадпрыемствамі, але сітуацыя з прыватнымі не такая пазітыўная. Яны дагэтуль пазбаўленыя дзяржаўнай падтрымкі, таму ім цяжка канкураваць на сусветным рынку.

Цяжка жыць і кітайскім вяскоўцам. Калі ў Японіі і Паўднёвай Карэі ўзровень жыцця гараджан і вяскоўцаў прыкладна аднолькавы, то ў Кітаі расслаенне проста катастрафічнае — вяскоўцы ўтрая бяднейшыя за гараджан. Хоць у Кітаі і прайшла зямельная рэформа, у выніку якой замест калгасаў сяляне сталі працаваць на сямейных фермах, сітуацыя ў сельскай гаспадарцы далёкая ад ідэальнай. Зямля, на якой працуюць кітайскія фермеры, юрыдычна ім не належыць, яны не могуць ёй гандляваць па рынкавай цане.

І апошні фактар, які ставіць далейшы рост Кітая пад сумнеў, — дэмаграфічны. Калі Карэя, Японія і Тайвань імкліва развіваліся, у іх была вельмі высокая нараджальнасць, што пазітыўна для эканомікі: шмат моладзі, працоўных рук, і вельмі мала пенсіянераў. Толькі пасля таго, як гэтыя краіны дасягнулі высокага ўзроўню эканамічнага развіцця, нараджальнасць там істотна зменшылася. У Кітая іншая сітуацыя. З насельніцтвам, якое хутка старэе, яму цяжка будзе падтрымліваць цяперашнія тэмпы эканамічнага росту.

Таксама Стадвэл звяртае ўвагу, што якасць жыцця чалавека і прагрэс грамадства вызначаюцца не толькі эканамічным развіццём. Эканамічнае развіццё — гэта толькі адзін са складнікаў развіцця грамадства. Іншыя чыннікі, звязаныя са свабодамі і правамі чалавека, экалогіяй і г. д., таксама важныя. А Кітай застаецца адсталай і карумпаванай дзяржавай. ◆

**Пісьменнік Віктар Марціновіч на аснове сваёй мастацтвазнаўчай дысертацыі напісаў кнігу «Радзіма. Марк Шагал у Віцебску». Яна поўная нечаканых фактаў і нават адкрыццяў, хоць здавалася б — што новага можна сказаць пра сусветна вядомага творцу! Мы выбралі для вас самае-самае цікавае.**


SHUTTERSTOCK, BY DAMIRA

**Помнік Шагалу** ў Віцебску.

### Мошка Сегал

Аказваецца, Шагала звалі зусім інача й. Ды і Шагалам ён стаў ужо потым, у Парыжы. Насамрэч, прозвішча мастака было Сегал, а імя — Майсей. А бацькі звалі хлопчыка «Мошка». Цікава, што і жонка мастака, яго знакамітая натхняльніца Бэла, насамрэч была Бертай.

Шагал міфалагізаваў сваё жыццё з маладосці. У прыватнасці, падаваў у анкетах розныя даты і месца нараджэння. Пасля пераходу савецкай дзяржавы на грыгарыянскі каляндар, хоць Шагал і меўся адзначаць дзень нараджэння (25 чэрвеня) 6 ліпеня, пісаў ва ўсіх анкетах, што нарадзіўся 7.7.1887. Бо быў упэўнены, што яго шчаслівая лічба — 7.

Шагал заблытаў біёграфаў і з месцам нараджэння, напісаўшы аднойчы: «Лёзна, Віцебск» (а ў Лёзне жылі Шагалавы сваякі). Гэтая містыфікацыя жыла і квітнела, трапіла ў Вялікую савецкую энцыклапедыю і доўгі час дазваляла віцебскім чыноўнікам-антысемітам адхрышчвацца ад ушанавання памяці яўрэйскага мастака-касмапаліта. Маўляў, хто ён для нас, няхай у Лёзне з ім разбіраюцца — трэба яму помнік ці не.


WIKIMEDIA COMMONS

**Дом у Віцебску**, дзе жыў Марк Шагал.

**«Такое адчуванне, што раней ты глядзеў на графіку і, толькі ўбачыўшы Шагала, нарэшце адчуў, што такое колер»**

### Ці наш Шагал?

Так. Хаця не Шагалу патрэбна Беларусь, а Беларусі — Шагал, піша Віктар Марціновіч. Ён нарадзіўся тады, калі беларускай дзяржавы яшчэ не існавала. Працаваў у Віцебску тады, калі горад уваходзіў у РСФСР. У момант утварэння Беларусі ў цяперашніх межах ▸



**Марк і Бэла Шагал.** 1923 год.

Шагал ужо быў на эміграцыі, а незалежная Беларусь узнікла праз 6 гадоў пасля яго смерці. Паўнавартаснага самавызначэння Віцебска Шагал не заспеў.

Сам Шагал казаў: «Я называю сябе рускім мастаком, і мне гэта прыемна». Але якая гэта Расія: Масквы і Пецярбурга ці віцебскага яўрэйскага раёна Пескавацік?

Многія краіны спрачаюцца за сусветна вядомых творцаў. Але з Шагалам і Віцебскам унікальная сітуацыя: краіна, у якой знаходзіцца Віцебск, з'явілася ўжо пасля таго, як Шагал з'ехаў. Немагчыма паведаміць мёртваму генію, што ён не рускі, а беларус.

Але гэта наш Віцебск — яго радзіма. Нашы яўрэі, нашы козы і пеўні, нашы хаткі і платы, цэрквы і сінагогі — вобразы, якія ён маляваў усё жыццё. Дык чаму ж Шагал не наш?

Ён — частка нашай шматэтнічнай, шматрэлігійнай гісторыі, якой у тэорыі, у падручніках мы моцна ганарымся, але на справе часта не можам прыняць.

## Шагал і жанчыны

Жывучы ў Францыі, мастак доўга не мог вывучыць французскай мовы, а вывучыўшы, да канца жыцця пісаў з жахлівымі памылкамі. У 1931 годзе, пражыўшы ў Парыжы агулам больш за дзесяць гадоў, ён яшчэ не змог вычытаць французскі пераклад аўтабіяграфіі «Маё жыццё», які зрабіла жонка. А Бэла Шагал ладна падчысціла мужаў тэкст. Параўнайце адзін і той жа кавалак з французскага перакладу і рускамоўнага арыгінала.

Пераклад: «Калі пашанцуе, прыйдзе Сандрар і накорміць мяне абедам. Увайсці проста так да мяне нельга. Трэба пачакаць, пакуль я прывяду сябе да ладу, апрануся — я працаваў голы».

Арыгінал: «Раніца — можна выйсці і купіць свежых круасанаў. Але я засынаў. Праз нейкі час прыходзіла прыбіральшчыца, ці то прыбрацца ў студыі (так, гэта вельмі неабходна, толькі, калі ласка, не чапайце нічога на стале!), ці то проста, каб падняцца да мяне. Я люблю французскую кроў. У сваім імкненні разгадаць сакрэт французскага жывапісу, у сваім жаданні яго пераўзысці мне трэба пакаштаваць французскай плоці. Усім, хто прыходзіў да мяне ў студыю, даводзілася чакаць за дзвярыма. Прыкладна паўгадзіны — мінімальны час, неабходны мне, каб навесці парадак і апрануцца. Я заўжды працаваў голы... У прынцыпе не выношу вопраткі. Лішні цяжар».

З 1941 па 1948 год Шагал жыў у ЗША, але так і не вывучыў англійскую, а навіны даведваўся з газет на ідыш.

І яшчэ красамоўная дэталь. Валянціна, трэцяя жонка (калі другой лічыць Віржынію Хагард, з якой Шагал не быў распісаны, але меў сына), вымушала яго выходзіць з вобразу яўрэйскага мастака. Напрыклад, пасля жаніцьбы (1952 год) з яго карцін знікаюць рабіны. Жонка таксама дамаглася, каб пры людзях Шагал гаварыў па-французску. Сябры ўспаміналі казусы: калі ішлі з Маркам па вуліцы, гаварылі між сабой на ідыш, а як толькі паўз іх праходзіў француз, Шагал адразу пераходзіў на французскую.

### Савіцкі ненавідзеў Шагала

Да 2010-х Шагала на Беларусі не выстаўлялі, не было сваіх карцін і ў беларускіх калекцыях. Гэта цяжка ўявіць, але семдзесят гадоў беларусы папросту не маглі пабачыць карціны Шагала.

Шэрагі яго непрымірымых праціўнікаў узначальваў Міхаіл Савіцкі — аўтар знакамітых «Лічбаў на сэрцы» і «Партызанскай Мадонны». Савіцкі не любіў яўрэяў, бо, як сцвярджаў, іх было многа сярод даносчыкаў у канцлагерах. Віктар Марціновіч дапускае, што яго нелюбоў была звязана з канкурэнцыяй — хто будзе лічыцца галоўным віцебскім мастаком.

## «М. З. Шагал. Ці варты гэты чалавек, каб на яго звяртаць увагу савецкіх людзей?»

Пра грамадзяніна Шагала ў СССР згадалі позна і не дзякуючы жывапісу — проста ён выявіўся ўдалым прыкладам эміграцыі з СССР. А пра мастака Шагала радзіма ўспомніла ў 1987-м, ды нядобрым словам. У часопісе «Огонёк» выйшаў артыкул Шагалавага сябра, паэта Андрэя Вазнясенскага з прапановай стварыць у Віцебску музей мастака. Віцебскія ўлады спужаліся і пастараліся ўсяляк адхрысціцца. Інструктар камітэта КПБ даследаваў пытанне і ў выніку напісаў у характэрнай стылістыцы: «1) Прыпісваць месца нараджэння М.З. Шагал (пра мастака часта пісалі так, нібы ён жанчына. — *аўт.*) беспадстаўна; 2) у доме па вул. Дзяржынскага, 11 ці пражываў ён — гэта неабходна вывучаць больш грунтоўна. Як? Цяпер сказаць цяжка. Нарэшце, ці так ужо важна

гэта высветліць і што гэта дасць? Падставы стварыць яго музей? Але пра што павінен быць гэты музей? Пра яго жыццё і дзейнасць? Але тады ўзнікае вельмі істотнае пытанне: ці варты гэты чалавек, каб на яе (так у тэксце. — *аўт.*) звяртаць увагу савецкіх людзей».

І вось тут пачаліся публікацыі, пасля якіх хочацца абмыцца ў душы. Асабліва шчыраваў, разам з мастаком Савіцкім, філосаф Уладзімір Бягун, што ездзіў з лекцыямі пра жывапіс Шагала, «абсалютна чужы і мастацтву, і нашаму народу, і беларускай культуры». «Наўрад ці можна залічыць у геніяльныя творы “цяжарную жанчыну”, якая чамусьці ператвараецца ў Эйфелеву вежу, або зялёных свіней, або аслоў, якія ў дастатку прысутнічаюць на палотнах Шагала», — гэта ўжо Савіцкі з суаўтарамі. Ёсць сюжэты геніяльныя, а ёсць негеніяльныя — вось так усё проста. Нагадаем, што ніхто з Шагалавых апанентаў не меў магчымасці пабачыць яго жывапіс жыўцом. У крытыцы Шагала многа было не толькі перакручванняў, але і папросту маны, напрыклад: «У заходніх энцыклапедыях, у прыватнасці французскіх і англійскіх, творчасць Шагала ацэньваецца невысока».

## Як Шагал вярнуўся на радзіму

Шагал мог бы вярнуцца ў Віцебск у чэрвені 1987-га ў выглядзе выставы рэпрадукцый. Іх выразалі з каталога выставы, якая праходзіла ў тыя дні ў Маскве. Але развесіць рэпрадукцыі ў абласной бібліятэцы за тры дні да прызначанага адкрыцця ўлады забаранілі.

Мастака легалізаваў час, піша Марціновіч. Сталі паміраць яго пераследнікі. У 1999-м Віцебск перадаў Дому-музею Шагала будынак па вуліцы Пакроўскай, у якім рос мастак. А ў 2012-м Нацыянальны мастацкі музей запусціў «Мастакоў Парыжскай школы» — упершыню была выстаўлена не літаграфія, не афорт, а карціна Марка Шагала. Упершыню на радзіму вярнуліся яго непаўторныя колеры.

Мілая гісторыя звязана з увекавечваннем дома па Бухарынскай у Віцебску. Тут жылі выкладчыкі мастацкага вучылішча, сюды з цяжкасцямі засяліўся Шагал, а пасля мусіў за 24 гадзіны вызваліць сваю кватэру пад музей. У 90-я гэты будынак маглі знесці ў любы момант, і віцебская інтэлігенцыя прыдумала павесіць на яго памятную дошку. Але вельмі баялася, што яе не ўзгодняць. І пайшлі ва-банк: вызначылі дзень і запрасілі на адкрыццё дошкі еўрапейскіх паслоў. А тыя нечакана прыехалі! Уся вуліца была застаўленая лімузінамі з дыпнумарамі. Будынак аддалі пад музей: іншага выйсця пасля такой імпрэзы проста не было.



**Дзень нараджэння.** 1915 год. Шагалу споўнілася 28.

# Шагал вітаў рэвалюцыю, але разумеў яе па-свойму

## Першая няўдача

Дом на Бухарынскай быў сведкам не толькі Шагалавага натхнення, але і гора, прыніжэння і слёз. Хоць адразу пасля рэвалюцыі мастакі-авангардысты атрымалі зялёнае святло. Шагал, напрыклад, стаў упаўнаважаным па справах мастацтва ў Віцебскай губерні. У Віцебску Шагала паважалі як начальніка: здымалі капялюш, падыходзілі павітацца за руку. Захапляліся сваім, віцебчуком, які ўзняўся так высока. Але твораў яго не разумелі, нясмела пасмейваліся.

Шагал вітаў рэвалюцыю, але разумеў яе па-свойму. Пралетарскае мастацтва — гэта не тое, што для пралетарыяў або аб пралетарыях. Гэта мастацтва, якое робяць пралетарыі! Рэвалюцыя, думаў ён, вызваліць мастацтва ў кожным, дазволіць іншым, такім самым бедным геніям, як ён, адкрыць душу і адшукаць свой талент.

Першая няўдача ў родным горадзе — святкаванне першай гадавіны рэвалюцыі. Шагал сабраў усіх майстроў па шыльдах і вітрынах, «і ўсе майстры — барадатыя як адзін — і ўсе падмайстры сталі перамалёўваць маіх коз і кароў». Клоўны, анёлы, яўрэі з зялёнымі тварамі, каровы і папугаі незвычайных колераў — такімі сюжэтамі мастак і яго вучні аздаблялі горад у гонар 7 Лістапада. А народ з гэтага дзівіўся і дзічыўся.

«Асабліва прыгожы афарбаваны горад пад покрывам ночы», — напісала адна з газет. Відаць, таму, што ў цемры экстравагантнай аздобы не было відаць. Пакуль Шагал быў начальнікам, газеты стрымана хвалілі яго творы, спрабуючы адшукаць у іх хоць нейкую логіку. А потым перасталі.

Віцебск паглынаў яго, а Шагал, па мяккасардэчнасці ці з пачуцця ўласнай годнасці, нічога з тым не рабіў. Вось яму, дырэктару, плацяць у два разы менш за выкладчыка. Скаргамі і прашэннямі ён звяртае ўвагу на гэту сітуацыю. Вось «за 24 гадзіны» дырэктара высяляюць з кватэры ў будынку для работнікаў вучылішча: неабходна ж вызваліць памяшканне пад музей!

Вось з шафы з карцінамі прападаюць палотны дырэктара. Так знікла карціна з унікальным сюжэтам: галава, выпуклае вока, частка чэрапа адсутнічае, і ў звілінах відаць казу, стог сена і агароджу. Нічога падобнага Шагал ніколі больш не стварыў. З гэтай карцінай ён прыходзіў да настаўніка, Юдаля Пэна, і той ушчуваў, што вока непрапарцыйна вялікае, а Шагал апраўдваўся, што вочны яблык у чалавека насамрэч большы, чым бачны з-пад павек... Але карціна прапала. Адзін з вучняў прызнаецца: сапраўды, цягалі з шафы палотны выкладчыкаў, бо сваіх не было.



**Зялёны скрыпач.** 1924 год. Скрыпачы — частыя героі карцін Шагала. Бывае, яны са сваімі скрыпкамі сядзяць на галінках, нібы птушкі. У яўрэйскім свеце Беларусі пачатку XX стагоддзя скрыпачы суправаджалі кожную падзею: і радзіны, і вяселле, і пахаванне.




Юдаль Пэн. **Партрэт Марка Шагала.** 1914 год.

Шагал займаўся ў студыі **Юдаля Пэна** прынамсі пяць гадоў — з 14 да 19. Па ўласным прызнанні, плаціў за навучанне толькі першыя два месяцы. «Адзіны з вучняў Пэна, я прыахвоціўся да фіялетавых тонаў. Пэн быў так уражаны маёй дзёрзкасцю, што з таго часу я наведваў яго школу бясплатна». Марк Шагал так уразіў настаўніка сваім талентам, што той намаляваў яго партрэт — таксама шэдэўр (**злева**). **Справа**: зялёнае і бэзавае — характэрнае для Шагала спалучэнне таго, што раней лічылася неспалучальным.

Пасля знікнення карцін раз'юшаны Шагал павесіў аб'яву: «У выпадку незнаходжання будуць прынятыя найстражэйшыя меры аж да расстрэлу» (аб'ява абсалютна ў духу часу — у газетах тады, напрыклад, рэгулярна друкавалі імёны расстраляных за адмову выходзіць на капанне акопаў). З уздыхам выкладчык вучылішча Аляксандр Ром зняў гэтую абвестку. Відаць, пагроза падалася непераканаўчай. Можна ўявіць, як адрэагаваў Шагал: спярша прапалі палотны, а пасля сышла на нішто і адзіная спроба загаварыць камандным голасам, адстаяць сябе.

З тым, каб адстаяць сябе, у Шагала ўвогуле былі праблемы. У аўтабіяграфіі ён малюе сябе энергічным чыноўнікам у касаваротцы, з партфелем пад пахай. Піша, што яго заўжды акружалі вучні і паплечнікі. Аднак на справе ён быў самотны, мусіў пастаянна змагацца за выжыванне сваё і школы.



WIKIMEDIA COMMONS

**Выкладчыкі Народнага мастацкага вучылішча**, 26 ліпеня 1919 года. Сядзяць злева направа: Эль Лісіцкі, Вера Ермалаева (пасля звальнення Шагала яна стала дырэктарам вучэльні), Марк Шагал, Давід Якерсон, Юдаль Пэн, Ніна Коган, Аляксандр Ром — сябар, а пасля вораг Марка. Ззаду стаіць справавод вучэльні.

### Пірагі vs селядзец

Тым больш ироніяй лёсу выглядае тое, што ў Віцебску Шагал у 1914-м аказаўся выпадкова. Атрымаўшы стыпендыю, ужо тры гады жыў і працаваў у Парыжы. Але вось нарэшце прыехаў да нявесты, бо прыйшоў час або жаніцца, або разысціся.

Збіраліся вярнуцца ў Парыж разам — і тут вайна. Расійскага грамадзяніна за мяжу не пусцілі. Шагал успрыняў гэта як катастрофу. Там кафэ, багемнае жыццё — тут гудзе муха і пыліцца фікус.

**Сацыяльную розніцу між сабой і нявестай Шагал смакаваў: «У іх тры разы на тыдзень пірагі з яблыкамі, тварагом ці макам, а ў нас штодня селядзец з цыбуляй»**

Калі б швагер не прыстроіў яго ў Ваенна-прамысловы камітэт у Петраградзе, Шагал з вялікай верагоднасцю стаў бы гарматным мясам. Родны бацька «адмазаць» яго ад службы яўна не здолеў бы.

Сацыяльную розніцу між сабой і нявестай Шагал смакаваў: «У іх тры разы на тыдзень пірагі з яблыкамі, тварагом ці макам, а ў нас штодня селядзец з цыбуляй». Але ўласны бедны свет падаваўся яму куды больш паэтычным.

Праз талент і пасады Шагал нібыта наблізіўся да ўзроўню жончынай сям'і. Але рэвалюцыя ўсё змяніла. На пасаду Шагала не зважалі, калі прыйшлі да цесця з цешчай — уласнікаў ювелірнай крамы — забіраць тавары. Забраўшы ўсё ўдзень, ноччу нечакана вярнуліся — шукаць прыхаванае ў доме. Цесць за вячэрай узяў лыжку і не змог данесці да рота — выпала з рук. Цешчу арыштавалі.

### Чортаў Малевіч

Стаўшы дырэктарам вучылішча, Шагал запрасіў у Віцебск Эль Лісіцкага, свайго таварыша па школе Пэна. Да таго часу Лазар Лісіцкі паспеў вывучыцца ў Рызе на архітэктара і яшчэ не быў іконай супрэматызму, а захапляўся яўрэйскай спадчынай, маляваў сінагогі, збіраў фальклор... Лісіцкі і запрасіў у Віцебск знаёмага наватара Казіміра Малевіча.

Казімір Малевіч стаў фатальнай асобай у жыцці і кар'еры Шагала. Прыехаў, пазіцыянуючы сябе зоркай, і неўзабаве ёю стаў. Хоць тэарэтыкам быў слабым — яго работу з канцэпцыяй супрэматызму ▶



**Казімір Малевіч** са сваімі карцінамі ў Ленінградзе, 1924 год.

Супрэматызм — кірунак абстрактнага мастацтва, якое выражаецца ў камбінацыі геаметрычных фігур і прамой лініі. Супрэматызм прыдумаў Казімір Малевіч. Самы вядомы прыклад гэтага стылю — ягоны «Чорны квадрат». Супрэматысты дэкларавалі адмову ад выяўлення знешняй абалонкі прадметаў на карысць іх простых формаў — асновы светабудовы.

**Фантазіі замянілі ўспаміны**
на познім этапе яго творчасці. Але пэндзаль яго заставаўся лёгкім, а колеры непаўторна шагалаўскімі. Плафон оперы ў Парыжы. 1964 год.

ў сталіцах друкаваць не пагаджаліся. А ў Віцебску ён зрабіўся гуру. Хоць быў дэмагог дэмагогам. Разважаючы пра кніжку Артура Шапенгаўэра «Свет як воля і ўяўленне», Малевіч адзначае: «Канечне, я яе не чытаў, але загаловак на вітрыне прачытаў, надта над ім не разважаў, але трошкі разважыў, што мір (у вітрыне ляжала расійскае выданне «Мир как воля и представление». — *аўт.*) бывае толькі там, дзе няма волі і ўяўлення, — дзе ж гэтыя двое ёсць, там міру не бывае, там барацьба ўяўленняў».

Яшчэ характэрны штрых. Малевіч піша ў лісце да знаёмага: «У Віцебску мяне сустракалі як зорку, і нават у газеце напісалі: "Прыехаў вядомы знакаміты мастак-футурыст, які пабіў рэкорд у мастацтве супрэматызмам", "Першы раз у Віцебску вядомы чэмпіён свету"». Віктар Марціновіч вывучыў усе газеты, дзе маглі быць згадкі пра  прыезд Малевіча. Знайшоў толькі адну — такую: «Цягніком з Масквы прыбыў мастак Малевіч». Гэткім жа сціплым аказаўся анонс лекцыі: «Секцыя выяўленчага мастацтва губаддзела наркамадукацыі, ідучы



**Доўгая і шчаслівая старасць.** Вава Бродская і Марк Шагал. 1967 год.

насустрач інтарэсам шырокіх мас насельніцтва да пытанняў мастацтва, вырашыла зладзіць шэраг лекцый, які пачынаецца лекцыяй мастака Малевіча на тэму “Найноўшыя сістэмы ў мастацтве”». Ніякага табе «вядомага чэмпіёна свету».

Паўтарыць стыль Шагала было немагчыма — можна было хіба толькі натхняцца яго работамі, яго падыходам — і шукаць сябе. А паўтараць Малевіча было вельмі лёгка. І майстар гэта заахвочваў. Ужо праз два месяцы навучання яго вучні станавіліся супрэматыстамі — ён абвяшчаў іх гатовымі мастакамі. І ў другую гадавіну рэвалюцыі горад ужо ўпрыгожваў не Шагал, а Малевіч і яго адэпты.

Шагалу заставалася ўсё меней месца, яго таленту даставалася ўсё менш увагі. Ён адчуваў сябе зусім незапатрабаваным. І з’ехаў у Маскву — афармляць спектаклі і працаваць у школе-калоніі для беспрытульнікаў.

## Цвяток радзімы васілька

Пасля ад’езду ў 1920-м Шагал больш ніколі не вярнуўся ў Віцебск. Хоць мог, і ў 1973-м, у час прыезду ў Маскву і Ленінград, блізкія гарэлі жаданнем яго туды адвезці. Але мастак спаслаўся на... прастуду. Сур’ёзна?! Што гэта за прычына такая, каб не наведаць родны дом?!

Насамрэч, мастак проста вельмі баяўся пабачыць, як усё змянілася. Баяўся разбурыць успамін. Віцебск быў гатовы разбурыць фантазію пра сябе, як аднойчы ўжо зрабіў, смеючыся, а потым ганьбячы свайго мастака, дырэктара мастацкага вучылішча.

І Шагал не паехаў.

У той прыезд яго гатэльны нумар быў завалены кветкамі, піша сябар мастака Андрэй Вазнясенскі. Але Марк (і тут, хутчэй, нават Мойша) нечакана разрыдаўся над букецікам васількоў. «Гэта быў колер яго віцебскага дзяцінства, убогая і чароўная кветка, чый водсвет ён расплюхаў па вітражах усяго свету — ад Токіа да Метраполітэн». ◆

**Паўліна Скурко**

**Мадэрніст *par excellence* размаляваў святая святых класіцызму —** Парыжскую оперу Гарнье. Плафон плошчай 220 квадратных метраў быў скончаны, калі майстру было 77 гадоў. Калі Андрэ Мальро, пісьменнік і міністр культуры ва ўрадзе Шарля дэ Голя, замовіў роспіс столі Шагалу, многія французскія газеты адгукнуліся знішчальнай крытыкай. Шагала лічылі чужынцам, няздольным упісацца ў парыжскі стыль. Мальро абвінавачвалі ў пагоні за модай. Але калі роспіс быў адкрыты, крытыкі змоўклі.
Плафон складаецца з пяці сектараў, у кожным — оперныя і балетныя творы ды кампазітары, якія натхнялі мастака. Сіні сектар — «Барыс Гадуноў» Мусаргскага і «Чароўная флейта» Моцарта, жоўты — «Лебядзінае возера» Чайкоўскага і «Жызэль» Адана, чырвоны — «Жар-птушка» Стравінскага і «Дафніс і Хлоя» Равэля, зялёны — «Рамэа і Джульета» Берліёза ды «Трышчан і Ізота» Вагнера, белы — «Пелелас і Мелізанда», опера Дэбюсі. У цэнтры — творы Бізэ, Бетховена, Вердзі, Глюка.

SHUTTERSTOCK, BY DAMIRA

**Адносіны Марка Шагала з яўрэйскасцю** былі складаныя. Яго хавалі не па яўрэйскай традыцыі, але выпадковы госць пахавання падышоў да труны і згаварыў кадыш — іўдзейскую малітву па памерлых.



FLICKR

**На магілкі ў Сэн-Поль-дэ-Ванс** наведнікі прыносяць каменьчыкі, па яўрэйскай традыцыі, і манеткі — па турыстычнай. Разам з мастаком пахаваныя яго другая жонка Валянціна (Вава) Бродская і яе брат Мішэль. Шагал пражыў 98 гадоў.

## Чаму Шагал геній

Першае — колер. «Такое адчуванне, што раней ты глядзеў на графіку, і толькі ўбачыўшы Шагала, нарэшце адчуў, што такое колер», — піша Марціновіч. Работы пазнаеш, убачыўшы нават краем вока. Яго каларыстыка выразна вылучаецца з усіх мастакоў свайго пакалення, хоць усе яны пісалі аднымі і тымі ж фарбамі. Чамусьці адзіны з усіх сучаснікаў ён пісаў з *такой* інтэнсіўнасцю колераў. І абвастраў эфект спалучэннем, здавалася б, неспалучальных колераў.
Яшчэ адзін сакрэт у тым, што Шагал пісаў вялікія ўчасткі чыстымі колерамі, не змешваў фарбы. Сваім вучням даваў практыкаванне: маеце тры колеры — чырвоны, жоўты, сіні — і мусіце намаляваць натуршчыцу. «Як я магу, — у роспачы пісаў адзін з вучняў, — я да такога не здольны!»
Пабла Пікаса казаў, што ёсць два чалавекі, якія разумеюць, што такое колер: Матыс і Шагал.
Яшчэ адно — лінія. Такую немагчыма паўтарыць. Варыяцыі «пад Шагала» немажлівыя. Такую казу, як у Шагала, мог намаляваць толькі ён сам.
І яшчэ адно — унікальны стыль, назву якому пакуль ніхто не змог падабраць. Гэта сумесь сімвалізму, кубізму, экспрэсіянізму, магічнага рэалізму, сюжэтнага сюррэалізму і непаўторных аўтарскіх прыёмаў.



**У цырульні.** 1914.

*«**Мой дзядзька, Зюся, цырульнік, адзін на ўсё Лёзна. Ён мог бы працаваць і ў Парыжы**. Вусікі, манеры, погляд. Але ён жыў у Лёзне. Быў там адзінай зоркай,* — не без гумару ўспамінаў мастак. — *Зорка красавалася над акном і над дзвярыма яго ўстановы. На шыльдзе — чалавек з сурвэткай на шыі і намыленымі шчокамі, побач другі — з брытвай, вось-вось яго зарэжа.*
*Дзядзька стрыг і галіў мяне бязлітасна і любоўна і ганарыўся мною (адзін з усёй радні!) перад суседзямі і нават перад Госпадам, які не абышоў блаславеннем і нашу глухмень»*, — пісаў Шагал ва ўспамінах.

Шагал выявіў цырульню свайго дзядзькі ў Лёзне. Як і ўсе карціны Шагала, гэта поўная мілых бытавых дэталяў: на сценах — узоры стрыжак, на этажэрцы акуратна раскладзеныя шчоткі, памазкі, парфума, пад люстэркам — падстаўка для ног. На ўзроўні вачэй кліента таблічка «Абоненты платятъ вперед», гэта значыць «Пастаянныя кліенты плацяць наперад».

*«Калі я напісаў яго партрэт і падарыў яму,* — успамінаў Шагал, — *ён зірнуў на палатно, потым у люстэрка, падумаў і сказаў: "Ну не, пакінь сабе!"»*



**Белае распяцце.** 1938.

**Гэта карціна стала водгукам на Крыштальную ноч — сер**
**ў ноч з 9 на 10 лістапада 1938 года.** Злева — бальшавікі,
паляць сінагогу. У верхнім правым кутку чамусьці выяўле
думка пра антысеміцкія настроі ва Усходняй Еўропе? Яўр
хто куды, нехта ратуецца на караблі (гэткім будзе і шлях
з акупаванай Францыі ў ЗША).

На Ісусе — талес, малітоўнае адзенне іўдзеяў.

Унізе ў зялёным — прарок Ілья, вечны вандроўнік. У небе
дзівяцца і плачуць над тым, што робіцца на зямлі.

Шагал маляваў не толькі закаханых ды коз. На несправяд
таксама.

Гэтую карціну вельмі любіць папа Францыск.



**ыю яўрэйскіх пагромаў у Германіі**
, гарыць вёска, справа нацысты
ены сцягі, у тым ліку Літвы, —
эі ўцякаюць са сваімі рэчамі
самога Шагала, які перабярэцца

е героі старазапаветнай гісторыі

длівасць, уціск ён адгукаўся



**Карова з парасонам.** 1946 год.

У 1944 годзе ад вірусанай інфекцыі памерла жонка мастака Бэла Шагал. Гэта здарылася ў Нью-Ёрку, дзе сям’я жыла ў час вайны. Пасля гэтага мастак год не мог маляваць. У такой роспачы ён і сустрэў 30-гадовую Вірджынію Хагард. У іх нарадзіўся сын Давід — назвалі так у гонар Маркавага брата. Марк быў шчаслівы — многа маляваў і гуляў з сынам, на ўзбярэжжы яны рабілі рысункі на камянях і закідвалі іх у мора — стваралі «музей для медуз».

У гэты перыяд і была напісаная пяшчотная і іранічная «Карова з парасонам». **Класічны і мілы Шагалаў прыём — замяніць чалавека жывёлай: каза грае на віяланчэлі, у рыбы свечка ў плаўніку...** А тут белая карова з сіняй галавой гуляе па дахах беларускага мястэчка. Тым часам цяля падсілкоўваецца малаком. У капытцы карова трымае парасон, закрываючыся ад яркага сонца. Хвост каровы пераходзіць у закаханую пару — нявесту з жаніхом. Магчыма, аптымістычная карова — гэта вобраз іх поўнага спадзяванняў кахання, іх мараў пра будучыню? У той жа час чырвань фону не дае нам адкінуць трывожныя думкі.



**Маладыя на фоне Парыжа.** 1980.

Цяжка ўявіць, што аўтар — не юнак, а 93-гадовы стары, які выявіў на карціне ўсё, што любіць. **Віцебск — справа, над ім свеціць месяц, там ноч, там сны. Парыж — злева, «другі Віцебск», над якім свеціць сонца** (бачым Эйфелеву вежу, якой мастак захапляўся ўсё жыццё, Сену, Нотр-Дам). Бэла і хатняя ўтульнасць, фарбы ды пэндзлі, вясёлая кампанія (хтосьці ад шырыні пачуццяў аж стаў хадзіць на руках). А ў небе — усё намаляванае, і ненамаляванае, і страчанае незваротна.

# Якая вы карціна Шагала?

**Ваш любімы колер?**
**А)** Белы
**Б)** Зялёны
**В)** Бэзавы

**Якое выказванне характарызуе вас найлепш?**
**А)** Я рамантык
**Б)** Часам я бачу тое, чаго іншыя не бачаць
**В)** Я рэаліст

**Шчасце – гэта:**
**А)** Кахаць
**Б)** Есці
**В)** Спаць

**Найлепшая пара жыцця – гэта:**
**А)** Юнацтва
**Б)** Дзяцінства
**В)** Калі ніхто не перашкаджае

**Дзе вам найлепш адпачываецца?**
**А)** У горадзе
**Б)** У вёсцы
**В)** На дачы

**Як узнаўляеце сілы?**
**А)** З сям'ёй
**Б)** Сярод людзей
**В)** Сам-насам

**Якую жывёлу завялі б сабе пры магчымасці?**
**А)** Казу
**Б)** Авечку
**В)** Каня



Калі ў вас найбольш адказаў **А**, вы — **«Над горадам»** (1914–1918)

Марк і Бэла лятуць над Віцебскам, узнятыя ўласным шчасцем і каханнем. На карціне многа рэалістычных дэталяў. Адзежа пачатку XX стагоддзя: характэрныя каўнерыкі, карункі ніжняй спадніцы, чаравічкі з паяском. Рэалістычна паказаныя гарадскія гаспадаркі: хаты з сенцамі і прыбудовамі, адрыны, калодзежы… На заднім плане — Спаская царква, узарваная бальшавікамі ў 1950-я. Сярод гэтага ўсяго пасецца заўсёдная каза — сімвал дому, шчасця і дабрабыту.
А на пярэднім плане — Шагалаў жарт: сядзіць чалавечак з голым задам і ў характэрнай позе. Чалавечка інтэрпрэтуюць па-рознаму: адны кажуць, гэта прыклад таго, як Шагал умеў убачыць у самым празаічным паэзію жыцця. Іншыя заўважаюць тут сумную іронію: які б ты ні быў узнёслы ў сваім шчасці, заўжды знойдуцца людзі, якія пляваць на гэта хацелі. Ці нават горш.

Калі ў вас найбольш адказаў **Б**, вы — **«Я і вёска»** (1911)

Гэту настальгічную карціну Шагал напісаў у Парыжы. Гэта адна з самых ранніх карцін Шагала, а назву ёй даў Маркаў







таварыш, паэт Блез Сандрар. Францыя дазволіла Шагалу інакш паглядзець на колеры і зірнуць новым поглядам на сваю радзіму. «Прыехаўшы ў Парыж, я быў уражаны пераліўамі святла. У Расіі ўсё змрочна і мае шэравата-карычневае адценне».
Уверсе — родны Віцебск. Мужчына ды жанчына спыніліся пагаварыць. У тым, што яны перакуленыя, некаторыя бачаць іранічны намёк на два светы — мужчын і жанчын, якія ніколі да канца не паразумеюцца. Гэтаксама гулліва перавернутыя і некаторыя з віцебскіх дамоў. Чалавек з зялёным тварам — магчыма, сам Шагал. Зялёны для яго — сімвал жыццялюбства. На шыі ў чалавека крыжык: хоць Шагал і выхоўваўся ў іўдаізме, але як творца захапляўся хрысціянскімі сюжэтамі, натхняўся колерамі старадаўніх ікон. Чалавек падае ягняці бліскучую, сакавітую галінку. Кола па цэнтры — мячык, сімвал шчаслівага дзяцінства, а карова — сытага.

Калі ў вас найбольш адказаў **В**, вы — **«Паэт, які прылёг на зямлю»** (1915)

Мядовы месяц Марк і Бэла правялі на дачы ў Завольшы, побач з Лёзнам. «Нарэшце мы адны, у вёсцы. Сасновы бор, цішыня, над дрэвамі — месяц. Рохкае ў хляве свіння, блукае конь. Бэзавае неба. У нас быў не толькі мядовы, але і малочны месяц». Карціна нібы ілюструе гэты тэкст!
Далей ва ўспамінах — рэха вайны: «Непадалёк пасвіўся армейскі статак, і раніцаю мы куплялі ў салдат малако вёдрамі. Жонка, выкармленая на пірагах, прымушала ўсё выпіваць мяне аднаго. Так што да восені на мне з цяжкасцю сыходзілася адзежа».
Калі прыглядзецца, можна ўбачыць над фігурай паэта другі сілуэт, які Шагал пазней замаляваў. Магчыма, гэта была паэтава каханая. З нейкіх прычын у кампазіцыі яна аказалася лішняй.
Букеты палявых кветак, міскі з суніцамі і іншыя сімвалы шчаслівага дачнага часу стануць частымі матывамі Шагалавых карцін.

# КНІГАНОШЫ:
## як кантрабанда ўзгадавала народ

**Дзякуючы апавяданню Уладзіміра Караткевіча беларусам добра вядомае слова «кніганошы». Але не ўсе ведаюць, што ў Літве ім ставяць помнікі і называюць у іх гонар вуліцы. Піша гісторык Сяргей Астанковіч.**

У 2004 годзе ЮНЕСКА прызнала нелегальны распаўсюд літоўскіх кніжак у XIX стагоддзі гістарычнай з'явай, якая не мае аналагаў у свеце. Гадавіна нараджэння «караля кніганошаў», заснавальніка сеткі нелегальнага распаўсюду літоўскай літаратуры Юргіса Бяленіса (16 сакавіка 1846 года), адзначаецца ў Літве як Дзень кніганошы (*Knygnešio diena*).

А ў Каўнасе яшчэ з 1940 года стаіць помнік з пералікам імёнаў і прафесій: доктар, селянін, студэнт, кравец, рабочы... Ёсць сярод іх і жанчыны. Кранальна, што пра кожнага з сотні кніганошаў літоўцы стварылі асобны артыкул у «Вікіпедыі».



**Скульптура невядомага кніганошы** ў Каўнасе аўтарства Ёзаса Зікараса.

**Былі выпадкі, калі для пераходу кніг выкарыстоўвалася нават труна**

### «Ла-ба-де-на», або Русіфікацыя праз алфавіт

Пасля падаўлення паўстання 1863–1864 гадоў расійскія ўлады ўзялі цвёрды курс на русіфікацыю Беларусі і Літвы. Беларусам выдаваць кнігі лацінкай было забаронена яшчэ ў 1859 годзе, пасля паўстання дайшла чарга і да літоўцаў.

14 мая 1864 года сумнавядомы віленскі генерал-губернатар Міхаіл Мураўёў пісаў у мемарандуме да цара: «Увесці ва ўсіх школах Жамойці навучанне жамойцкаму пісьму рускімі літарамі. Такія буквары ўжо друкуюцца». А ў 1872 годзе былі забароненыя і выданні, друкаваныя гатычным шрыфтам.




Гэтыя меры нібыта былі накіраваныя на абарону літоўцаў ад польскага ўплыву. Але насамрэч былі крокамі па асіміляцыі літоўцаў і рыхтавалі іх перавод у праваслаўе.

Пры гэтым у развіцці літоўскага друку кірыліцай расійскія ўлады не шчыравалі. За 40 гадоў было выдадзена ўсяго 55 такіх выданняў. Больш чым на тры чвэрці гэта былі лемантары, календары і рэлігійныя кнігі. Але і іх распаўсюджваць не надта ўдавалася. Літоўскія настаўнікі з Сувалкаўскай губерні скардзіліся, што іх вучні пякуць бліны ў печы, распаленай казённымі катэхізісамі і малітоўнікамі. Сяляне-літоўцы такія кнігі называлі «паліцэйскімі», а сваімі лічылі толькі друкаваныя лацінскімі літарамі.

### Праблема — не надрукаваць, а даставіць

Забарона літоўскага друку ў Расійскай імперыі прывяла да таго, што патрэбныя выданні пачалі друкаваць у так званай Малой Літве — ва Усходняй Прусіі (а з 1871 года — Германіі). Тут, на мяжы з Расійскай імперыяй, таксама жылі літоўцы. Ініцыятарам было літоўскае каталіцкае духавенства на чале з жамойцкім біскупам Мацеюсам Валанчусам (у той час шырока ўжываліся славянізаваныя формы яго імя і прозвішча — Мацей Валанчэўскі).

Узнікла пытанне з дастаўкай. З прускага боку мяжа ахоўвалася слаба, а вось на расійскім памежная варта размяшчалася ў дзве лініі. У першай лініі салдат было так шмат, што яны маглі бачыць і чуць адзін аднаго. Памежнікам дапамагала спецыяльная акцызная варта, якая змагалася з кантрабандай алкаголю. З 1898 года пагранічнікі атрымалі дазвол страляць у парушальнікаў.

### Пераносчыкі і распаўсюднікі

У мясцовых жыхароў было права перасякаць мяжу, паказаўшы спецыяльны білет. Вяртаючыся з Прусіі, яны маглі захапіць з сабой не толькі дазволеныя тавары, але і кніжкі. А неўзабаве з'явіліся і спецыяльныя людзі — тыя самыя кнігаюшы (па-літоўску *knygnešiai*). Пра іх небяспечную дзейнасць мог бы выйсці захапляльны трылер з прыгожым фіналам.

Прускія друкары прыносілі шчыльна ўпакаваныя цюкі, па два пуды (32 кг) кожны, у якую-небудзь прыгранічную карчму. Адтуль дужыя мужчыны з мясцовых пераносілі кнігі таемнымі сцежкамі праз першую лінію пагранічнага кантролю і хавалі ў загадзя нагледжаным месцы. З таго месца іх вывозіў ужо сам кнігаюша, схаваўшы сярод дроў, у сене, у калёсах з падвойным дном... Былі выпадкі, калі для перахову кніг выкарыстоўвалася нават труна. Другая лінія памежнага кантролю праглядала сялян ужо не так уважліва.

**3953** літоўскія выданні лацінскім і гатычным шрыфтам выйшлі ў свет за 1865–1904 гады (і гэта без уліку перыёдыкі!)

**2687** з іх (68%) пабачылі свет у Малой Літве

**712** кніг выйшла ў Злучаных Штатах, куды масава ехалі літоўскія эмігранты

**З прускага боку мяжа ахоўвалася слаба, а вось на расійскім памежная варта размяшчалася аж у дзве лініі**

Кнігі, перапраўленыя цераз мяжу, траплялі ў рукі кнігаюшаў-распаўсюднікаў. Гэта былі звычайныя людзі са сваім рамяством, сваім заняткам. Найлягчэй збыт літоўскіх кніг ішоў ля касцёлаў па нядзелях і святах. Пад выглядам «рэкламнага матэрыялу» гандляры маглі тут распаўсюджваць таксама брашуры і газеты, якія высылаліся з ЗША і Германіі на адрасы літоўцаў-інтэлігентаў, што жылі ў расійскай глыбінцы. Цэнзура там не была такая пільная, як у Літве.

Спачатку ў кантрабандзе пераважалі рэлігійныя выданні. Але з часам пачалі дамінаваць кнігі з прапагандай нацыянальнай ідэі. Для многіх кнігаюшаў кантрабанда кніг зрабілася не столькі заробкам, колькі ідэйнай працай. ▶





**Помнік кніганошам у Каўнасе** з пералікам імён і заняткаў паставілі ў 1940-м, а ў 1950-м савецкая ўлада яго знесла. Пасля атрымання незалежнасці літоўцы аднавілі памятныя дошкі перад музеем Вітаўта Вялікага.

Кантрабандная літоўскамоўная літаратура з Прусіі распаўсюджвалася таксама на Сувальшчыне (цяпер Польшча), у Рызе і Мітаве (цяперашняе Елгава ў Латвіі). Вядома нават пра кніганошу, які два разы наведаў літоўцаў Магілёўскай губерні.

А каб вучыць дзяцей чытаць па-літоўску, стварaліся нелегальныя школкі. Настаўнікаў у іх называлі дарэктарамі (літ. *daraktoriai*).

### Цюкі з беларускімі кніжкамі

Урадавыя забароны тычыліся не толькі літоўцаў. Таму ў літоўскіх кніганошаў часта знаходзілі і польскія выданні, і беларускія кніжкі. У 1892 годзе ў прускім Тыльзіце (цяпер Савецк Калінінградскай вобласці) у літоўскай друкарні выйшлі некалькі беларускіх брашур, якія пасля, як сведчыў Вацлаў Ластоўскі, «былі перапраўлены нелегальнай дарогай цераз расійска-нямецкую граніцу і пазней перасланы паштовымі пасылкамі ў Менск».

Найбольш вядомая — «Дзядзька Антон», пераклад польскай брашуры «*Ojciec Szymon*», якая ў сваю чаргу з'яўляецца перапрацоўкай расійскай брашуры «Хітрая механіка» (Цюрых, 1874). Апавядальнік Антон, які раней настаўнічаў, працаваў на фабрыках, абураецца, што мужык жыве «ў бядзе, голадзе дый холадзе», аналізуе становішча сялян, асвету, выдаткі на цара і царскую сям'ю, дзяржаўны апарат, армію. Брашура заканчваецца крамольным заклікам: «А цяпер — процiў цара і яго чыноўнікаў пойдзем!».

Адразу пасля друку яго наклад быў канфіскаваны нямецкай паліцыяй, але пазней вернуты. З таго часу невялікія пасылкі з «Дзядзькам Антонам» перасыляліся цераз мяжу на працягу гадоў. Паводле справаздачы Польскай сацыялістычнай партыі, яшчэ ў 1895 годзе праз пераходны пункт каля Таўрогаў (цяперашняе Таўраге) ля прускай мяжы былі перапраўленыя 332 асобнікі нейкіх беларускіх выданняў. Відаць, гэта і быў «Дзядзька Антон».

Расійскія сацыял-дэмакраты таксама лічылі, што грэх не скарыстацца такім надзейным каналам паставак. Напрыклад, Фелікс Дзяржынскі, працуючы ў 1897 годзе ў Коўне на металазаводзе братоў Тыльмансаў, даваў рабочым-літоўцам чытаць «выданні на жмудска-літоўскай мове». А Максім Літвінаў, у 1930-я наркам замежных спраў СССР, у царскія часы займаўся дастаўкай у Расію ленінскай газеты «Іскра», якая друкавалася ў Еўропе. Паводле ўспамінаў Літвінава, ён карыстаўся дапамогай літоўскіх сялян, прытым апошнія дапамагалі не столькі з-за ўзнагароджання,

### Марная барацьба з кніганошамі

**1584** справы было заведзена на кніганошаў

**866** чалавек адседзелі тэрмін у мясцовых турмах

**89** пасля турмы былі высланыя ў суседнія губерні

**52** сасланыя ў Сібір і на Поўнач

**21** чалавек аштрафаваны

**478** кніганошаў былі апраўданыя

**8–10%** кантрабандных кніг былі канфіскаваныя



## Кнігі хавалі сярод дазволенага тавару

колькі з-за нянавісці да ўладаў. «Яны былі ў працы сумленныя і ні разу не здаралася, каб здрадзілі».

### Прызнанне паражэння

Моцны і масавы супраціў пазбавіў эфектыўнасці ўрадавую забарону на літоўскі друк лацінкай. Тым не менш забарона пратрымалася аж да пачатку XX стагоддзя. 24 красавіка (7 мая) 1904 года Мікалай II зацвердзіў пастанову Савета Міністраў: «Адмяніць усе рашэнні і пастановы ўрада, што датычацца літоўскага і жамойцкага пісьма, і дазволіць выкарыстоўваць у гэтых выданнях, акрамя рускага, таксама лацінскі ці іншы шрыфт».


DZIADŹKA ANTON

abo

hutarka ab ûsim czysta szto balić,

a czamu balić — nia wiedaim....

Cana: załatoŭka.

WILNO.
U drukarni Marii Krasoŭskoj.
1892.

**Аўтарства 46-старонкавай брашуры «Дзядзька Антон, або Гутарка аб усім чыста, што баліць, а чаму баліць — не ведаем...» дакладна не ўстаноўлена.** Пакуль найбольш верагодная версія — яе перапрацавалі з польскага арыгінала вучні Слуцкай гімназіі ў 1880-я гады. На выданні для канспірацыі пазначылі фальшывыя выхадныя звесткі («У друкарні Марыі Красоўскай, 1892») і зрабілі запіс пра допуск цэнзурай. Асоба Марыі Красоўскай рэальная: народнік-эмігрант Марыян Абрамовіч, які займаўся выданнем, пазначыў імя сваёй каханай. А ў даце цэнзурнага дазволу зашыфраваў дату яе шлюбу з іншым!

У тым жа годзе імператар выдаў маніфест, згодна з якім належала перагледзець справы кнігανошаў, а пакаранні зменшыць ці ўвогуле адмяніць.

У кастрычніку 1904 года ў Коўне і Санкт-Пецярбургу выйшлі першыя легальныя літоўскія выданні, а ў канцы года — і першыя газеты. Быў таксама дазволены ўвоз з-за мяжы літоўскага друку. У барацьбе з нацыянальнымі памкненнямі літоўскага народа расійскія ўлады прайгралі. А літоўцы дзякуючы кантрабандзе і свядомаму парушэнню несправядлівых законаў захавалі сябе. ◆

Уладзімір Караткевіч зацікавіўся феноменам літоўскіх кнігανош і пазнаёміў з ім беларускага чытача. Праўда, крыху адступіў ад гістарычнай рэчаіснасці, пасяліўшы на мяжу з Прусіяй беларусаў і зрабіўшы кнігανошамі іх. Надта ўжо натхняльны і зайздросны быў прыклад суседзяў...

«...У сасновым лесе — маліцца, у бярозавым — любіцца, у дубовым — волю каваць, у яловым — душу д'яблу прадаваць.

Гэты лес быў яловы.

Ён цягнуўся амаль на сорак вёрст, і ўсе гэтыя вёрсты шумелі верхавінамі і маўчалі ўнізе, дзе былі сухія замшэлыя галіны, сівы лапнік, рэдкія галявіны з імшарамі ды куп'ём і чорныя ручаіны.

Усё тут расло цяжка, змагаючыся за кожны глыток паветра, за кожны прамень, і таму мухаморы былі крывавыя, а з абсыпаных гліцай рыжыкаў, калі збіць іх нагою, таксама тачылася рудая кроў.

Недзе на палове лясны шум абрываўся на хвіліну ручаінным звонам, а потым зноў шумеў аж дваццаць вёрст. І на тым баку ручая ўсё было такое самае і... інакшае.

Бо там была Прусія.

Яліны там былі такія і не такія, бо прускія, і мох быў прускі, і рыжыкі — прускія, і лясны шум таксама прускі.

І калі тамтэйшы мужык бачыў купіну, унізаную каралямі журавін, ён таксама параўноўваў ягады з кроплямі крыві, але меў на ўвазе прускую кроў.

У лесе, вярсты за чатыры ад краю, на адзіным месцы, якое ўдалося адваяваць ад лясоў і імшар, стаяў пагранічны кардон, людзям якога было загадана лавіць кантрабандыстаў, калі тыя пойдуць з прускага боку, ды яшчэ не дазваляць мясцовым мужыкам і бабам хадзіць за мяжу, да кумоў, на хрэсьбіны ці вяселле...

...І вось таму пагранічнай варце даводзілася мала спаць: з-за мяжы насілі крамолу — жамойцкую, расейскую, польскую, а за апошні час — як невыразна казалі пагудкі — яшчэ і нейкую мясцовую, тутэйшую.

Кніжак гэтых пакуль што ніхто не трымаў у руках, але казалі: яны з'явіліся. З'явіліся, надрукаваныя то лацінкай, то грамадзянскай кірыліцай, і ўжо ў гэтай самой падвойнасці было нешта такое, што насцярожвала і палохала.

Напэўна, гэта была таксама крамола: на тутэйшыя кнігі, на тутэйшую гаворку ўжо даўно была накладзена афіцыйная забарона. І чорт яго ведае, ці не новы гэта канал знайшлі, каб прапаведаваць свае думкі, падбухторшчыкі і валасатыя прапагандысты?

Таму загадана было сачыць і лавіць карабейнікаў, асабліва ж носьбітаў тых кніг, што не прайшлі мыты і маглі быць небяспечнымі. А гэта быў даўні промысел некаторых мясцовых сялян. Пісьменныя мужыкі куплялі кніжкі і малюнкі, ціснутыя за мяжой. Яны былі больш танныя, асабліва калі мыта не падвышала іхняй цаны. А замежжа друкавала ўсякія кнігі: па-жамойцку, па-польску і па-расейску — абы куплялі.

І вось кнігανош загадана было лавіць...

...Тым больш што ў самім выглядзе гэтых танюткіх кніжачак, у іхняй паперы, у самім гучанні іхніх слоў было адценне крамолы. Небяспечнай. Зацятай. Нездарма ж сярод тых, што забілі цара, былі два тутэйшыя. А тое, што з-за мяжы ідуць і расейскія кнігі, нікога не абыходзіла. Гэта было яшчэ горш, бо па-расейску чытае большая колькасць людзей, бо галавою забойцаў быў расеец.

Людзі з кардонаў лавілі і часам нават абстрэльвалі кнігανош. На тым кардоне, пра які мы завялі гаворку, гэтым займаліся вельмі грунтоўна...”

*Уладзімір Караткевіч. «Кнігανошы»*




WIKIMEDIA COMMONS

Фердынанд Рушчыц. **Зямля.** 1898 год.

# «Ішлі валы дарогаю, ды ўсе крутарогі...»

**Не кожны з ходу дасць адказ на пытанне: што гэта за жывёла такая — вол? А менавіта ён на працягу стагоддзяў быў галоўным памочнікам нашых продкаў. Піша Андрэй Вашкевіч.**

Мы традыцыйна ўяўляем сабе селяніна з плугам, у які запрэжаны конь. Але дастаткова глянуць у старыя дакументы, і мы пераканаемся, што яшчэ 150 гадоў таму валоў у гаспадарках беларусаў было ў два-тры разы больш.

## Валы і коні

Вол — гэта звычайны бык, але кастрыраваны. Увогуле, бык  — істоты даволі агрэсіўныя, і прымусіць іх цягаць воз ці плуг нельга. Але пасля кастрацыі бык, стаўшы валом, хутка нагульвае тлушч, становіцца спакойным,

пры гэтым застаецца вельмі дужым. Ён моцна змяняецца знешне — у адрозненне ад звычайных нашых быкоў, валы маюць вельмі доўгія вострыя рогі.

У вала перад канём шмат пераваг. Каня цяжэй даглядаць, ён часцей хварэе і патрабуе больш якасную ежу, у першую чаргу авёс. Да таго ж у каня слабаватая шыя, а таму патрэбна цэлая сістэма дарагой вупражы, каб конь цягнуў плуг або воз грудзямі. А шыя вала вельмі моцная, таму на яго надзяюць простае ярмо — чатырохкутнік з дрэва. Калі вол старэе і траціць вартасць як цяглавая жывёліна, то з яго можна атрымаць і мяса, у той час як з каня — толькі скуру.

Утрыманне каня абыходзілася ў тры-чатыры разы даражэй. Зрэшты, і каштаваў конь значна даражэй. Характэрна, што ў беларускай народнай казцы «Мена» непрактычны дзед, купіўшы на сабраныя грошы каня, вядзецца на прапановы абмяняць яго на іншых свойскіх жывёл, прытым пры кожнай наступнай мене прайграе, атрымліваючы ўзамен больш танную жывёліну. Першая са зробленых менаў — акурат каня на вала.

Але разам з перавагамі ёсць у вала і вялікі мінус — ён надта марудны. Чалавек, які ідзе хуткім крокам, лёгка абгоніць воз, запрэжаны валамі, бо той сунецца з хуткасцю ўсяго 2–3 кіламетры на гадзіну. Да таго ж конь — жывёліна больш універсальная, ён надаецца для выканання большай колькасці работ.

### Валы ў беларускім фальклоры

Ой, зараўлі валы ў вярбе,
А ў хлопца дзеўкі ў галаве.
Трэба бацьку пашаньку пахаць.
Няма часу любу выбіраць.
А валы стаяць равуць,
Ноччу пчолы не гудуць.
Колькі ў дудачку не дуць,
Дзеўкі самі не ідуць.
А валы стаяць равуць,
Дзеўкі самі не ідуць.

Ішлі валы дарогаю,
Ды ўсе палавыя,
А за імі чумачанькі,
Ды ўсе маладыя.
Ішлі валы дарогаю,
Ды ўсе крутарогі,
А за імі чумачанькі,
Ды ўсе чарнабровы.

### Беларускія прыказкі і прымаўкі, у якіх згадваюцца валы

- Есць за вала, робіць за камара.
- Як з пана пан, то аддасць валы, а як з мужыка пан, то здзярэ пасталы.
- З аднаго вала дзвюх шкур не дзяруць.
- Ні каня, ні вала — сядзі, як паня.
- Гора табе, воле, калі цябе карова коле.
- Адзін з'еш хоць вала, адна хвала.
- За морам валы дорам. (= Там добра, дзе нас няма)
- Нагаварыў, што на валовай шкуры не спісаць.

### Ад росквіту да заняпаду

У Пісцовай кнізе Гродзенскай каралеўскай эканоміі сярэдзіны XVI стагоддзя валы падаюцца як асноўная цяглавая жывёла. Заможны селянін меў у сваёй гаспадарцы зазвычай аднаго-двух коней і трох-чатырох валоў.

Прайшло трыста гадоў, і ў інвентары панскага двара Гожа на Нёмане недалёка ад Гродна мы бачым такую самую карціну. На 27 сялянскіх гаспадарак было 34 кані і аж 74 валы. Суадносіны колькасці валоў і коней захоўваліся стагоддзямі. З таго ж інвентара бачна, што валоў выкарыстоўвалі для ворыва, а коней — для больш лёгкай, але хуткай працы, напрыклад баранавання.

З другой паловы XIX стагоддзя вол пакрысе знікае з беларускіх палеткаў. Уводзіліся новыя метады апрацоўкі зямлі, з'яўляліся больш сучасныя сельскагаспадарчыя прыстасаванні. Да таго ж селянін пасля адмены прыгону крыху пабагацеў, а ва ўмовах хранічнага недахопу зямлі яго ўжо больш цікавіла хуткасць выканання работ, а не іх маштаб. І тут валы былі коням не канкурэнты.

## Вол — гэта бык, але кастрыраваны

Але і ў першай палове XX стагоддзя ворыва на валах было яшчэ цалкам звычайнай справай. Пра гэта сведчыць хоць бы тое, наколькі іх вобраз шырока прысутнічае ў творах беларускіх паэтаў, асабліва ▶




**Пара валоў** на Сарочынскім кірмашы ва Украіне.

▶ ў жанры байкі. Вядомыя байкі Янкі Купалы «Мікіта і валы», «Саха і валы» (1910 год), Кандрата Крапівы «Вол і авадзень» (1923 год).

Акрамя таго, праз нашыя землі кожнае лета праганялі тысячы валоў з Украіны. Гналі іх на поўнач, у Прусію, каб там забіць на мяса і морам адправіць у прамысловыя гарады Еўропы. За адзін сезон вол дайсці да Прусіі не паспяваў, таму ў ваколіцах Гродна змучаных, худых жывёл раздавалі па сялянскіх гаспадарках. Сяляне пускалі валоў на пашу, выконвалі на іх усе свае работы, а наступным летам перадавалі назад украінскім пагоншчыкам, беручы сабе новую пару. З такога абмену вынікала ўзаемная карысць: вол прыходзіў да Караляўца сыты і ўкормлены, а беларускі селянін мог на ім вясною ўзараць свае палеткі.

**Кастрацыю быкоў**, якіх планавалі выкарыстоўваць як цяглавых жывёл, праводзілі пасля дасягнення імі ўзросту 1,5–2 гады. Раней гэта рабіць не рэкамендавалася: каб вол быў моцны і цягавіты, перад кастрацыяй ён мусіў вырасці і дасягнуць поўнай палавой спеласці.
**Правільнае кастрыраванне** быкоў і самцоў іншых жывёл вымагала спецыяльных ведаў і навыкаў. Таму былі адмысловыя людзі, якія займаліся гэтым прафесійна. У сезон яны вандравалі па вёсках і прапаноўвалі гаспадарам свае паслугі. Сезон масавай кастрацыі самцоў хатніх жывёл (не толькі быкоў) прыпадаў на вясну і восень, бо зімовыя маразы і летняя спёка ускладнялі загойванне ранаў.
**Зваліся** адмыслоўцы па кастрацыі жывёл **канаваламі**, бо буйную жывёліну перад працэдурай трэба было паваліць ды пакласці, пазбавіўшы яе магчымасці рухацца і супраціўляцца. Адгэтуль паходзяць і розныя варыянты беларускай народнай назвы працэдуры — **«пакладаць»**, «выкладаць», «спакладаць». Шырока распаўсюджаная ў Беларусі і іншая назва дзеяння — **«лягчаць»** ці «ляхчаць», ад якой паходзяць іншыя найменні прафесіі — «лягчыла», «лягчай», «лягчак». Канавалы ці лягчылы не толькі кастрыравалі жывёлу, але пры патрэбе і лячылі яе, выконвалі функцыі сучасных ветэрынараў.
Менавіта прафесійным заняткам сваіх продкаў абавязаныя сучасныя носьбіты прозвішчаў кшталту Канавал, Канавалаў, Канавальчык, Канаваленка, Канавалёнак ці Лягчак, Легчакоў, Лягчыла, Лягчылаў.

**За адзін сезон вол не паспяваў дайсці з Валыні да Прусіі, таму ў ваколіцах Гродна змучаных, худых жывёл раздавалі па сялянскіх гаспадарках**

Калгасная механізацыя канчаткова спісала валоў як працоўную адзінку. Хоць нават да пачатку 1960-х іх яшчэ можна было пабачыць дзе-нідзе на Палессі.

### Засталася адна памяць

Сёння валы ва ўсёй Еўропе — вялікая рэдкасць. Напрыклад, у Англіі засталася толькі адна пара валоў, на якіх час ад часу аруць поле на пацеху турыстам. У Польшчы ў навукова-даследчым інстытуце заатэхнікі ў мясцовасці Аджахова Падкарпацкага ваяводства таксама трымаюць некалькі жывёлін. Вол Гектар часам арэ зямлю на пацеху турыстам ды рэканструктарам Сярэднявечча. Украінскую шэрую карову — пароду, з якой выгадоўвалі ўкраінскіх валоў і якая практычна знікла ў 1920-я, — цяпер спрабуюць аднавіць ва Украіне. У Беларусі ж сёння няма, відаць, аніводнага вала.

Валы растварыліся ў гісторыі, але засталіся сімвалам цяжкай працы. Дагэтуль вядомая прыказка «працаваць як вол». Валы часта прысутнічаюць у беларускіх казках, і звычайна як становічыя персанажы. Адна з казак так і завецца — «Вол», і яе галоўны герой выступае як найбольш разумны, гаспадарлівы і прадбачлівы сярод іншых свойскіх жывёл і птушак: барана, гусака і пеўня. У іншай казцы, «Хітры вол», ён таксама дасціпна абдурвае цэлую воўчую зграю.

А з твораў мастацтва на гэтую тэму найбольш вядомая карціна нашага земляка Фердынанда Рушчыца пад назвай «Зямля». Рушчыц стварыў гэты шэдэўр у 1898 годзе, назіраючы, як арэ на валах селянін з ваколіц ягонага роднага Багданава на Валожыншчыне. Амаль уся карціна — маса аблокаў, а знізу — па чорнай-чорнай зямлі, паўкруглай, як зямны шар, уздымаецца араты з парай валоў. Калісьці тыповы, а сёння зусім экзатычны вобраз старой Беларусі. ◆

### Ворыва на валах

Я гэта бачыў сам, хоць адышло:
Ў апошні, можа, раз на белым свеце
Ішлі быкі і ворыва плыло,
А зверху — хмары, чырвань, сінь
і вецер...

Ідуць па ўзгорках, круглых і цяжкіх,
За імі йльсняныя ў адвалах межы...
Як старажытныя князі, быкі
Маю радзіму на кавалкі рэжуць.

З нябачнае лагчыны йдуць яны
Да сонца, ветру, хмараў і разлогаў,
На ўзгорак, велічны, як шар зямны,
Бы два паўмесяцы, усплываюць рогі.

Заплюшчу вочы — і перада мной
Два цені йдуць пад крумкачынай зграяй,
І рэжуць свет нарожнаю бранёй,
І капыты — бы край мой папіраюць.

Бялкі ў крыві, а капыты — ў гразі.
І ўсё здаецца мне: нарогам-зброяй
Быкі, як старажытныя князі,
Маю радзіму на кавалкі крояць.

Ў смяротны час — няхай прайшлі гады —
Ў маё апошняе сальюцца слова,
І сэрца раздзяруць на дзве паловы
Аблокаў барва, сінь, трывожны дым,
Радзімы твар, і горды, і суровы.

*Уладзімір Караткевіч, 1973 год*

# Што такое БУЛЬЁТКА

## *Чайнік, паравоз, лебедзь...*

**Пра старадаўні кухонны посуд расказвае Людміла Жук з музея-запаведніка «Нясвіж».**

Выглядам бульётка нагадвае самавар, а па функцыі — тэрмас. Назва паходзіць ад французскага *bouillotte* — «чайнік», «грэлка». Гэта металічная ёмістасць на падстаўцы са спіртоўкай або газавай гарэлкай. Кіпень у бульётцы доўга заставаўся цёплым, агонь падтрымліваў тэмпературу. Бульётка была асабліва прыдатная для доўгіх чаяванняў. Хаця ў ёй гатавалі не толькі гарбату, але і пунш, і глінтвейн.

У пачатку XX стагоддзя бульёткі яшчэ выкарыстоўваліся, але мода на іх неўзабаве прайшла, ды і спірт падаражэў. ◆



У калекцыі музея-запаведніка «Нясвіж» — дзесяць бульётак. **Самая ранняя створана ў Францыі ў 1849 годзе** на фірме «Шарль Крыстофль і ўсе». Яна мае форму гаршчочка, а на накрыўцы – паўраспушчаны бутон. Літыя ножкі зробленыя ў выглядзе парасткаў. Дзяржальня выканана з чорнага дрэва.



Бульёткі мелі розныя формы: чайніка, паравоза, лебедзя… **Гэтая бульётка ў форме кубка пакрыта срэбным напыленнем.** Яна выраблена ў пачатку XX стагоддзя ў брытанскім Шэфілдзе кампаніяй «Джэймс Дыксан і сыны».



Бульётка ў стылі ар-нуво зроблена ў пачатку XX стагоддзя з моднага медна-нікелевага сплаву, які мае злёгку ружаваты адліў.

## Як нашы суайчыннікі багацелі ў Аргенціне





# БЕЛАРУСЫ-ЧАКАРЭРА

SHUTTERSTOCK, BY PAUL STRINGER

**Экзатычная прырода, суровыя гауча і гарачае танга — у гэта ўсё ўжо з канца XIX стагоддзя акунуліся нашы працавітыя землякі. У Беларусі сялянам не хапала зямлі, а ў Аргенціне ляжала цаліна. Дый слова «Амерыка» ўжо тады мела магічны сэнс. Піша кандыдат гістарычных навук Сяргей Шабельцаў.**

«Што паміраць ад голаду і тыфу! Трэба ехаць у Амерыку, наш параход адплывае»,— меркаваў Косця Гарустовіч, пакідаючы родную хату на Пружаншчыне. Ён ехаў у Канаду, а апынуўся чамусьці ў Аргенціне. Тут яго чакала каханне — Гертрудзіс Басіліка Рамірэс, чыстакроўная аргенцінка, сірата, як і ён. У Аргенціне народзяцца чатыры сыны і дачка. Старэйшы, таксама Косцік, адважны хлопчык, будзе прыносіць на абед ігуан і браняносцаў, а аднойчы разам з сабакам Кайзерам упалюе кракадзіла...

У міжваенны перыяд у Срэбную Рэспубліку — так перакладаецца з іспанскай мовы слова «Аргенціна» — эмігравала каля 20 тысяч беларусаў. Польскі ўрад эміграцыю горача падтрымліваў: спадзяваліся, што гэта зменшыць сацыяльнае напружанне. Па вёсках хадзілі агенты, якія абяцалі арганізаваць пераезд. Некаторыя сяляне адважваліся ехаць у гарады, рабочымі, некаторыя — будаваць уласную гаспадарку.

Трапіць у Аргенціну можна было праз Гдыню (дзейнічалі рэгулярныя рэйсы Гдыня – Буэнас-Айрэс), а таксама праз парты Заходняй Еўропы: Амстэрдам, Геную, Марсэль. Кожны эмігрант, акрамя замежнага пашпарта, які з 1925 года выдаваўся бясплатна, мусіў мець медыцынскую даведку, пасведчанне аб добрых паводзінах і прафесіі. Беларусы плылі ў каютах другога ці трэцяга класа. Сяляне з цікавасцю глядзелі на еўрапейскія гарады, па дарозе жылі ў гатэлях, плылі на акіянскіх лайнерах.

**Аргенціна** — вялікая краіна ў Паўднёвай Амерыцы. Яе тэрыторыя ў 13 разоў большая за Беларусь, насельніцтва — 44 мільёны чалавек. Вялізныя ўрадлівыя тэрыторыі зрабілі гэтую краіну адным з найбольшых вытворцаў сельгаспрадукцыі. Аргенціна доўгі час была на ўзроўні самых развітых краін свету, але пачынаючы з сярэдзіны XX стагоддзя адстала ад перадавых краін Захаду. Беларусы, якія эмігравалі ў Аргенціну ў 1930-я, пераязджалі з беднай ускраіны Польшчы ў багатую краіну. Але ўзровень дабрабыту іх унукаў прыкладна аднолькавы з жыццём унукаў тых, хто за акіян не паехаў.

Ціхі ак



**Матэ** — нацыянальны напой Аргенціны, завараны з высушанага лісця джэрбы, або падуба парагвайскага. Матэ заварваюць у адмысловым посудзе, вырабленым з маленькага гарбуза, такі посуд называецца калабас. П'юць праз спецыяльную трубку з сіцечкам на канцы — бамбіжу. Калі сустракаюцца сябры, то адбываецца асаблівы рытуал: калабас з бамбіжай перадаюцца па коле, як люлька міру, і кожны па чарзе п'е. Падчас гэтага дзеляцца навінамі, узгадваюць мінулае або абмяркоўваюць планы.

**Калабас — кубачак для матэ**, які робіцца з гарбуза.

Домна Жолуд з Глыбоччыны, што ехала ў Аргенціну да свайго жаніха, узгадвала, што на параходзе ўпершыню ў жыцці наелася дасыта.

Усе шляхі са Старога Свету ў Аргенціну вялі ў Буэнас-Айрэс — сталіцу і адзіны порт, які прымаў імігрантаў. Пасля трох ці чатырохтыднёвай дарогі цераз Атлантычны акіян перасяленцы паступалі ў партовы *Hotel de los Inmigrantes*, дзе, прайшоўшы мытны і медыцынскі агляд, жылі за кошт урада пяць дзён. Па вечарах у велізарнай сталовай на 800 чалавек імігрантам чыталі лекцыі і паказвалі фільмы пра палявыя работы ў розных мясцовасцях. За гэтыя пяць дзён імігранты мусілі знайсці працу, ім дапамагалі абраць месца, і чалавек ехаў туды за дзяржаўны кошт.

У паўночных рэгіёнах (Фармоса, Чака, Місьёнэс) тады яшчэ ляжалі велізарныя абшары неапрацаванай зямлі. У трапічных лясах, перавітых ліянамі, жылі малпы, яркія птушкі марабу і туканы, а ў вадаёмах панавалі кракадзілы. Па прыездзе беларус станавіўся ўладальнікам участка — чакры — у 40–60 га, гэта значыць ператвараўся ў «чакарэра».

## Смяротны вецер

Тэкля прыехала ў Аргенціну ў 1920-х з мужам і шасцю дзецьмі. «Памятаю, згрузілі нас з парахода, некалькі такіх сямей. Афармілі паперы і ў той жа дзень сабралі ўсіх у вялікую залу, дзе агент з перакладчыкам прапанавалі нам ехаць у правінцыю Місьёнэс. Распісаў нам агент, што клімат там цёплы і зямля ўрадлівая і што ▶



**Да Першай сусветнай у Аргенціне пабывала некалькі тысяч нашых суайчыннікаў, а ў часы міжваеннай Польшчы туды выехала да 20 тысяч. Ехалі пераважна тыя, каму на радзіме кепска жылося, хто хацеў уцячы ад канфліктаў, пачаць жыццё з чыстага ліста.**

**Прыбыццё імігрантаў у Буэнас-Айрэс.** 1910 год.



**На світанку іх пабудзілі.** Той самы стары гаўча-мажардом біў малатком па рэйцы, якая вісела на дрэве і пакрыкваў:
— Vamos muchachos! Levántense! Vamos! (Давайце, хлопцы! Уставайце! Давайце!)
Зноў выпілі па конаўцы матэ з хлебам і, яшчэ сонца не ўзышло, сталі перад незвычайна шырокім палеткам прыгожай пшаніцы. Ужо тры дні, як яе жалі пяць жнярак, а здавалася, што яны і знаку ў тым палетку не зрабілі. Цяпер пусцілі яшчэ адну машыну і пачалі звозіць снапы, якія сушыліся ўжо два дні, у сцірту.
Машыны былі старой сістэмы, на коннай цязе, але спраўныя. Адныя работнікі кіравалі працай жнярак, другія ставілі снапы ў мэндлікі, а астатнія іх звозілі.
Праца ішла жвава. Узляталі ўгару крылы машын, вуркаталі колы, скрыгатала жалеза, чуліся вясёлыя размовы і падбадзёрванні.
Трох нашых сяброў прызначылі на звозку. Рабілася гэта арыгінальна. Мелася дванаццаць спецыяльных санак-валакушаў. На кожныя з іх клалася па дваццаць пяць снапоў, яны моцна звязваліся пастронкамі і канём цягнуліся да сцірты. А там іх ужо чакалі краны з конным прывадам, якімі кіравалі іншыя спецыялісты. Яны адразу чаплялі проста з санак усё прывезенае на крук і цягнулі на сцірту.
Працай кіраваў сам гаспадар пры дапамозе свайго ўпраўляючага. Іх выгляд не надта адрозніваўся ад звычайных гаўча. Мелі на сабе трохі менш выцвілыя капелюшы, даражэйшыя нашыйныя хусткі, трохі чысцейшыя кашулі, багацейшыя ўпрыгожанні на поясе, больш прыстойныя штаны-бамбачас, а замест палатняных тапачак-альпаргатаў — боты з халявамі. Яны перасоўваліся паміж работнікамі на конях, вучылі іх, давалі парады, а часам прыспешвалі.
Зыгмунта захапляла багацце зямлі. Ён узважваў снапы ў руках, увесь час паглядаў на залатое мора каласоў і падкопваў нагой глебу.
— Вы гляньце, хлопцы — казаў з захапленнем. – Порах! Чарназём! Гэта ж і наша слуцкая не параўнаецца! — І самому сабе: «Божа, Божа! Каб жа хоць з дваццаць дзесяцінак гэтага! Якая ж гэта была б радасць! Якое ж шчасце для нас!».

*Фларыян Чарнышэвіч*
*«Лёсы пасынкаў»*



**«La Rotonda», будынак, дзе знаходзіўся Hotel de los Inmigrantes** у 1887–1910 гадах (картка пачатку XX стагоддзя).

наогул лепшага месца не можа быць. Усе мы ахвотна пагадзіліся ехаць. Дабіраліся туды амаль двое сутак цягніком. Замест урадлівай зямлі мы апынуліся ў непраходных дзікіх кустах, пад голым небам. Была восень ці зіма — трапілі якраз на моцныя дажджы, а ў мяне грудное дзіця. Толькі тады мы сцямілі, колькі сіл прыйдзецца прыкласці, каб гэтая зямля дала плён».

Жыццё ў дрымучай сельве было адзінокім — найбліжэйшыя суседзі былі за дзясяткі кіламетраў. Расповед аргенцінскіх беларусаў гучыць як анекдот, але, раскazваюць




**Збор чаю матэ.**

SHUTTERSTOCK. BY PABLO RODRIGUEZ MERKEL

яны, адчувалі сябе настолькі іншародна, што і дзікія звяры спачатку іх за людзей не прымалі: ягуары, якіх называюць у Аргенціне «тыграмі», не чапалі, толькі нюхалі. Толькі калі пачалі па іх страляць, сталі нападаць.

Паляванне і рыбалоўства дапамаглі перажыць першы час. Кастусь, старэйшы сын сям'і Гарустовічаў, далучыўся да палявання на пато́ (дзікую качку), пака (дзікую курыцу, якая і па вадзе ходзіць), кара, хока (велізарны журавель), чаха (велізарная курыца).



Ранча ў Чака. **Слова *rancho* ў Аргенціне азначае «халупу».** Менавіта такія хаціны першапачаткова будавалі пасяленцы ў паўночных правінцыях.



**Кастусь Гарустовіч з Пружаншчыны** ажаніўся з аргенцінкай, пражыў у Аргенціне 35 гадоў, але, па словах сына, з першага дня марыў пра радзіму. І ўрэшце вярнуўся. Яго старэйшы сын Кастусь, узгадваны на пучэра і матэ, прыехаў у СССР 17-гадовым хлопцам.



Але асабліва ганарыўся, здабыўшы тую — птушку, падобную да бусла, якая была большай за самога паляўнічага. Аднойчы пашанцавала забіць маленькага кракадзіла — скуру пакінуў сабе, а мяса выпрасіў на ежу мясцовы аргенцінец, які потым быў да Кастуся асабліва прыязны.

Змеі, праца пры 40 градусах, частыя перапады тэмператур (халодны вецер пампера апускаў тэмпературу на 15–20° на працягу дня) — усё гэта прыводзіла да трагедый. 2 лютага 1946 года калонія з доўгай назвай Пікада Губернатар Лопес развіталася з 24-гадовым Антонам Мільяновічам. «Пры цяжкай працы ён вельмі змакрэў, а змакрэлага яго прадзьмуў халодны вецер, пасля чаго моцна захварэў і праз тры дні памёр». Засталася маладая ўдава і трохгадовая дачка.

На поўначы Аргенціны бываюць паводкі, засухі, град, але найбольшай небяспекай была саранча, хмары якой ахаплівалі 200–300 км$^2$. Паляшук Андрэй Пракапчук аднойчы зблытаў такую хмару з дажджавой. Калі яна асела на лес, пад цяжарам ламаліся дрэвы. За некалькі гадзін такая хеўра з'ядала ўсё.

## Вайна з сельвай

Чырваназём Місьёнэса вельмі ўрадлівы, але зямлю трэба адваяваць у сельвы. Ссечанае дрэва не ўпадзе, а павісне на ліянах. Некалькі дрэў утвараюць завал, які немагчыма расцягнуць. Адзіны шлях — паліць. Пры гэтым, праўда, буйныя дрэвы да канца не згараць, а распілаваць іх няможна: цвёрдыя, як жалеза. Таму сеяць і збіраць ▶

першыя ўраджаі даводзілася на полі, пакрытым гарэлымі карчамі і карэннем.

«Трэба было абчысціць зямлю ад кустоў і дрэў. Змайстравалі мужчыны буданы, змясціліся мы там з нашай маёмасцю і ўзяліся ўсёй сям'ёй паліць лес. Якія цяжкасці нам давялося перажываць! Не ведалі мовы, дзікі лес, казуркі, ад якіх хадзілі ўсе спухлыя, розныя гадзюкі, мясцовыя жыхары раўніва глядзелі, нуда па родных мясцінах...»

Выгляд мясцовых індзейцаў быў яшчэ адным культурным шокам. Напрыклад, племя Тоба наймалі падчас збору бавоўны і выдавалі спецадзенне, але індзейцы распорвалі штаны дзеля вентыляцыі. Калі схіляліся да зямлі, перасяленцам прыходзілася з сорамам адводзіць вочы. Пасля збору бавоўны індзейцы адразу трацілі заробак, кідалі адзенне ў кустах і голымі вярталіся ў лес да наступнай «касэчы» (збору ўраджаю).

У некаторых раёнах індзейцы паводзілі сябе агрэсіўна, але звычайна пасяленцаў (у тым ліку і беларусаў) не чапалі, бо іміграноты давалі ім працу.

**Мальбэк** — вінны сорт вінаграду. У Аргенціне знаходзяцца самыя вялікія ў свеце плантацыі — 25 тысяч гектараў. Мальбэк значна больш цеплалюбівы, чым кабернэ савіньён і мерло, а таму не такі распаўсюджаны. У Аргенціне для яго ідэальны клімат. Віно з мальбэку моцнае, канцэнтраванае, багатае на адценні спелай салодкай вішні, слівы, сухафруктаў, шакаладу і ванілі. Стандартная вытрымка мальбэку — 1,5–2 гады.


SHUTTERSTOCK. BY GORAN BOGICEVIC

**Чакарэра** — гэта таксама назва традыцыйнага аргенцінскага танца.


FLICKR. PABLO GONZALEZ


PXHERE.COM


WIKIMEDIA COMMONS, BY CARLOS ADAMPOL


PIXABAY, BY WITHPLEX

## І слёзы, і шэўрале

Ураджай не заўсёды ўдавалася выгадна прадаць, бо ва ўраджайныя гады цэны падалі і прыбытак мог не пакрыць выдаткаў. Нашым суайчыннікам прыходзілася разам з урокамі сельвы засвойваць урокі рынку. Сям'я Салаўёвых у Місьёнэсе праз шэсць гадоў пасля прыезду быццам бы стала на ногі — лясная пушча ператворана ў апрацаваную раллю. Але тут упала цана на джэрбу — галоўную культуру гэтай мясцовасці. «Сеў бацька, цяжка ўздыхнуў і заплакаў, як малое дзіця».

І ўсё адно, у параўнанні з жыццём на радзіме становішча чакарэра было нядрэнным: участкі па 50–100 га, дзясятак коней, столькі ж кароў, шмат свіней і курэй. Пра Паўла Вядзерчыка яго зяць-украінец узгадвае: «Як падраслі дзеці, ён пераехаў, купіў у іншым месцы зямлю і разжыўся добра. Адзін з першых меў грузавік "Шэўрале"».

## «Зімы тутака не бывае»

Унёсак беларусаў у гісторыю Аргенціны калі і саступае польскаму, украінскаму ці італьянскаму, то ўсё ж значны: дзякуючы нашым людзям паўночныя правінцыі сталі развітым рэгіёнам. Вынік беларускай каланізацыі падвёў у 1966 годзе карэспандэнт Эміль Цяўлоўскі: ▶

## Пучэра, асада і мальбэк

Аргенцінская кухня насычана мяснымі стравамі: якасць мяса вельмі добрая, бо жывёла пасвіцца круглы год. Іван Церабей, які нарадзіўся ў Аргенціне, расказвае: кожны дзень там меў кусок мяса з косткай і вельмі шмат гародніны. Усё варылася разам, потым ялавічыну клалі ў адну талерку, гародніну — у другую, а булён разлівалі як першую страву. На другое — бульба, кавалак маніёка, гарбуза. Маці яго размінала і залівала алеем. Па-аргенцінску гэта страва называецца **пучэра**. Яшчэ адзін традыцыйны спосаб гатавання ялавічыны — **асада**, калі вялікі кавалак мяса (часам нават тушу) гатуюць на вуглях, на рашотцы ці на вялікім жалезным крыжы.

Рэдкія імігранты-чакарэра ўзгадвалі пра голад: напрыклад, у шматдзетнай сям'і Гарустовічаў часам варылі траву. Але часцей беларусы калі і скардзіліся на недаед, дык таму, што сумавалі па звычайнай ежы. Кастусь Арцюх з Місьёнэса вельмі хацеў баршчу, а яго дачка Зянона не магла даўмецца, з чаго гатаваць. З рыбай праблем не было, з мясам таксама — але бацьку патрэбны боршч! Толькі калі знайшлі ў лесе расліну «трэболь» — канюшыну — боршч удаўся.

Па вяртанні ў Беларусь рээмігранты пасмейваліся з савецкай літаратуры, якая апісвала аргенцінскую штодзённасць. Напрыклад, адзін з персанажаў «выпіў пару кубачкаў матэ». Якіх кубачкаў? Матэ п'юць зусім інакш! Ці паехалі героі касіць сена. Хто косіць сена ў Аргенціне? Там жывёла на пашы цэлы год. А калі чыталі пра хлопца, які пайшоў у госці з паўлітрай віна, падалі са смеху. Віна? Яно ў Аргенціне настолькі звычайны напой, што ўзяць яго ў госці — гэта тое ж, што ўзяць з сабой паўлітра вады! У Аргенціне вiном запіваюць мясныя стравы, ужываюць яго штодзень, разбаўляючы газіроўкай з сіфона — лічыцца, што такі напой наталяе смагу, дапамагае расшчапіць мяса і садзейнічае засваенню тлушчу. Але з'явіцца на людзях нападпітку ў Аргенціне лічыцца вялікай ганьбай.


WIKIMEDIA COMMONS

**Помнік чалавеку, які п'е матэ** (у іспанскай ёсць адмысловае слова, каб называць аматараў матэ, — *matero*). Горад Пасадас, правінцыя Місьёнэс.



**Бусел — на індзейскай мове гуарані «туюю» —** адзін з нацыянальных сімвалаў Аргенціны.

**Храм Пакрова Прасвятой Багародзіцы** ў Трэс-Капонэс (Місьёнэс).





Старажытнагрэцкі фракійскі каўпак стаў правобразам шапачкі якабінцаў у час Вялікай Французскай рэвалюцыі і так зрабіўся сімвалам свабодалюбства. Гэтаксама і сонца інкаў — сімвал барацьбы за незалежнасць ад Іспаніі. **Поціск рукі — сімвал згоды і салідарнасці між рознымі часткамі Аргенціны.**

«Найбольш беларусаў гаспадарыць у правінцыі Місьёнэс. Тутэйшыя хутары-чакры маюць да 60 гектараў, 15—20 кароў, некалькі коней. Гаспадарка мае пераважна свой малы трактар для апрацоўкі зямлі ды грузавое аўто для транспарту. Жылыя будынкі тут скрозь мураваныя. Хлявоў не будуюць, бо клімат цёплы і жывёла пасецца ўвесь год на выгане.

Добра родзіць тутака пшаніца, кукуруза, гародніна. Але найважнейшая ў гэтай правінцыі культура – аргенцінская гарбата, гэтак званая “мата”, што знаходзіцца пад кантролем дзяржавы і дае гаспадарцы асноўны прыбытак.

У правінцыі Энтрэ Рыёс беларускія сялянскія гаспадаркі меншыя, але прыбытак даюць неблагі, бо тутака гадуюць ангорскіх трусоў і птушку, пераважна курэй. Бадай кожная гаспадарка мае тутака свой грузавічок-халадзільнік». Цяўлоўскі расказвае і пра менш прыбытковыя чакры ў правінцыях Санта-Фэ і Кордабэ, дзе вырошчвалі алейны лён і трымалі пчол: «Пасекі не патрабуюць вялікага догляду, пчол дакармляць не трэба, бо зімы тутака не бывае».

У пачатку XXI стагоддзя ўжо вельмі цяжка знайсці беларускага чакарэра: хтосьці, вывучыўшы «кастыжа» (так называюць іспанскую мову ў Аргенціне), выехаў у горад, хтосьці пасля вайны вярнуўся ў Беларусь. Але на чырвонай, як цэгла, зямлі Місьёнэса да сёння стаіць праваслаўная Свята-Пакроўская царква, узведзеная па ініцыятыве айца Валянціна Івашэвіча. Гэты беларус прыязджаў з Буэнас-Айрэса, кіраваў будаўніцтвам і ўласнаручна стварыў керамічны іканастас. Сёння царква дзейнічае, а яе купалы можна бачыць на гербе муніцыпалітэта. ◆

**Болей чытайце:** Шабельцаў Сяргей. Беларусы ў Аргенціне: грамадская дзейнасць і рээміграцыя ў СССР (1930–1960-я гг.) — Мінск: 2009.

# Дзяржава Латгалія

**У 1918-м Глыбокае і Браслаў маглі стаць часткай дзяржавы балтыйскіх немцаў. Інфармацыю аб гэтым знайшоў краязнавец Уладзімір Скрабатун.**

Нядаўна мне падарылі кнігу Аляксандра Антонавіча Сабалеўскага (1886—1983) «Успаміны народнага настаўніка». Хоць успаміны былі напісаныя на замову выдавецтва яшчэ ў 1971—1973 гадах, тады справа да друку не дайшла. Відаць, яны не надта ўпісваліся ў ідэалагічную лінію. Толькі дзякуючы руплівасці ўнукаў аўтара ў 2018 годзе кніга нарэшце пабачыла свет. І я з захапленнем умомант прыглынуў яе ўсю.

Ратуючыся ад рэпрэсій польскіх уладаў, Сабалеўскі ў 1920-м выехаў з роднай Дзісеншчыны ў Савецкую Беларусь і стаў дырэктарам 20-й ▶




Глыбокае часоў нямецкай акупацыі, паштоўка 1918 года **«Гарадскі краявід Расія – Літва».**

Пра спробу нямецкіх уладаў далучыць частку этнічнай тэрыторыі Беларусі да дзяржавы пад уладай балтыйскіх немцаў пісаў і вядомы беларускі дзеяч, ксёндз Адам Станкевіч. І хоць у інтэрпрэтацыі Станкевіча гаворка ідзе не пра Латгалію, а пра Курляндыю, відавочна, што ў абодвух выпадках маецца на ўвазе адна і тая ж з'ява.

«У пачатку чэрвеня месяца 1918 года нямецкія акупацыйныя ўлады загадалі насельніцтву з усіх гмін Браслаўшчыны сабрацца ў Браслаўі, а насельніцтву з гмін Дзісеншчыны ў Дзісну, каб выказацца, да каго яно хоча належаць: да Расеі, да Літвы ці да Курляндыі. Аб Беларусі не ўспаміналі зусім. Не выяснялі таксама, якія мелі быць нашы правы ў Літве і што гэта такое мела быць гэта Курляндыя. Усе абшарнікі [памешчыкі, паны] і блізкія да іх цягнулі за Курляндыю. Сялянству стала ясна, што яны хінуцца да Курляндыі пад апеку нямецкіх баронаў, каб абараніць свае землі. Сяляне, пакінутыя самі сабе, пачалі непакоіцца. Але вось на гэты самы з'езд з'явіўся таксама і я, які па сканчэнні навук у Пецярбурзе, да выезду свайго ў Вільню, прабываў часова ў Барадзенічах. Я, відзячы, што справа тут сапраўды не чыстая, рашыў памагчы сялянам выйсці з дужа цяжкага і адказнага палажэння. Памагчы сялянам і пакіраваць імі мне не было трудна — быў я там ужо шырока знаны і меў на народ вялікі ўплыў. Вось жа тысячная грамада сялян на чале са мной арганізавала веча прад тым домам, дзе немцы нараджаліся з абшарнікамі. На вечы аднагалосна была прынята пастанова: устрымацца ад адказу на нямецкія пытанні аб дзяржаўнай прыналежнасці Браслаўшчыны да належнага выяснення справы і да аканчальнага спынення вайны. Жменька ж абшарнікаў пастанавіла так, як гэтага хацелі немцы — яны выказаліся за Курляндыяй.
З прысутных на гэтым вечы ніхто не знаў настолькі нямецкай мовы, каб граматна ўлажыць пастанову. Некаторыя ж узноў немцы лепш знали расейскую, як беларускую мову. Дзеля гэтага пастанова гэта зрэдагавана па-расейску. Характэрна, што велізарная большасць гэтага веча выказалася не толькі проціў прылучэння Браслаўшчыны да Расеі, Літвы і Курляндыі, аб чым пыталі немцы, але да выяснення справы і да аканчэння вайны — таксама і проціў прылучэння да... Беларусі. Гэтак зрабіць дыктаваў здаровы сялянскі інстынкт асцярожнасці, бо ж і ў беларускім Менску былі тады яшчэ немцы, і Беларусі, залежнай ад Нямеччыны, беларускія сяляне не хацелі. Гэтак жа сама была агулам настроена і тая інтэлігенцыя, якая ішла разам з сялянствам. Я асабіста ўважаў, што, нягледзячы на нішто, трэба выказацца за прыналежнасць Браслаўя да Беларусі. Аднак мае перагаворы з інтэлігенцыяй і з выбітнейшымі сялянамі не давялі ў гэтай справе да нічога, і прыйшлося паддацца аграмаднай большасці».

*Адам Станкевіч*
*«Беларускі хрысціянскі рух»*




Глыбокае часоў нямецкай акупацыі, паштоўка 1918 года **«Беразвецкі кляштар пад Глыбокім».**

беларускай школы ў Менску. Падчас апошняй вайны быў выкладчыкам настаўніцкіх курсаў у Глыбокім. Працаваў «пад прыкрыццём» — са згоды 4-й Беларускай партызанскай брыгады. Атрымаў на гэта ад партызан адпаведныя дакументы. Вельмі цёпла згадвае пра выкладчыка эмігранцкі пісьменнік Кастусь Акула (а ў тыя часы проста студэнт Саша Качан) у рамане «Змагарныя дарогі».

Пасля вайны Сабалеўскі меў вялікія праблемы з Глыбоцкім падпольным райкамам КПБ(б). У вайну пра існаванне такога райкама ў Глыбокім ніхто і не чуў, аднак пасля вайны гэтыя «райкамаўцы» занялі кіраўнічыя пасады. Дакументы, выдадзеныя Сабалеўскаму 4-й Беларускай партызанскай брыгадай, яны аб'явілі несапраўднымі, «набытымі за самагонку ў партызан». З-за гэтага Сабалеўскі ніяк не мог уладкавацца на сталую працу. Аднак потым усё нармалізавалася, і яго нават узнагародзілі медалямі за ўдзел у партызанскім руху.

А на набярэжнай возера Кагальнае ў Глыбокім, дзякуючы высілкам усё тых жа ўнукаў, не так даўно з'явіўся помнік дзеду-глыбачаніну, праобразам якога стаў Аляксандр Сабалеўскі.

Ва ўспамінах мяне заінтрыгавала падзея, якая адбылася ў Дзісенскім павеце восенню 1918 года. Аляксандр Сабалеўскі апісаў яе ў раздзеле «Дзяржава Латгалія». Працытую:

*«У верасні 1918 г. акупанты* [немцы — яшчэ ішла Першая сусветная вайна] ... *вырашылі стварыць ... самастойную марыянетачную дзяржаву Латгалію, каб утрымаць яе за сабой. Для прывядзення ў жыццё гэтай задумы ў горадзе Дзісна быў скліканы з'езд. Дэлегатам ад горада Глыбокага і воласці быў выкліканы ў Дзісну ўрач Мікалай Пулікоўскі. Я прапанаваў глыбоцкаму валасному старшыні Дайлідзёнку заявіць пратэст на з'ездзе аб тым, што мяшчане горада Глыбокага і сяляне Глыбоцкай воласці нікога не ўпаўнаважвалі вырашаць пытанне аб далучэнні горада Глыбокага і воласці да новай дзяржавы Латгаліі. Мы паехалі ў Дзісну, і там мною на з'ездзе быў зачытаны пратэст, які падтрымалі некаторыя дэлегаты, заявіўшы аб нежаданні народных мас Дзісеншчыны далучацца да новай выдуманай дзяржавы. Гэты пратэст быў зроблены ў прысутнасці нямецкіх афіцэраў, якія займалі месца ў прэзідыуме і, па сутнасці, вялі з'езд. Але з'езд большасцю галасоў вынес пастанову аб утварэнні «дзяржавы Латгалія». Праз некалькі дзён з Дзісны было атрымана паведамленне на імя мясцовага начальніка паліцыі аб уключэнні горада Глыбокага і Глыбоцкай воласці ў «дзяржаву Латгалія». Паведамленне гэтае было прачытана начальнікам паліцыі на валасным з'ездзе. Я ўскочыў на бочку і выступіў з прамовай*




**Глыбокае. Помнік дзеду-глыбачаніну.**

*супраць такога рашэння. Сход сялян гнеўна адхіліў гэтае рашэнне. Тое ж адбылося і ў астатніх валасцях павета. Так новая буржуазная «дзяржава Латгалія», не нарадзіўшыся, перастала існаваць».*

На тэрыторыі, дзе жыве народ з малаакрэсленай ідэнтычнасцю, можна па праве моцнага зляпіць якую заўгодна дзяржаву. Пра гэта сведчыць абвяшчэнне Латгаліі. Каб немцы затрымаліся ў рэгіёне трохі даўжэй, то на пратэст Сабалеўскага, відаць, ніхто не звярнуў бы ўвагі.

Паказальна, што «дзяржаве Латгалія» стараліся надаць усе прыкметы легітымнасці. Прайшоў сход у Дзісне, на якім былі дэлегаты. Усё было сур'ёзна! Сама ідэя «дзяржавы Латгалія» з'явілася «пры садзейнічанні мясцовых контррэвалюцыйных сіл», а рашэнне з'езда дэлегатаў было «прачытана начальнікам паліцыі на валасным з'ездзе» ў Глыбокім. І каб немцы захавалі ўплыў даўжэй, то хто ведае... Аднак 11 лістапада 1918 года ў Нямеччыне выбухнула рэвалюцыя, працягваць вайну немцы ўжо не маглі і ў снежні пакінулі Беларусь. І гістарычны цягнік «дзяржавы Латгалія» ў 1918 годзе незваротна сышоў, пакінуўшы толькі такія вось эпізадычныя згадкі. ◆

### Вайна за незалежнасць Латвіі, выйграная з дапамогай Эстоніі

Літва і Эстонія, дзе немцаў жыло менш, а нацыянальныя рухі былі мацнейшыя, здолелі стварыць незалежныя дзяржавы першымі.
У Латвіі ўсё было складаней.
Незалежнасць Латвіі была абвешчаная толькі ў лістападзе 1918-га (для параўнання: Беларусь абвясціла яе ў сакавіку 1918-га, Літва і Эстонія — у лютым 18-га).
Немцы хацелі стварыць на тэрыторыі Латвіі і сумежных раёнаў падкантрольную сабе дзяржаву ці дзяржавы (Курляндыю, Лівонію, Латгалію аб'яднаць у Балтыйскае герцагства). Яны абапіраліся на балтыйскіх немцаў і, калі разбілі бальшавікоў, не пусцілі ў Рыгу ўрад Карліса Улманіса, а стварылі новы, пранямецкі латвійскі ўрад на чале з лютэранскім пастарам Андрэўсам Недрэ. Акрамя таго, у Балтыі дзейнічалі расійскія белагвардзейскія атрады Мікалая Юдзеніча і Паўла Бермонт-Авалава.
Аднак армія Эстоніі разбіла ландсвер, армію балтыйскіх немцаў, у чэрвені 1919 года і прывяла да ўлады ўрад Улманіса, які абапіраўся на Брытанію, Францыю і Эстонію.
Наваствoранай арміі Латвіі, у якую ўвайшлі і часткі былога ландсвера, давялося другі раз паваяваць з «чырвонымі латышскімі стралкамі» — бальшавікамі, якія хацелі зрабіць Латвію савецкай.


WIKIMEDIA COMMONS

**Граф Густаў Адольф Іяхім Рудзігер фон дэр Гольц** паваяваў у Фінляндыі на баку Манергейма, а пасля ўзначальваў армію балтыйскіх немцаў. Выступаў за стварэнне Балтыйскага герцагства.

Усяго вайна за незалежнасць Латвіі доўжылася год і восем месяцаў, у ёй загінула каля 8000 чалавек, а каля 14 000 было паранена.
Яшчэ каля 5000 чалавек загінула ад чырвонага тэрору і 3000 — ад белага тэрору.




**Мельников, Эдуард. Возвращение в Бобруйск. Хроники советской повседневности.** — Минск: А. Н. Янушкевич, 2019. — 362 с.

Вядомы беларускі тэлежурналіст Эдуард Мельнікаў напісаў надзвычай цікавую, вельмі адкрытую кнігу ўспамінаў пра сваё дзяцінства і юнацтва, якое прайшло ў Бабруйску ў 1950–1960-я гады.

Вачыма аўтара пабачаныя многія рэаліі той пары. Тут і аповеды сваякоў пра тады яшчэ нядаўнюю вайну і акупацыю роднага горада (пра такое не пісалі ў тагачасных газетах). І характэрныя для таго часу, але сёння ўжо з цяжкасцю ўяўляныя дэталі штодзённага савецкага жыцця — двор, школа, эміграцыя яўрэяў, першыя ўрокі выхавання пачуццяў на фоне тагачасных ідэалагічных дэкарацый. Многія падрабязнасці могуць здзівіць, уражваць і нават шакаваць. Але ўсё гэта — абсалютная праўда, нават у дробязях.

Кнігу можна набыць у мінскай кнігарні «**Акадэмкніга**» (пр. Незалежнасці, 72), а таксама замовіць непасрэдна на сайце выдавецтва: **www.januskevic.by**.

# Рабаванні, згвалтаванні і нават крадзеж адзення з труны:

# Мінск крымінальны пры Сталіне

НАЦЫЯНАЛЬНЫ АРХІЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**«Затое Сталін перамог злачыннасць!» Што, сапраўды так? У архівах капаўся гісторык Зміцер Дрозд.**

У намесніка наркама саўгасаў БССР Андрэя Кабановіча ў кінатэатры выцягнулі дакументы і 800 рублёў. У артысткі Тэатра оперы і балета Н. К. Цітовіч уначы выхапілі з рук сумачку са 150 рублямі. А кватэру аднаго з камандзіраў Чырвонай арміі Васіля Кузняцова абчысціла хатняя работніца, пакуль гаспадар з жонкай былі ў тэатры. Што казаць: у мінскім трамваі пазбыўся кашалька і дакументаў нават таварыш Трубнікаў — чэкіст пры зброі!

1939 год. Еўропа рыхтуецца да вайны. У СССР людзі баяцца пікнуць. Простыя людзі — але не злачынцы. Жыццё было настолькі цяжкім, людзям часта не было чаго есці, таму свабода каштавала капейку. Нават зброя не ратавала. Часам, наадварот, падахвочвала. У лейтэнанта вайсковай камендатуры Ізотава проста з будынка гэтай самай камендатуры быў скрадзены чамадан, у якім знаходзіўся рэвальвер «Наган» з 14-цю патронамі. А ў Бабруйску сярод белага дня трое невядомых напалі на шафёра з мясцовага НКВД Ерафеева, калі ён ішоў з жонкай па вуліцы. Сыпнуўшы ў вочы пяску, яго павалілі на зямлю і забралі наган. Следства выявіла, што напад здзейсніла група, якая дагэтуль займалася крадзяжом курэй і галубоў. Наймалодшаму было 16.

Першае пакаленне, якое вырасла пры савецкай уладзе, тэарэтычна мусіла быць больш свядомым і правільным, чым папсаваныя старым рэжымам бацькі і дзяды. Але норавы моладзі былі зусім не такімі, як паказваюць у кіно. П'янкі, судзімасці, распуста, прастытуцыя — гэтага ўсяго хапала з лішкам.

Крымінальная адказнасць у той час наступала з 12 гадоў.

## Сярод ахвяр было нямала школьніц

У верасні 1939-га мінская міліцыя затрымала «ўтрымальніц прытону», супрацоўніц гасцініцы «Еўропа» Кішкурну і Сямёнаву. Першай было 16 гадоў, другой — 18. У іх на кватэры арыштавалі яшчэ пяць чалавек — ад 16 да 22 гадоў, збольшага судзімых. Такі ж «прытон» накрылі ў Віцебску.

Зусім дзіцячая «бандыцкая групоўка» была выяўлена ў Гомелі. Дзеці 9–13 гадоў кралі бялізну з двароў і хлявоў, узломвалі ларкі, забіраліся ў дзіцячыя дамы і садкі. Доўжылася гэта больш за паўгода. Кіравалі ўсім бацькі. Сярод кіраўніцтва групы была настаўніца вячэрняй школы пры шклозаводзе імя Сталіна, камсамолка Ф. Альтшулер. Яна пасылала дзяцей красці бялізну, а потым перапрадавала крадзенае, навучыла малых проста на вуліцы выхопліваць у жанчын грабеньчыкі з валасоў.

Былі і трагікамічныя выпадкі. 21 чэрвеня 1939 года быў здзейснены «бандыцкі налёт» на Мінскае вайсковае вучылішча, выканаўцамі якога сталі 8-гадовы сын каменданта і дзеці вартаўніка 8-мі і 6-ці гадоў. Выявілі выканаўцаў па слядах босых дзіцячых ног на месцы злачынства.

Але, можа, пад пагрозай была толькі маёмасць, а жыццю і бяспецы нічога не пагражала? Дакументы абвяргаюць і гэта.

У сталінскія часы фіксавалася шмат выпадкаў згвалтаванняў — нягледзячы на пагрозу адседзець да пяці гадоў. Чэкісцкія справаздачы аж стракацяць апісаннямі. На 18-гадовую бабруйчанку непадалёк ад моста праз Бярэзіну напалі васьмёра, узростам ад 15 да 21. Былі сярод іх і камсамольцы, усе ўзброеныя нажамі. Іншую жанчыну, 33-гадовую маці траіх дзяцей, згвалтавалі проста на вачах у суседзяў, калі яна выйшла па ваду. Калі людзі паспрабавалі затрымаць гвалтаўніка, ён стаў страляць і застрэліў ахвяру.

## Была раскапана магіла беларускага пісьменніка Эдуарда Самуйлёнка, пахаванага месяц таму. З трупа была знятая вопратка

Многія згвалтаванні заканчваліся забойствамі, целы ахвяр знаходзілі ў лясах і хмызняках.



**Вінаватыя ў «бандыцкім налёце»** на Мінскае вайсковае вучылішча. На верхнім фота — месца злачынства.

НАЦЫЯНАЛЬНЫ АРХІЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**Цярпець ад злачынцаў даводзілася не толькі жывым, але і нябожчыкам.** 31 сакавіка 1939 года на Вайсковых могілках у Мінску была раскапана магіла беларускага пісьменніка Эдуарда Самуйлёнка, пахаванага месяц таму. З трупа была знятая вопратка. У наш час можна пачуць легенду, што пісьменніку так адпомсцілі за шматлікія даносы. Але на самай справе прычына марадзёрства банальная: зладзеямі аказаліся работнік пахавальнага бюро і яго знаёмы «без пэўнага занятку». Яны хацелі разжыцца на продажы нябеднага касцюма пісьменніка.

Сярод ахвяр было нямала школьніц. На кагосьці нападалі знаёмыя падчас вечарын і пасядзелак, на кагосьці незнаёмыя — проста па дарозе са школы. Ёсць думка, што ў той час можна было спакойна выпускаць дзяцей на вуліцу, ім нічога не пагражала. Дакументы гэта абвяргаюць.

Забойстваў у справаздачах НКВД за 1939 год таксама хапае. Спектр матываў шырокі, як ва ўсе часы: і помста, і рэўнасць, і хцівасць, і алкаголь. У вёсцы Міхейкі Сіроцінскага (цяпер Шумілінскага) раёна Барыс Осіпаў забіў сваю цяжарную сяброўку «з мэтай пазбавіцца ад выплаты аліментаў на ўтрыманне будучага дзіцяці». У вёсцы Яроміна Гомельскага раёна чацвёра абрабавалі і закалолі віламі 80-гадовую самагоншчыцу, перад тым паспрабаваўшы забраць ейныя грошы і гарэлку. Віцебскі вайсковец, пасварыўшыся з жонкай, напіўся і выпусціў у яе 6 куляў.

Вельмі распаўсюджанае ў той час было дзетазабойства: у 1936-м у СССР былі забароненыя аборты (забарону знялі толькі ў 1955-м).

Ні рэпрэсіі, ні татальны ідэалагічны кантроль не рабілі чалавека лепшым. Ды і не маглі рабіць. Бо ў грамадстве, пабудаваным на нянавісці, немагчыма выхоўваць маральных людзей. А бязлітаснасць і цынічнасць усяляк культываваліся самой савецкай сістэмай. Таму і «сталінскі парадак» — гэта вялікая прапагандысцкая хлусня, і нічога больш. ◆

# Слонімскі дзетдом: недзіцячыя выпрабаванні

**Самым маленькім выхавальнікі давалі прозвішчы самі: Пчолка, Іскра, Кудзелька… Бо сваіх сапраўдных дзеці не памяталі.**



**Анатоль Кандрацьеў** у 12 гадоў. 1948 год.

**Многія дзеці савецкіх вайскоўцаў, не паспеўшы ў чэрвені 1941-га эвакуіравацца, на чацвёрты дзень вайны апынуліся ў глыбокім тыле. Піша слонімская настаўніца Святлана Брайчук.**

У цёплы суботні вечар 21 чэрвеня 1941 года нішто не прарочыла бяды. На савецкіх пагранзаставах ішоў папулярны фільм «Знішчальнікі», і з кіназалы даносіўся голас Марка Бернэса: «Любимый город может спать спокойно, и видеть сны, и зеленеть среди весны». Гэтая песня для многіх стане напамінам пра мірнае жыццё.

А нядзельная раніца 22 чэрвеня на заходняй мяжы наступіла раней, чым узышло сонца.

### Крывавыя дарогі

Лёс усіх дзяцей, якія апынуліся ў слонімскім дзіцячым доме ў 1941—1944 гадах, вельмі падобны, і ўспаміны пра дзяцінства ў іх адныя на ўсіх. 11-гадовыя Валодзя Растаргуеў і Слава Раеўскі пазнаёміліся 6 чэрвеня 1941 года ў піянерскім лагеры каля мястэчка Крынкі на Падляшшы, але адпачынак спыніла вайна. Сёстры Галя і Ніна Бойкі, адыходзячы на ўсход разам з маці, схаваліся пад мостам у Слоніме. Калі побач разарвалася бомба, маці прыкрыла сваім целам немаўля і загінула. 10-гадовы Барыс Кантаміраў з братам Алікам трапілі ў Слонім з разбомбленага цягніка пад Ваўкавыскам. У гэтым жа цягніку з-пад Ломжы ехаў 8-гадовы Валік Свадкоўскі з мамай і сястрычкай, але падчас бою ён згубіў родных. Згубілі маці пасля падрыву цягніка 6-гадовы Іван ды 4-гадовы Гена Логінавы. А 9-гадовы сірата Міця Супрун з вёскі Вяценеўка ўзяў у рукі міну, якая пакалечыла яго на ўсё жыццё.

Сёння гэты спіс налічвае 63 імёны. Самым маленькім выхавальнікі мусілі даваць прозвішчы самі: Пчолка, Іскра, Кудзелька, Жарабцоў... Бо сваіх прозвішчаў дзеці не памяталі.

### Вязні Слонімскага кіндэрхаўза

У першыя дні вайны дзяцей у Слоніме прытулілі мясцовыя жыхары, але немцы, увайшоўшы ў горад, загадалі здаць дзяцей у арганізаваны імі дзіцячы дом (кіндэрхаўз). У кнізе ўліку паступлення дзяцей у савецкі дзіцячы дом за 1944 год у графе «адкуль прыбыў» так і пазначана: «Здадзены мясцовымі жыхарамі ў 1941 годзе, бацькі невядомыя».

Усіх дзяцей-сірот немцы сабралі ў былым польскім дзіцячым доме па вуліцы Панятоўскага, 36. Ужо на чацвёрты дзень вайны тут жылі 273 дзіцяці. Тэрыторыя з трох бакоў была абнесена шчыльным плотам, за якім знаходзілася нямецкая вайсковая частка.

Немцы ведалі, што сярод сірот шмат дзяцей з сем’яў пагранічнікаў і вайскоўцаў. Яны прыгналі выхаванцаў на тэрыторыю цяперашняй школы № 5, дзе за калючым дротам знаходзіўся лагер ваеннапалонных савецкіх салдат. Дзяцей вадзілі праз шэрагі параненых і пыталіся, ці пазнаюць яны сваіх бацькоў. Рыма Вашчыліна ўспамінае, як выхавальніца прашаптала: «Пазнаеце тату — маўчыце, інакш расстраляюць».

**Дзяцей вадзілі праз шэрагі параненых салдат і пыталіся, ці пазнаюць яны сваіх бацькоў. Рыма Вашчыліна ўспамінае, як выхавальніца прашаптала: «Пазнаеце тату — маўчыце, інакш расстраляюць...»**

На вуліцы Доўгай знаходзіўся дом малечы, дзе з пачатку вайны фашысты збіралі дзяцей ад года да пяці.

Частку дзяцей перавялі ў «кіндэрхаўз» — нямецкі дзіцячы дом, абнесены калючым дротам, па вуліцы Шашэйнай. Дырэктарам дзіцячага дома была настаўніца музыкі Вольга Ігнатаўна Пікелка. Нямецкія акупацыйныя ўлады пагадзіліся захаваць жыццё дзецям з умовай, што іх ахрысцяць. Падчас службы святары прасілі слонімцаў стаць хроснымі бацькамі сіротам. Але дзяцей-яўрэяў нацысты выяўлялі і знішчалі. Пастроіўшы дзяцей, яны падымалі некаторым падбародкі і са словамі «юда» адводзілі іх убок.

### Папаўненне з Расіі

У 1942 годзе дзіцячы дом папоўніўся дзецьмі са Ржэва, Смаленска, Калініна. Іх было шмат абадраных, брудных, хворых, з вошамі і каростаю. Дзяцей размясцілі пад аховай у будынку былой турмы насупраць вакзала.

Спалі яны на цэментнай падлозе, адзін раз на дзень ім давалі баланду. На свой страх дзеці ўцякалі ў горад і прасілі людзей падаць кавалачак хлеба.

Прабылі дзеці ў гэтым лагеры каля месяца. На беразе Агінскага канала немцы паставілі камеры дэзынфекцыі. Усіх дзяцей прагналі праз санапрацоўку, а потым размеркавалі ў дзіцячы дом. ▶

#### З успамінаў Юрыя Пятровіча Мінаева (Гарадок, Віцебская вобласць)

Я не магу сказаць, колькі мне гадоў, дзе я нарадзіўся, як звалі маму. Тады ж такіх, як я, збіралі на дарогах вайны. Мой бацька быў вайскоўцам, да вайны мы жылі на заходняй мяжы ў раёне Аўгустова, а перад пачаткам вайны мы з мамай адпачывалі ў вайсковым санаторыі. Памятаю, калі пачалася вайна, як было страшна падчас бамбёжкі, на ўсё жыццё ў мяне застаўся ў руцэ асколак ад нямецкага снарада... Каля Слоніма мяне і яшчэ восем дзяцей пагрузілі на воз, пры ўездзе ў горад стаяў нямецкі рэгуліроўшчык, які паказаў нам рухацца ўніз па вуліцы Доўгай. Так я апынуўся ў дзіцячым доме...

#### З успамінаў Аляксея Анатолевіча Кандрацьева

Мой бацька быў зусім маленькім, калі пачалася вайна: яму было ўсяго чатыры гады. Часам ён казаў, што мой дзед і бабуля — гэта не яго ныя родныя бацькі, а яго прозвішча было Зуеў і жыў ён да вайны ў Ленінградзе. Магчыма, гэта проста нейкія дзіцячыя ўрыўкі памяці, карцінкі. А можа быць, Ягор Міхайлавіч проста забраў з дзіцячага дома хлопчыка Толю замест свайго сына, якога так і не знайшоў... Мой бацька не бачыў сваіх бацькоў шэсць гадоў. Для дзіцяці гэта палова жыцця. Таму невядома, ці былі Ягор і Кацярына Кандрацьевы роднымі, ці не былі, але выгадавалі бацьку пасля вайны менавіта яны, і мы ўдзячныя ім.



У гэтым будынку па вуліцы Доўгай ў 1941–1944 гадах знаходзіўся **дом малечы.**

▶ Пасля таго, што яны перажылі ў Ржэве, дзіцячы дом у Слоніме ім падаўся раем, але ненадоўга. Лютавалі тыф, дызентэрыя, кароста. Дзеці хадзілі ў лахманах. Прыходзілася ўсё больш галадаць, выходзіць на цяжкія сельгасработы. Пачуўшы сігнал кухаркі пані Васілеўскай «на абед», многія не маглі ісці, а паўзком дабіраліся да сталовай. Там, падставіўшы цяжкую гліняную міску, атрымлівалі апалонік баланды і мізэрны кавалачак хлеба з пілавіннем.

На тэрыторыі цяперашняй школы № 5 знаходзіўся нямецкі шпіталь. Там на смеццевай яме дзеці збіралі бляшанкі ад згушчонкі.



**Рыма Вашчыліна з мамай Марыяй Мяфодзьеўнай** да вайны. 1939 год.



**Рыма Раманаўна Вашчыліна**. 2012 год.

### З успамінаў Рымы Раманаўны Вашчылінай (Слонім)

Я нарадзілася 14 красавіка 1934 года. Хіба я магла тады ведаць, што за кароткае ваеннае дзяцінства ў мяне будзе тры імені — Рыма, Рая і Рыта?
У 1941 годзе мой тата, старшы лейтэнант Вашчылін Раман Афінагеневіч, быў памочнікам начальніка штаба 4-й пагранкамендатуры 86-га Аўгустоўскага пагранатрада. Па дадзеных Кнігі Памяці пагранічнікаў, ён значыцца зніклым без вестак ад 23 чэрвеня 1941 года.
Ранкам 22 чэрвеня 1941 года нам абвясцілі пра пачатак вайны. Бацька быў на заставе, а да нашага дома пад'ехала машына. Мая мама, Марыя Мяфодзьеўна, звязала ў вузельчык самае неабходнае, і нас павезлі на ўсход. У машыне было мала людзей, але з намі былі вайскоўцы. Ехалі мы праз лес, потым цягніком на платформе, ішлі пешшу па балоце. Памятаю, як мяне нёс салдат на руках. Наляцелі нямецкія самалёты і сталі бамбіць. Маму цяжка параніла ў скронь і ў руку. Самалёты лятали, а мы ляжалі ў жыце, і мама сказала, што памірае...
На дарозе стаяла машына, і жанчына, якая знаходзілася ў ёй, паклікала мяне. Перавязала мне рану, і мы паехалі далей, трапіўшы некалькі разоў пад бамбёжку. Далей памятаю, што мы падыходзілі пешшу да Слоніма. На ўскраіне горада мы ўбачылі шмат забітых рускіх байцоў. Жанчына даведалася, што ў Слоніме ёсць дзіцячы дом, і аддала мяне. Так я засталася без бацькі і маці на ўсё астатняе жыццё на чацвёрты дзень вайны...

## Вываз у Германію

Тройчы партыі дзяцей вывозілі ў Германію. 21 красавіка 1943 года 18 чалавек прывезлі ў таварным вагоне ў Баранавічы і размясцілі ў будынку турмы на размеркавальным пункце. 10-гадовыя Рыма Вашчыліна і Надзя Пчолка былі ў гэтай групе самымі маленькімі. Частку дзяцей адправілі ў Фалькенбург у дзіцячы канцлагер. Целы тых, хто не вытрымліваў штотыднёвай здачы крыві, спальвалі ў печы крэматорыя. У другім канцлагеры знаходзіліся дзеці і дарослыя. Рыма Вашчыліна памятае доўгія баракі і людзей, змардаваных працай і голадам. Быў і трэці канцлагер Берлін-Буг. Барыса Кантамірава разам з іншымі аддалі ў Нюрнбергу ў парабкі.

Рыма, Надзя і Барыс — вярнуліся ў Слонім толькі яны.

## Пасляваеннае жыццё дзетдомаўцаў

У 1944 годзе немцы перавялі дзяцей у драўляны дом па вуліцы

### З успамінаў Івана Аляксеевіча Логінава

Недзе пад восень 1941 года ў дзіцячы дом заявіліся нямецкія салдаты з афіцэрам. Нас паставілі ў два-тры шэрагі і сталі перабіраць дзяцей па ўзросце: хто старэйшы — адводзілі ўбок. Так адабралі каля трыццаці чалавек. Памятаю, што перад строем дзяцей хадзіў то ўправа, то ўлева нямецкі афіцэр у чорнай форме: чорныя, да бляску начышчаныя боты, фуражка з кукардай, у левай руцэ за ланцужок ён трымаў чорную аўчарку, а ў правай у яго быў бізун. Праз некаторы час палову дзяцей пагналі ў бальніцу на донарскі пункт, я трапіў у другую плынь. Як бралі кроў, як потым я аказаўся на бальнічным ложку, я не памятаю, ведаю толькі, што я праляжаў усё роўна як у коме з верасня 1941 года да сярэдзіны красавіка 1942-га. Гэты час я памятаю зусім дрэнна, страціў занадта шмат крыві. Аднойчы ўзімку мяне вынеслі ў калідор, падумалі, што я памёр. У дзіцячым доме я ўвесь час трымаўся рукой за сцены, думаў, што развучыўся хадзіць, на самай справе, я так аслабеў.

Студэнцкай. 10 ліпеня пры вызваленні Слоніма ў дом патрапіў снарад, але дзеці цудам засталіся жывыя. Іх прытулілі мясцовыя жыхары, а пасля вызвалення размясцілі ў рабочым пасёлку Альбярцін. Дырэктарам дзіцячага дома была партызанка Марыя Макараўна Шухно (па першым мужу Шахрай).

## Яўрэйскі хлопчык Міша Шафро застаўся жывы. Калі прыходзілі немцы, выхавальніцы хавалі малога пад падушкі

Лёс дзяцей пасля вайны склаўся па-рознаму: за сёстрамі Галяй і Нінай Бойка прыехаў бацька, Івана і Гену Логінавых мама змагла знайсці толькі ў 1951-м. Забралі сваякі дадому ў Кабардзіна-Балкарыю братоў Кантаміравых, а ў 1964 годзе ў Крычаве адбылася сустрэча Валіка Свадкоўскага з мамай і сястрой. Многія дзеці засталіся на ўсё жыццё без бацькоў.

Але знайсці сваё месца ў жыцці здолелі. Юрый Мінаеў і Марыя Абрамава скончылі Мінскі педінстытут і сталі заслужанымі настаўнікамі. Валянцін Свадкоўскі, адслужыўшы армію, стаў шахцёрам Данбаса. Тоня Бойка, Люся Халадкова і Ніна Пчолка вучыліся ў Слонімскім медвучылішчы, працавалі ў Казахстане. Таня і Ніна Хаевы, Дзіма Супрун паступілі ў Мінскае педвучылішча імя Крупскай, якое скончылі з адзнакай. Інжынерамі караблебудаўніцтва сталі Віктар Прэда і Аляксандр Малышчык, кандыдатам тэхнічных навук Беларускага політэхнічнага інстытута — Сяргей Паўлавіч Баранаў, а Міхаіл Шышыгін скончыў кансерваторыю.

У жніўні 1959 года адбыўся першы злёт дзетдомаўцаў у Альбярціне. Першы дырэктар пасляваеннага слонімскага дзіцячага дома Марыя Шухно ўспамінала: «Якія яны дружныя, вясёлыя! Колькі ўспамінаў, разумных пачынанняў у іх жыцці. Я вельмі хворы чалавек,

**З успамінаў Рымы Раманаўны Вашчылінай**

У царкве нас паставілі паўколам, і прыхаджане абралі сабе хроснікаў. Я заставалася адна. Убачыла ўбаку жанчыну, падышла да яе і сказала, што ў мяне ў адной няма хроснай. Так у мяне з'явілася хросная мама, Радзюк Крысціна Васільеўна. Пры хрышчэнні мне далі іншае імя — Раіса. У цяжкія галодныя пасляваенныя гады Радзюк Крысціна Васільеўна, у якой былі свае дзеці, прыняла мяне ў сваю сям'ю...
…Выхавальніца Ева Байрашэўская распавядала нам пасля вайны, што аднойчы ноччу ўсіх яўрэйскіх дзяцей вывезлі і расстралялі за 30 км ад Слоніма ў напрамку Баранавіч.

**З успамінаў Юрыя Пятровіча Мінаева**

Толькі адзін яўрэйскі хлопчык, Міша Шафро, застаўся жывы. Калі ў дзіцячы дом прыходзілі немцы, выхавальніцы хавалі трохгадовага малога пад падушкі.

але сустрэча з імі мне надае сілу, энергію. Колькі слёз ад радасці пры сустрэчы. Я нават забываю пра сваю хваробу...». ◆

---

**Улашчык, Мікалай. Збор твораў у 3-х тамах. Том 2: Працы па гісторыі** / Пад агульнай рэдакцыяй Дзмітрыя Віцько. — Смаленск: Інбелкульт, 2019. — 1280 с.

Працягваецца выданне збору твораў аднаго з найбольш значных беларускіх гісторыкаў XX стагоддзя Мікалая Улашчыка (1906–1986) — чалавека няпростага лёсу і надзвычайнай працаздольнасці. Хоць амаль траціна ягонага жыцця, у самыя найлепшыя для навуковых пошукаў гады, прайшла ў зняволенні і высылках, даследчык усё адно паспеў стварыць столькі, што выйшаў вось ужо другі том ягоных прац аб'ёмам больш за 1000 старонак.

Другі том уключае ў сябе пераважна працы па сацыяльна-эканамічнай гісторыі XVI – пачатку XX стагоддзяў, у тым ліку манаграфію «Перадумовы сялянскай рэформы 1861 г. у Літве і Заходняй Беларусі», гісторыка-этнаграфічны нарыс пра родную вёску Віцкаўшчыну ў 1880–1917 гадах, а таксама артыкулы, рэцэнзіі і водгукі на гістарычную тэматыку. Славутая мікрагістарычная праца «Была такая вёска» ў гэтым томе друкуецца ў першапачатковай аўтарскай версіі, якая даволі моцна адрозніваецца ад таго варыянта, які стаў даступны беларускаму чытачу ў канцы 1980-х, выдадзены выдавецтвам «Мастацкая літаратура».

Пакуль што даступны і першы том збору твораў Мікалая Улашчыка аб'ёмам у 1360 старонак, які ўключае ў сябе крыніцазнаўчыя і археаграфічныя даследаванні навукоўца, г. зн. манаграфіі «Нарысы па археаграфіі і крыніцазнаўстве гісторыі Беларусі феадальнага перыяду» і «Уводзіны ў вывучэнне беларуска-літоўскага летапісання», артыкулы, рэцэнзіі і прадмовы да розных публікацый на адпаведную тэматыку, а таксама два пасмяротныя выданні, якія планаваліся як трэцяя і чацвёртая кнігі гэтай тэматычнай серыі: «Нарысы па археаграфіі і крыніцазнаўстве гісторыі Беларусі дасавецкага перыяду: частка другая» і «Мемуары і дзённікі як крыніцы па гісторыі Беларусі».




Найпрасцейшы і найтаннейшы спосаб набыцця абодвух тамоў — праз сайт **arche.by**. Таксама яны даступныя ў мінскай кнігарні **«Акадэмкніга»** (пр. Незалежнасці, 72).

# Аканіцы расчыняліся, у вёдрах танчыла вада

## *Палтэргейст, якому не далі рады ні царква, ні НКВД*

**Ніхто ў сям'і ўжо не памятаў, калі гэта здарылася — да вайны ці ў вайну. Памяталі толькі, што ўвосень: бульба яшчэ не была выкапаная, а яблыкі ўжо ляжалі на гарышчы. Выглядае, што Другая сусветная ўжо ішла, але сюды, пад Менск, яшчэ не дабралася. 1939 год, хутчэй за ўсё, верасень. Піша Антон Рудак.**

### Расстралялі, бо паляк

Хутар майго прапрадзеда быў ля Самахвалавіч. Пра яго ў сям'і памяталі толькі, што нарадзіўся ён не там і што загінуў падчас бальшавіцкіх рэпрэсій. Я доўга спрабаваў шукаць яго як Бенедыкта, а сёлета ён знайшоўся ў спісах рэпрэсаваных як Венедыкт. Аказалася, што нарадзіўся на Койданаўшчыне, а расстралялі яго ўвосень 1937-га як «агента польскай разведкі» за «сувязь з Польскай арганізацыяй вайсковай». Гэтай арганізацыі ніколі не існавала — яе прыдумалі ў НКВД і арыштавалі па гэтай справе больш за тысячу чалавек. Па дакументах прапрадзед быў паляк, і гэта, відаць, была адзіная яго віна.

Як звалі прапрабабку — ніхто не памятае, але ў спісах рэпрэсаваных ёсць жанчына з такім прозвішчам і блізкая па ўзросце, таксама полька. Яна арыштаваная на тыдзень пазней, чым прадзед, за «антысавецкую агітацыю». Яе асудзілі на два тыдні раней і расстралялі на месяц раней за яго.



**Прабабка Марыя з сёстрамі.** Украіна, не пазней за 1933 год.

Звалі тую жанчыну Марыяй.

У прапрадзеда з прапрабабкай было трое сыноў — Казік, Антон і Леапольд, а яшчэ дачка Соф'я. Соф'ю, кажуць, расстралялі, як і бацькоў. Казік, як старэйшы, застаўся на гаспадарцы, на тым самым хутары. Антон служыў... у НКВД — прынамсі, так аднназначна сцвярджаюць у сям'і, хаця ніякіх пацвярджэнняў я пакуль не знайшоў. А Леапольд — мой прадзед — працаваў у Менску шафёрам. Па пашпарце ён, у адрозненне ад бацькоў, быў беларусам.

### Голад і войны

Яшчэ раней прадзед пазнаёміўся ў Менску з маёй прабабкай Марыяй — яна ўцякла сюды з Украіны ад Галадамору ў 1933-м. Ейныя бацькі загінулі. У Беларусі ў прабабкі нікога не было, яна пэўны час жыла ў Віцебску, дзе яе прытуліла нейкая яўрэйская сям'я, а потым перабралася ў Менск.

У тую восень прадзед быў далёка — «вызваляў» заходнебеларускіх братоў, а пазней быў сярод тых «мінскіх фінаў», якія, як адзначала прымаўка, «ішлі на фінскія міны». Прымаўка гэтая высмейвала спробу савецкай прапаганды стварыць ілюзію, нібыта супраць «белафінаў» ваююць «фіны чырвоныя». Апошніх нашкрэбці не атрымлівалася нават на дывізію, таму замест іх у войска набіралі знешне падобных да фінаў беларусаў. У сямейным архіве захоўваецца польская паштоўка, якую прадзед даслаў прабабцы з войска на Каляды 1939 года.

Але гісторыя, пра якую пойдзе гаворка, адбылася ў тую восень на хутары пад Самахвалавічамі. Сведкамі і ўдзельнікамі падзей сталі Казік з жонкай, Антон з калегамі і падначаленымі ды мая прабабка. А яшчэ ксёндз, поп і суседзі.

### Гул з-пад зямлі і лятаючая бульба

Пачалося ўсё з таго, што Казік ажаніўся. Узяў за жонку прыгожую Аню. Прапрадзеда з прапрабабкай на той час ужо не было, то і блаславіць гэты шлюб не было каму. А што пачалося пасля іх вяселля — то і сказаць страшна. Прабабка




**Паштоўка, якую прадзед даслаў прабабцы**, датаваная 24 снежня 1939 года.

Марыя бачыла ўсё на свае вочы, але распавядала пра гэта потым толькі раз ці два.

Апоўначы з-пад падлогі пачынаўся гул. Дробныя рэчы, кшталту грабеньчыка ці панчохаў, узляталі ў паветра. Засаўкі, на якія засоўвалі аканіцы з сярэдзіны, самі рассоўваліся, а аканіцы расчыняліся і грукаталі. У вёдрах танчыла вада. Яблыкі, якія сушыліся на гарышчы, сыпаліся самі сабою ў хату. А ўдзень бывала, калі Аня, Казікава жонка, ішла па гародзе, бульба выскоквала з зямлі і біла ёй у спіну. Пры гэтым не пакідала брудных слядоў — нават пасля дажджу. А прабабцы прыляцела ў плячо цагліна — праўда, болю яна не адчула.

Вырашылі неяк з гэтым усім змагацца. Перш паклікалі ксяндза, бо былі каталікі. Ксёндз рады не даў. Потым — бацюшку. Вынік быў той самы. Дзе яны ў тыя часы ўзялі святароў, калі ўсе яны былі ўжо арыштаваныя, нават не ўяўляю. Урэшце Антон прывёз з Менска сваіх калег-энкавэдыстаў, і яны зрабілі на хутары засаду. Пасядзелі ноч, паглядзелі, паслухалі, але нічога не выявілі.

### Золата забытых хутароў

Невядома, колькі гэта ўсё трывала, і няясна, хто параіў выйсце, але ўрэшце сям'я з таго хутара папросту з'ехала і пабудавала новы дом у вёсцы. Тут усё і скончылася. Потым была вайна, якая сваімі жахамі пераўзышла ўсе бяскрыўдныя выбрыкі загадкавага палтэргейста. Дарэчы, слова такога тады ніхто не ведаў, ды і наогул ніякім адмысловым тэрмінам гэтую з'яву не называлі. Дый нашто называць тое, пра што лепш не згадваць?

## Палтэргейст — гэта дакладна не самае страшнае, з чым прабабцы Марыі давялося сустрэцца ў жыцці

Пра тыя падзеі на хутары ў сям'і маўчалі аж да сярэдзіны 1950-х. Бабуля згадвае, што ўпершыню пачула пра ўсё ад бацькоў і сваякоў у дзень свайго шаснаццацігоддзя, за святочным сталом. Казалі, што ў гэтай гісторыі было нейкім чынам замяшанае золата, нібыта схаванае на хутары. Золата, якога ніхто ніколі не бачыў. Ці было яно ўвогуле?..

Хутар той яшчэ можна адшукаць на старых картах, але больш ніякага следу па ім не засталося. Казік з жонкай і дачкой так і жылі ў сваёй вёсцы. Антон заставаўся на сваёй сакрэтнай службе, дзе быў падчас вайны – невядома, але пасля выяваў у Японіі. Мой прадзед Леапольд у 1941 годзе быў на фронце, трапіў у палон, але здолеў выбрацца і вярнуцца ў Менск яшчэ ў час акупацыі.

Прабабка Марыя ў акупаваным Менску нарадзіла ў кастрычніку 1941-га маю бабулю, а ў сакавіку 1944-га – ейную сястру. У сваёй хаце на Брылеўскай прабабка падчас вайны хавала яўрэяў: можа, узгадваючы, як яе саму выратавала і прытуліла ў 1933 годзе тая яўрэйская сям'я ў Віцебску. Прадзед памёр у 1969-м, прабабка – у 1990-м, яшчэ паспеўшы патрымаць мяне на руках. На левай руцэ ў яе не было чатырох пальцаў, зажаваных мясарубкай у 1938-м. А правая — памятала цяпло цагліны, што прыляцела ёй у плячо на хутары ўвосень 1939-га. І гэта дакладна было не самае страшнае, з чым прабабцы Марыі давялося сустрэцца ў жыцці. ◆



**Прадзед Леапольд і прабабка Марыя** ля хаты на Брылеўскай. Менск, лета 1955 года.

# Трагедыі і хараство Вайсковых могілак

**На Вайсковых могілках Мінска — каля васьмі тысяч пахаванняў. Людзей тут хавалі з 1895 года і да сярэдзіны 1950-х. Якія трагедыі хаваюцца ў лёсах тых, хто на іх ляжыць? Піша гісторык Антон Рудак.**

### Чаму «Вайсковыя»?

Могілкі пры мінскім вайсковым шпіталі на Доўгім Бродзе першапачаткова ўзніклі на іншым месцы. Яшчэ з 1840-х яны знаходзіліся ў раёне Шпітальнай і Правіянцкай вуліц (якія сёння носяць, адпаведна, імёны Фрунзэ і Захарава), прыкладна паміж іх скрыжаваннямі з Вайсковым і Бранявым завулкамі, непадалёк ад самога шпіталя, будынак якога цяпер займае Следчы камітэт. Новыя могілкі, вядомыя сёння як Вайсковыя, былі заснаваныя ў 1895 годзе на Даўгабродскай вуліцы (цяпер Казлова), а на месцы старых шпітальных могілак паўстала з часам гарадская забудова.

На Вайсковых могілках пры вуліцы Даўгабродскай да рэвалюцыі хавалі выключна праваслаўных — афіцэраў мінскага гарнізона і іх сваякоў. Да нашага часу з той пары захавалася толькі некалькі дзясяткаў надмагілляў. Пахаванні дарэвалюцыйнага перыяду збольшага сканцэнтраваныя вакол царквы Аляксандра Неўскага, збудаванай на могілках у 1898 годзе. З таго часу набажэнствы ў царкве адбываліся амаль без перапынку, за выняткам толькі 1939–1941 гадоў. Усярэдзіне на сценах храма можна пабачыць мемарыяльныя пліты з выбітымі на іх імёнамі 118 воінаў 119-га Каломенскага палка




і 30-й артылерыйскай брыгады, якія загінулі на Расійска-турэцкай вайне 1877–1878 гадоў.

Зрэшты, пасля рэвалюцыі Вайсковыя могілкі страцілі свой ранейшы статус і тут пачалі хаваць людзей самых розных заняткаў, незалежна ад веравызнання. Варта адзначыць, што непадалёк, літаральна за пару кварталаў, месціліся яшчэ адны старыя могілкі — Залатагорскія, пры касцёле Святога Роха. Цяпер пра тыя могілкі нагадваюць толькі пару дзясяткаў надмагілляў.

## Залатая Горка і Доўгі Брод

У міжваенныя гады ў гэтым раёне Мінска, які зваўся Залатой Горкай, жылі многія дзеячы беларускага нацыянальнага руху. Колішняя жыхарка гэтага раёна, дзяячка беларускай эміграцыі Зора Кіпель (дачка літаратара Лявона Савёнка і настаўніцы Апалоніі Раткевіч), цытуе ў сваіх успамінах матчыны запісы, з якіх вынікае, што тут жылі пісьменнікі Янка Купала і Якуб Колас (тут жа пазней і пахаваныя), Змітрок Бядуля (іменем якога тут названыя вуліца і плошча), першая выканаўца ролі Паўлінкі Паўліна Мядзёлка, аўтар гімна «Мы выйдзем шчыльнымі радамі» Макар Краўцоў, упарадкавальнік беларускага правапісу Язэп Лёсік, прэм’ер БНР Іван Серада, кіраўніца беларускіх сацыялістаў-рэвалюцыянераў Палута Бадунова, адзін з важакоў заходнебеларускай Грамады Ігнат Дварчанін, мегапапулярны драматург Францішак Аляхновіч, акцёр Купалаўскага Фларыян Ждановіч.

Некаторыя вуліцы раёна і да сёння захавалі свае старыя, яшчэ дарэвалюцыйныя назвы: Берасцянская, Мар’еўская, Вайсковы, Бранявы, Горны завулкі... Але сапраўдны дух старых Залатой Горкі і Доўгага Броду адчуваецца ўжо толькі на Вайсковых могілках. Астатні раён, за выняткам Залатагорскага касцёла Святога Роха, змяніўся да непазнавальнасці, забудаваны сталінкамі і хрушчоўкамі, што паўсталі на месцы драўлянай забудовы, якая згарэла ад пажараў, выкліканых нямецкімі бамбёжкамі ў чэрвені 1941-га.

## Айцы БССР і іхні лёс

Яшчэ ў міжваенныя гады Вайсковыя могілкі фактычна робяцца нацыянальным пантэонам Савецкай Беларусі — хоць афіцыйна такога статусу яны ніколі не мелі. Менавіта тут пачынаючы з 1920-х хаваюць усіх больш-менш заслужаных дзяржаўных, грамадскіх і культурных дзеячаў. Лік іх не надта вялікі — пераважная большасць даваеннай эліты БССР згінула падчас рэпрэсій 1930-х гадоў, і магілы іх невядомыя. Але і лёсы пахаваных на Вайсковых могілках часцей за ўсё абрываліся трагічна.

Пачалося з таго, што ў маі 1920 года, калі Мінск яшчэ быў у руках палякаў, дэфензіва (польская таемная паліцыя) выкрыла і расстраляла групу падпольшчыкаў-камуністаў. Іх пахавалі на Вайсковых могілках, непадалёк ад царквы, а неўзабаве, пасля таго, як у ліпені 1920-га Мінск заняла Чырвоная армія, тут паўстаў сціплы абеліск з зоркай і надпісам: «Магіла чырвоных партызан... расстрэляных белапалякамі 7-га мая 1920 г.» — і спіс з васьмі прозвішчаў.

Зусім блізка ад магілы чырвоных партызан можна пабачыць надмагілле дзеяча Беларускай рэвалюцыйнай арганізацыі і Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі Арсеня Канчэўскага — ягоны старэйшы брат Ігнат быў вядомы пад псеўданімам Ігнат Абдзіраловіч як філосаф і аўтар эсэ «Адвечным шляхам». Ігнат Канчэўскі памёр ад хваробы ў 27 гадоў, не нашмат яго перажыў і Арсень — у жніўні 1931 года ў веку 29 гадоў ён патануў у Чорным моры.

Пры самым уваходзе на могілкі пахавалі першага прэзідэнта Беларускай акадэміі навук Усевалада Ігнатоўскага, які ў 1931-м быў абвешчаны «лідарам нацыянал-дэмакратычнай контррэвалюцыі» і застрэліўся, не сцярпеўшы такіх абвінавачванняў. У 40-я на магіле Ігнатоўскага складалі прысягу сябры створанага немцамі Саюза беларускай моладзі. Вось як узгадвае тыя падзеі будучы кіраўнік Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Нью-Ёрку, а тады хлапчук Вітаўт Кіпель: «25 сакавіка 1944 года на пляцы Волі была вялікая дэманстрацыя... А моладзь — чалавек 50 — пайшла на Вайсковыя могілкі, і там каля магілы Ігнатоўскага прымалі прысягу... Памятаю: быў барабан, быў гарніст, сцягі, штандары, здаецца, нават быў залп — усё выглядала тэатральна».

Антон Шукелойць, які за немцамі быў дырэктарам мінскага краязнаўчага музея, паводле сваіх абавязкаў займаўся і вывучэннем стану гарадскіх могілак: «На Вайсковых могілках ▶



WIKIMEDIA COMMONS

**Мінчукі на Вайсковых могілках**, пачатак XX стагоддзя.

▶ пахаваны [пісьменнік] Эдуард Самуйлёнак. Ягоная магіла недалёка ад царквы. І яшчэ адна магіла была — ці не Чарвякова? На гэтых магілах не было ніякіх знакаў. У мяне ўзнікла думка паставіць крыжы на гэтыя магілы. Але ж то ўсё былі камуністы. Савёнак кажа: “Няважна, што камуністы. Па-першае, гэта хрышчоныя людзі, а па-другое — беларускія патрыёты. У тых умовах, у якіх яны жылі, яны, магчыма, не маглі інакш сябе паказаць. Так што стаў крыжы”. І я паставіў крыжы».

Так ці інача, на магіле Аляксандра Чарвякова, якога ў міжваенныя гады называлі «беларускім прэзідэнтам», сёння стаіць ужо не крыж, а грунтоўны помнік — праўда, з надпісам па-руску. Паставілі яго ўжо праз дзесяцігоддзі па вайне. Жыццё Чарвякова, які ў 1924–1937 гадах фармальна стаяў на чале БССР, таксама абарвалася трагічна: абвінавачаны ў антысавецкай дзейнасці, ён застрэліўся ў чэрвені 1937 года, каб не трапіць у турму, дзе, ён тое ведаў, яго чакалі зверскія катаванні і смерць. Улады падманна абвясцілі, што самагубства Чарвякоў здзейсніў «на асабістай сямейнай глебе».

А непадалёк ад Ігнатоўскага і Чарвякова — магіла чэкіста Язэпа Апанскага, намесніка прадстаўніка ОГПУ Беларусі. Апанскі загінуў у чэрвені 1927 года ў аварыі дрызіны на чыгунцы між Масюкоўшчынай і Ждановічамі. Здарэнне падалі як тэракт, і сем’і, чые зямельныя ўчасткі прылягалі да чыгункі на месцы аварыі, былі рэпрэсаваныя як датычныя да гібелі Апанскага. У Мінску арганізавалася дэманстрацыя, падчас якой натоўп ледзь не разграміў польскае консульства — вінаватымі ў гібелі высокапастаўленага чэкіста абвясцілі палякаў, хаця хадзіла пагалоска, што машыніст проста занадта разагнаўся. На помніку напісалі, што Апанскі з шафёрам загінулі «от руки контрреволюции».

### Літаратары і рэпрэсаваныя

Блізка ад царквы можна бачыць яшчэ некалькі даваенных помнікаў заслужаных для БССР дзеячаў, якіх абмінула хваля рэпрэсіяў — тут пахаваныя акадэмік-геолаг Мікалай Бліядуха, які займаўся даследаваннем карысных выкапняў Беларусі і памёр у 1935 годзе, і заслужаны артыст БССР Уладзімір Крыловіч, які памёр у 1937-м. А побач — магіла пісьменніка Эдуарда Самуйлёнка, які памёр у 1939 годзе. Са смерцю Самуйлёнка звязаная вусцішная гісторыя: літаратар Юрка Віцьбіч узгадваў, што адразу ж пасля пахавання цела пісьменніка нехта выцягнуў з дамавіны і зняў з яго гарнітур. Хто аказаўся злачынцам — чытайце ў артыкуле Змітра Дразда (**старонка 70–71**).

**Міхась Стральцоў меў на магіле Паўлюка Труса схованку з усім неабходным для памінальнай чаркі**

У міжваенныя гады Вайсковыя могілкі сталі ператварацца ў нацыянальны пантэон Савецкай Беларусі. З 1920 года тут хавалі ўсіх дзяржаўных, грамадскіх і культурных дзеячаў.

Яшчэ адзін след памяці пра рэпрэсіі — непадалёк ад царквы магіла бацькі паэта Міхася Багуна, Фёдара Блошкіна. Сам Міхась Багун, арыштаваны ў лістападзе 1936-га, быў асуджаны на восем гадоў лагераў і памёр у 1938-м на перасыльным пункце. Кажуць, менавіта Міхасю Багуну належала ідэя назвы нефармальнага аб’яднання літаратараў у даваенным Мінску — Таварыства аматараў выпіць і закусіць (ТАВіЗ), у якое нібыта ўваходзіў пэўны час і Эдуард Самуйлёнак. У іншым куце могілак — згадка пра рэпрэсаванага святара: на магіле сваякоў — шыльда з іменем протаіерэя Паўла Гаховіча, рэпрэсаванага ў 1929 годзе.

Большасць літаратараў на Вайсковых пахаваныя на ўскрайку могілак, на горцы, што бліжэй да рага вуліц Казлова і Берасцянскай. Адна з першых — магіла паэта Паўлюка Труса, які памёр ад тыфу ў 1929-м у веку 25 гадоў. Былы ўдзельнік падполля ў мінскім гета Гірш Смоляр пісаў пасля вайны, што на магіле Паўлюка Труса збіраліся падпольшчыкі, каб адтуль сысці ўпотай у лес да партызан. А ў 1960-я, як узгадваў журналіст і літаратар Валянцін Тарас, «у госці да Паўлюка» любіў завітаць Міхась Стральцоў, які нават меў пры помніку хованку з усім неабходным да памінальнай чаркі: відэльцамі, нажом, адкрывачкай, сурвэткамі... Зрэшты, помнік тады стаяў яшчэ даваенны — пазней яго замянілі масіўнай стэлай з барэльефам паэта.

Побач з магілай Труса — паваенныя пахаванні: Кузьмы Чорнага, які памёр у толькі-толькі вызваленым Мінску ўвосень

1944-га ў 44 гады, і паэта-камуніста з Заходняй Беларусі Валянціна Таўлая, які быў намеснікам дырэктара Купалаўскага музея і памёр у 1946-м у 33 гады. Здароўе Кузьмы Чорнага падарвалі допыты ў сталінскім НКВД, а Таўлая — гады, праведзеныя ў польскай турме.

Тут жа ляжыць і першы старшыня Саюза пісьменнікаў і аўтар тэксту гімна БССР Міхась Клімковіч, які памёр у 1954-м, і памерлая ў тым самым годзе руская пісьменніца Вера Лютава, якая пражыла ў Мінску толькі апошнія дзесяць гадоў жыцця і ўзначальвала ў Саюзе пісьменнікаў БССР секцыю рускай літаратуры. Тым не менш надпіс на ейным помніку — па-беларуску.

### Ахвяры вайны

За «літаратарскай горкай» густа ідуць пахаванні перадваенных і ваенных гадоў. Хоць самая знакамітая магіла часоў вайны знаходзіцца ўсё-ткі не тут, а непадалёк ад царквы — там пахаваная Бянігна Луцэвіч з Валасевічаў, маці Янкі Купалы, якая памерла ў акупаваным Мінску 30 чэрвеня 1942 года, праз два дні пасля таго, як у Маскве трагічна загінуў ейны сын — у гэтым была свая містыка, яна ж не ведала, што здарылася па той бок лініі фронту. Бянігну Іванаўну пахавалі, з вялікай пашаны, бліжэй да цэнтра могілак і да магілы Купалавай цешчы, Эміліі Манэ-Станкевіч. На яе помніку словы Купалы: «Навучыўся я слоў беларускіх ад маці...»

Але большасць ваенных пахаванняў варта шукаць усё ж бліжэй да рага вуліц Казлова і Берасцянскай. У гэтым квадраце пахаваны і Герасім Якушка — перадваенны галоўны архітэктар Мінска, які пабудаваў, між іншага, жылы дом гарвыканкама (пр. Незалежнасці, 43), будынкі палітэхнікума (пр. Незалежнасці, 85) і школы № 4 (Чырвонаармейская, 11). У акупаваным Мінску Якушка памёр ад тыфу.

Адна з загадак Вайсковых могілак, якая наўрад ці будзе разгаданая, — магіла лідара беларускіх нацыянал-сацыялістаў Фабіяна Акінчыца, які рыхтаваў прапагандыстаў для працы ў акупаванай Беларусі. Гэты адыёзны дзеяч у Мінску бываў толькі кароткімі наездамі, але менавіта тут яго напаткала гібель ад рук партызан — Акінчыца застрэлілі ў кватэры ягонага сябра, рэдактара «Беларускай газэты» Уладзіслава Казлоўскага (ён сам будзе забіты ў лістападзе таго ж года). Смяротны прысуд выканала 5 сакавіка 1943 года група на чале з журналістам Алесем Матусевічам. Акінчыц быў фігурай настолькі зненавіднай, што на ягоную смерць ніяк не адгукнулася нават тагачасная прэса, што выходзіла ў Мінску за немцамі. Магіла Акінчыца не была ніяк пазначаная, і пасля вайны ўсякі след па ёй згубіўся.

Пра стварэнне пранямецкага Саюза беларускай моладзі было абвешчана на ўрачыстым сходзе ў Мінскім гарадскім тэатры, зладжаным з нагоды другіх угодкаў «вызвалення Мінска ад бальшавікоў» 22 чэрвеня 1943 года. Увечары ж у тэатры паказвалі спектакль паводле п'есы Францішка Аляхновіча «Пан міністр», і неўзабаве пасля пачатку адбыўся выбух, у выніку якога загінулі 13 чалавек — у асноўным сталічная моладзь, — яшчэ каля сотні чалавек былі параненыя. Вядомыя імёны некалькіх ахвяр: Андрэй Братко, Яраслаў Кушаль (сын вайскоўца Франца Кушаля і паэткі Наталлі Арсенневай), Кастусь Мокат, Тамара Насеннік, Марыя Негіна, Марыя Сабалеўская, Леанід Слаўнін. Вядома таксама, што трох ахвяр не апазналі.

Адразу ж пасля здарэння штаб партызанскага руху загадаў лічыць выбух правакацыяй немцаў, і толькі нядаўна былі адшуканыя дакументы і сведчанні, якія праліваюць святло на сапраўдную гісторыю гэтай трагедыі. Высветлілася, што выбух зладзілі ўсё ж партызаны з мэтай забіць Вільгельма Кубэ. Калі ж стала вядома, што Кубэ падчас выбуху ў тэатры не будзе, двое партызан паспрабавалі абясшкодзіць міну — але самі загінулі пры выбуху. Іх і пахавалі неапазнанымі разам з астатнімі ахвярамі тэракта 25 чэрвеня 1943 года на Вайсковых могілках. Доўгі час вядома было толькі, што магілы ахвяр выбуху былі на рагу вуліц Берасцянскай і Казлова, пры самым плоце ўздоўж апошняй. Толькі сёлета ўдалося высветліць, што на тым самым месцы, якое называлі сведкі, захавалася надмагілле прынамсі аднаго з палеглых у той дзень у тэатры — Леаніда Славіна ▶



ФОТА НАДЗЕІ БУЖАН

На стэле з чорнага граніту выбіты імёны трох дзясяткаў хлопцаў і дзяўчат. Гэта толькі **невялікая частка ахвяраў загадкавага пажару на навагоднім балі** 3 студзеня 1946 года ў клубе НКГБ на плошчы Свабоды ў Мінску.

(ці Слаўніна). А проста перад ягоным помнікам — брацкая магіла чатырох падпольшчыкаў, павешаных нацыстамі ў лістападзе 1943-га. Яшчэ адна ахвяра выбуху ў тэатры, Марыя Негіна, пахаваная разам са сваякамі ў іншай частцы могілак.

А ўжо праз пару тыдняў пасля пахавання ахвяр выбуху, у пачатку ліпеня 1943-га, на Вайсковых могілках развіталіся з настаяцелем царквы Аляксандра Неўскага, айцом Іванам Кушнерам. Ён быў актыўным прыхільнікам беларускай аўтакефаліі, ратаваў яўрэйскіх дзяцей, а загінуў ад выбуху партызанскай міны на дарозе пад Ракавам. Пахавалі яго пры царкоўнай сцяне.

### Апошняе водгулле вайны

Пасля вызвалення Мінска ад нацыстаў на Вайсковых могілках пачынае ствараецца мемарыял памяці савецкіх салдат і афіцэраў, якія загінулі ў баях за горад. З'яўляецца таксама ідэя стварэння на базе Вайсковых могілак нацыянальнага пантэону Беларусі — гэтай тэме быў прысвечаны, між іншага, артыкул Гірша Смоляра ў газеце «Літаратура і мастацтва» ад 20 траўня 1945 года. Былы падпольшчык прапаноўваў упарадкаваць магілы дзеячаў культуры, а таксама перапахаваць у Мінску памерлых на чужыне Янку Купалу, Максіма Багдановіча і Змітрака Бядулю. Як вядома, пазней перавезлі з Масквы ў Мінск толькі урну з прахам Янкі Купалы.

## Пасля смерці Рут Уолер ЗША знялі эмбарга на пастаўку антыбіётыкаў у СССР

Здавалася, вайна з яе жахамі і нягодамі адышла. Але і вызвалены Мінск неўзабаве скаланула страшнае здарэнне, якое забрала нават больш жыццяў, чым выбух у тэатры ў 1943-м. У новай частцы могілак, пры рагу вуліц Казлова і Міхайлава, стаіць між пахаванняў савецкіх вайскоўцаў высокая стэла з чорнага граніту з выбітымі на ёй імёнамі трох дзясяткаў хлопцаў і дзяўчат. Гэта толькі невялікая частка ахвяраў загадкавага пажару на навагоднім балі 3 студзеня 1946 года ў клубе НКГБ на плошчы Свабоды ў Мінску.


ФОТА НАДЗЕІ БУЖАН

Помнік, які **паставіў па жонцы** Якуб Колас.

Гісторыя таго балю ахінутая мноствам чутак. Казалі, нібыта запрашэнні на яго маглі атрымаць толькі выдатнікі і дзеці эліты, але насамрэч там апынуліся і даволі выпадковыя людзі. Распаўсюджваліся чуткі, што пажар здарыўся, бо ў будынку разам з клубам месціўся архіў нямецкіх спецслужбаў, і дыверсанты зладзілі падпал, каб зацерці сляды. Нехта нават сцвярджаў, нібы ўсе пажарныя машыны Мінска падчас трагедыі раз'ехаліся па лжывых выкліках у розныя канцы горада. Але гэта ўсё няпраўдзіва. Зрэшты, у прэсе не было публікацый, што стала прычынай пажару і хто быў у ім вінаваты.

Што могуць дадаць да гэтай гісторыі імёны на помніку? Вядома, што Алена Дзямідовіч, імя якой выгравіравана трэцім зверху, насамрэч выжыла, яе запісалі ў спіс ахвяр памылкова. А Ала і Валя Чачнёвы, імёны якіх змешчаныя ў спісе ніжэй, насамрэч загінулі. Пра іх вядома з успамінаў таго самага Вітаўта Кіпеля, да якіх мы ўжо звярталіся ў гэтым тэксце. Гэтыя дзяўчаты наўрад ці мелі нейкае дачыненне да савецкай эліты — яны ўсе тры гады нацысцкай акупацыі пераажылі ў Мінску, а іх бацька, праўдападобна, быў звязаны з партызанамі. Але Ала і Валя Чачнёвы зрабіліся ахвярамі страшнай трагедыі ўжо ў вызваленым горадзе.




Сярод людзей, пахаваных на Вайсковых могілках, вылучаецца таксама імя Рут Уолер, пахаванай у жніўні 1946-га на цэнтральнай алеі. Грамадзянка ЗША, яна працавала ў місіі ААН па дастаўцы гуманітарнай дапамогі. Памерла ў 25 гадоў, захварэўшы на запаленне лёгкіх, пасля таго як выратавала хлопчыкаў, што танулі ў возеры.

*Мне сняцца сны аб Беларусі*

**Янка Купала і Якуб Колас**

*Мой родны кут, як ты мне мілы*

**вуліца Чырваназоркавая**



**Брацкія магілы байцоў Савецкай арміі**

**Царква**

**Эмілія Станкевіч (Манэ), цешча Янкі Купалы**

*Мы, беларусы, мірныя людзі...*

**Несцер Сакалоўскі**

*Навучыўся я слоў беларускіх ад маці...*

**Бянігна Луцэвіч, маці Янкі Купалы**

**Аляксандр Чарвякоў**

**вуліца Берасцянская**

*Чалавек — гэта цэлы свет.*

**Кузьма Чорны і Паўлюк Трус**

*Ахінае вечар тонкія мярэжы...*

*Першы прэзідэнт Акадэміі навук*

**Усевалад Ігнатоўскі**

**Галоўны ўваход**

**Ахвяры выбуху ў тэатры імя Янкі Купалы**

Смерць маладой амерыканкі мела наступствы: пасля гэтага Штаты знялі з СССР эмбарга на ўвоз пеніцыліну і іншых антыбіётыкаў.

Мы не можам распавесці пра ўсе трагедыі, ахвяры якіх знайшлі свой апошні прытулак на Вайсковых могілках. Нават калі пералічыць толькі надмагіллі, на якіх месціцца надпіс «трагічна загінуў», — лік ідзе на дзясяткі. Кожная смерць — гэта трагедыя... Але галоўная трагедыя — лёс саміх Вайсковых могілак. Сёння стан амаль чатырох тысяч помнікаў лічыцца нездавальняючым, ім пагражае «добраўпарадкаванне», якое на мове камунальнікаў азначае знішчэнне арыгінальных помнікаў, страту інфармацыі пра пахаваных і замену надмагілляў на безаблічныя стандартныя «падгалоўнікі». Знікаюць старыя камяні, сціраецца памяць... Памяць, якая нам так патрэбная. ◆




ФОТА НАДЗЕІ БУЖАН

**Магілы Паўлюка Труса і Кузьмы Чорнага.** Нашчадкі Чорнага (Мікалая Рамаsuccessfulаноўскага) прынеслі да помніка яго кнігу.

# СУПЕР-БЕЛАРУСЬ,

## АБО НЕЙМАВЕРНЫЯ ПРЫГОДЫ МАЛАДОЙ СЯМ'І ПРАГРАМІСТАЎ

ЧАСТКА 1

Аўтар сюжэта **Андрэй Скурко**
Мастак **Філіп Какоша**

НЕДЗЕ Ў БЕЛАРУСІ...

ТАТА, А ШТО ТАКОЕ "СЯДЗІБА?"

СЯДЗІБА — ГЭТА ДОМ НЕ Ў ГОРАДЗЕ, ЯКІ МЫ НЯДАЎНА КУПІЛІ!

МАРТА, ТАТА Ж ЗА СТЫРНОМ! ХУТКА ЎСЁ САМА ПАБАЧЫШ!

А ЁН ПРЫГОЖЫ?

КАЖУЦЬ, ШТО БЕЛАРУСЬ — ГЭТА ЛЕС, А ТУТ АДНЫ ПАЛІ І ЎЗГОРКІ. НІВОДНАГА ДРЭВА...

А ВУНЬ І ДРЭВА!

НУ, ВОСЬ МЫ І ПРЫЕХАЛІ!

АЛЁ, НІНА МАЦЕЎНА? МЫ ЎЖО ТУТ, ВЫХОДЗЬЦЕ!


ТАК...ВЫ ТУТ УЖО? БАЧУ ВАС! УЖО ВЫХОДЖУ!


МАМА, ХТО ГЭТА ТАМ ВЫЙШАЎ? БАБА-ЯГА?
МАРТА, ТАК КАЗАЦЬ НЕПРЫГОЖА!
ГЭТА НЕ БАБА-ЯГА, А ЦЁЦЯ, У ЯКОЙ МЫ КУПІЛІ ДОМ!


ВОСЬ КЛЮЧЫ І ДАКУМЕНТЫ...
ДЗЯКУЙ! ВАС МО ПАДВЕЗЦІ?
ДЫ НЕ, НЕ ТРЭБА, Я САМА, НА РОВАРЫ...
І ЧАГО ВАМ ЗАХАЦЕЛАСЯ ХАТУ Ў ГЛУХАМАНІ? ДА КРАМЫ ДЗЕСЯЦЬ КІЛАМЕТРАЎ...
ЦЯЖКА ВАМ ТУТ ЖЫЛОСЯ... БЕЗ КРАМЫ...
А Я ТУТ НЕ ЖЫЛА, Я З РАЙЦЭНТРА. ГЭТА ДЗЯДЗЬКІ МАЙГО ХАТА. ЁН ПАМЁР, А ХАТА МНЕ ЗАСТАЛАСЯ.


ВОСЬ І ЖЫЎ ЁН ТУТ, ДЗЯДЗЬКА МОЙ. ЁН БЫЎ...ТАКІ, ДЗІВАКАВАТЫ. А ЯК САСТАРЭЎ - ЗУСІМ ШАРЫКІ ЗА РОЛІКІ ЗАЕХАЛІ... УСЁ СЯДЗЕЎ ТУТ ДЫ ПАЎТАРАЎ: ДРЭВА РАСЦЕ, ДРЭВА РАСЦЕ... ДЗІВАК, АДНЫМ СЛОВАМ...


ГАЙДА ГЛЯДЗЕЦЬ ДОМ!
ДА ПАБАЧЭННЯ!
НУ, ШЧАСЛІВА ВАМ ЗАСТАВАЦЦА!
УРААА!


КОЛЬКІ ТУТ МЕСЦА! БОЛЬШ ЗА НАШУ КВАТЭРУ!
ТАК, І Я СПАДЗЯЮСЯ СПАКОЙНА ТУТ СКОНЧЫЦЬ ПРАЕКТ НЕЙРОННАЙ СЕТКІ ДЛЯ САРТАВАННЯ БУЛЬБЫ ПА ВІДЭАСТРЫМЕ!


А ТО Ж! КУДЫ Я, РОДНЫЯ, БЕЗ ВАС!
КАНЕЧНЕ, ТАТА! А МЫ БУДЗЕМ ТАБЕ ДАПАМАГАЦЬ!


І ВОСЬ – ПЕРШЫ СЯМЕЙНЫ АБЕД У НОВАЙ ХАЦЕ...
ДАМІНІКУ ЗАЎТРА Ў ШКОЛУ, ЕДЗЬЦЕ ЎЖО ДАМОЎ. А Я ТУТ ПАБУДУ ПАРУ ДЗЁН: ПАДРАМАНТУЮ, ПАРАДАК ЗРАБЛЮ...
ВЕДАЮ Я ЦЯБЕ – КАВА, ЛЭПТОП, 3G МАДЭМ, І ДА АЎТОРКА – МОЖНА НЕ ТУРБАВАЦЬ!


ОКЕЙ ТАДЫ, ПАСЛЯ СТЭЛЕФАНУЕМСЯ! ЕДЗЬ АСЦЯРОЖНА.
ТАК, КАНЕЧНЕ! НЕ ЗАБЫВАЙСЯ НА СЯМ'Ю, СТЫЎ ДЖОБС!


МАКСІМ РАЗВІТАЎСЯ З СЯМ'ЁЙ...
БІІІП-БІІП!


О, А ВОСЬ І ІНВЕНТАР! НУ-С, ПАЧНЁМ!




НАСТУПНЫМ ВЕЧАРАМ ПАЧАЛАСЯ ЗАЛЕВА...


БУМ
НУ ЎСЁ, АПОШНІ ЦВІК НА СЁННЯ – І ЗА ПРАЕКТ...


ЭХ, НЕ ТРЭ БЫЛО ТАК МОЦНА БІЦЬ...


О, ДЫК ТУТ, ЗА РАМКАЙ, ХОВАНКА... І ЛЯМПА НЕЙКАЯ Ў ЁЙ...А НАШТО ЯЕ ХАВАЦЬ?.. ЦІКАВА...
ВОСЬ ХАЛЕРА НА ТУЮ МАЛАНКУ! ПРОБКІ ЗГАРЭЛІ... СВОЕЧАСОВА Я ЛЯМПУ ЗНАЙШОЎ...


НУ ВОСЬ, ТАК ЛЕПЕЙ... А... ШТО ГЭТА ЗА ГУК? АДКУЛЬ ЁН?




І РАПТАМ...
ВЫ... ВЫ... ХТО... ТАКІЯ?!


А НУ, ПАЙШЛІ ПРЭЧ З МАЁЙ ХАТЫ!!!


НЕ ТРЭБА... НЕРВАВАЦЦА! МЫ - СЯБРЫ!


ЯКІЯ ВЫ МНЕ СЯБРЫ, Я ВАС УПЕРШЫНЮ БАЧУ!!!
БАЧЫШ ТЫ НАС УПЕРШЫНЮ, АЛЕ ВЕДАЕШ ДОБРА! ДАРЭЧЫ, МЫ ЗАБЫЛІСЯ ПРАДСТАВІЦЦА... Я - УСЯСЛАЎ, А ГЭТА - АЛАІЗА!
ГЭТА ЯК АЛАІЗА ЦЁТКА І УСЯСЛАЎ ЧАРАДЗЕЙ?


НЕ "ЯК", А АЛАІЗА ЦЁТКА...
... І УСЯСЛАЎ ЧАРАДЗЕЙ!


НУ НІЧОГА САБЕ!..



# Наша Пластыляндыя

Танака і Зорачка апынуліся ў поўнай цемры.












Яны пайшлі на таямнічы гук.























Танака, Зорачка і Крамгрун доўга-доўга блукалі па заблытаных крамянёвых шахтах. Нарэшце, стомленыя і знясіленыя, яны выбраліся на паверхню.




А гэта мая
жоначка і дзеткі.


Самы лепшы
крэмень я
пакладу ў ахвяру на
камень продкаў.


А цяпер можна
і папрацаваць!


Крамгрун біў па крэменю,
сколваючы з яго кавалачкі.


Атрымаўся
крамянёвы нож.


Тым часам Зорачка дапамагала збіраць у лесе ежу.


Зусім мала ягад сёлета.
Як дзяцей карміць?


А што, калі я скіну
камень у гэтую нару?
Танаку не было
чаго рабіць.


Скр-р-р-р-р!
Камень пабудзіў
жахлівую пачвару.




Памятаю! Я чытаў пра іх у дзядулевай энцыклапедыі.

Шаблязубыя мядзведкі вадзіліся ў старыя часы. Яны былі вялізныя, жылі ў норах.



















www.tanaka.by  Аўтар: Алесь Кудрыцкі

# АПОШНІ ВАМПІР

ЧАСТКА 5

Аўтар сюжэта **Андрэй Скурко**
Мастак **Філіп Какоша**


Мінск, канец 1940-х. Сірата Лёня Рудзіцкі дазнаецца, што ён – прыроджаны вампір з вялікімі здольнасцямі. На яго палке НКВД, вярхоўка якога таксама складаецца з вампіраў. Яны бацьку, прафесара Антона Рудзіцкага, знішчылі, калі ён адмовіўся супрацоўнічаць. Стары сябар бацькі раскрывае Лёню таямніцу яго паходжання і скіроўвае на хутар сваёй сястры, дзе схаваная інфармацыя пра вампіраў. Таксама Лёня дазнаецца, што насамрэч яго завуць Людвік. На хутары Насты Радзюк пад Валожынам Людвік адкрывае ў сабе новыя здольнасці. Камсамольскі актывіст Лазейкін высочвае яго. Палкоўнік-вампір з НКВД арыштоўвае ўсю сям'ю. Іх ратуе мясцовы міліцыянер, былы партызан Сцяпан з сябрамі. Калі яны вяртаюцца дадому, застаюць там Герхарда, былога нямецкага салдата, які выратаваў Насту ў канцлагеры. Герхард вызвалены з турмы і рэабілітаваны як антыфашыст...






















У СТОЎБЦАХ...
НУ, ЗДАРОЎ, ГРЫША!
СЦЁПА, ХАЙ ЦЯБЕ ХАЛЕРА! ЗАХОДЗЬЦЕ!..


ПРАВДА
ЯК ТУТ У ВАС, НАЛАДЖВАЕЦЦА ЖЫЦЦЁ?
ТАК, ПАМАЛЕНЬКУ.
А САМ ТАК АДЗІН І ЖЫВЕШ? НЕ АЖАНІЎСЯ БОЛЕЙ?


КУДЫ ТАМ... ТОЛЬКІ ЗАПЛЮШЧВАЮ ВОЧЫ - АДРАЗУ БАЧУ СВАІХ У ГЕТА...
ВЕЧНАЯ ПАМЯЦЬ...


А ПАМЯТАЕШ, ЯК ТЫ МНЕ АЎСВАЙС НАМАЛЯВАЎ У ЛЕСЕ?
Я З ІМ АЖ ДА МІНСКА ЕЗДЗІЎ, ПРАЗ УСЕ НЯМЕЦКІЯ ЗАСТАВЫ!..


НЕ-НЕ, ПАСЛЯ ВАЙНЫ Я КІНУЎ, НЯМОЖНА Ж, У ТЫПАГРАФІІ ПРАЦУЮ.
А РАНЕЙ ПАДЗАРАБЛЯЎ, ТАК. ПРЫ ПАЛЯКАХ, ПРЫ НЕМЦАХ. ГРОШЫ МАЛЯВАЎ, ДАКУМЕНТЫ, НАВАТ ІКОНЫ...


ІКОНЫ?! А ГЭТА ЯШЧЭ НАВОШТА?..


У НАС ТУТ ЦЭЛАЯ ВУЛІЦА БЫЛА АТЭІСТАЎ-КАМСАМОЛЬЦАЎ. А НЕМЦЫ ПРЫЙШЛІ - ПАЧАЛІ РАССТРЭЛЬВАЦЬ, У КАГО Ў ХАЦЕ ІКОН НЯМА. І Я ІХ ЗА НОЧ ШТУК СОРАК... ЯК НЕ ДАПАМАГЧЫ СУСЕДЗЯМ?


СЛУХАЙ, ГІРШ... А КАЛІ Б ЦЯПЕР ТРЭБА БЫЛО ДАПАМАГЧЫ ДОБРАМУ ХЛОПЦУ? ГА?..
ОЙ-ВЭЙ, СЦЯПАНЕ... ВОСЬ КАЛІ Б ХТО ІНШЫ ПРАСІЎ - АДРАЗУ ПАСЛАЎ БЫ ДА ЧОРТА!..


ЯКІЯ ПАПЕРЫ ТРЭБА?
ПАШПАРТ, МЕТРЫКА І ДАВЕДКА АБ СКАНЧЭННІ ШКОЛЫ!


НУ, ХАДЗЕМЦЕ, МАЛАДЫ ЧАЛАВЕК, У ГЭТЫ ПАКОЙ...
ПАСТРЫЖОМСЯ ДЫ ЗРОБІМ ФОТАКАРТКУ!


ТАК, ГЛЯДЗІМ ПРОСТА СЮДЫ...
ІМЯ ЯКОЕ НАПІШАМ?
ПІШЫ...ЭЭЭ... ВАСІЛЬ СЦЯПАНАЎ! БУДУ ЯМУ БАЦЬКА ХРОСНЫ, ХЕ-ХЕ!


НУ, ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ УСЁ БУДЗЕ ГАТОВАЕ. ПРЫЯЗДЖАЙЦЕ!
ВЯЛІКІ ВАМ ДЗЯКУЙ!


ПРАЙШОЎ ТЫДЗЕНЬ...
НУ, СЦЯПАНЕ, ЯК ТАБЕ?


МЕТРЫКА, ПАШПАРТ, СКАНЧЭННЕ ШКОЛЫ... УСЁ ЯК МАЕ БЫЦЬ!
НУ, ГІРША, НУ, ГЕШЭФТМАХЕР, ШАНУЮЧЫ ЦЯБЕ...
АТТЕСТАТ
ПАСПОРТ
О РОЖДЕНИИ


ЛЕПЕЙ І НЕ ЗРОБІШ, ГІРШ! КОЛЬКІ Я ТАБЕ ВІНЕН?


КІНЬ, СЦЁПА! ХАДЗЕМ ЛЕПЕЙ ПАСЯДЗІМ, УСПОМНІМ МАЛАДОСЦЬ!..


УНАЧЫ ЛЮДВІК І ГЕРХАРД ВЫЙШЛІ З ДОМУ
НУ ШТО, ЧАС? ПОЙДЗ'ЕШ?
ТАК ...
ПРЫЕДЗ'ЕШ МІНСК – СПРАБУЙ ПАСТУПІЦЬ УНІВЕРЗІТЭТ, ТЭХНІШЭ ВЕДЫ Ў ЦЯБ'Е ЕСЦЬ, І ТЫ ВЕДАЙШ ХІМІЕ...
ПАЕДЗЕМ НА ШАХТЫ, ТАМ МОЖНА ЗНАЙСЦІ РАБОТУ


А ВЕРА...? МОЖА, МНЕ ЎСЁ Ж ПАРАЗМАЎЛЯЦЬ З ЁЮ?...
НЕ, НЕ ТРЭБА, ПАВ'ЕР, ТАК БУДЗ'Е ЛЕП'ЕЙ І ЦЯБ'Е, І ЁЙ... А ЦЯП'ЕР БЫВАЙ, ЛЮДВІХ!


ТОЙ ЖА НОЧЧУ ЛЮДВІК ТАЕМНА РУШЫЎ У МІНСК...

**У наш час з'явілася ўнікальная платформа — форумы на сайтах і сацыяльныя сеткі. Тут аматары абмяркоўваюць навуковыя адкрыцці са спецыялістамі, а навукоўцы могуць расслабіцца і выказаць смелыя здагадкі. У гэтай рубрыцы — пераказ цікавых дыскусій у інтэрнэце.**

# Цела Кастуся Каліноўскага са звязанымі за спінай рукамі



**Цела Кастуся Каліноўскага са звязанымі за спінай рукамі знайшлі ў Вільні на гары Гедыміна.** Акрамя яго, былі знойдзеныя яшчэ 19 паўстанцаў. Гэта адбылося ў ліпені 2017-га, але толькі цяпер навукоўцы з дакладнасцю могуць сказаць, што гэтыя парэшткі належаць Каліноўскаму. Цела Кастуся сярод іншых паўстанцаў вызначылі метадам выключэння, а таксама супаставіўшы ўзрост, спосаб пакарання, параўнаўшы чэрап і фатаграфіі. Зрабіць генетычную экспертызу не ўдалося, бо не засталося нашчадкаў па мужчынскай лініі, якія маглі б здаць матэрыял для параўнання.

## Чэмпіён у туфлях са смеццевага бака

Натхняльнай гісторыяй падзяліўся ў фэйсбуку **Аляксандр Квіткевіч**: «Гэта Джым Торп — амерыканскі спартсмен, лёгкаатлет. На фота бачна, што на ім розныя шкарпэткі і туфлі. Гэта не модны выхад, гэта летнія Алімпійскія гульні 1912 года. Амерыканскі індзеец Джым з Аклахомы прадстаўляў ЗША на турніры па лёгкай атлетыцы. Раніцай перад спаборніцтвамі яго абутак скралі. Джым знайшоў дзве туфлі ў смеццевым баку, адна была занадта вялікай, таму яму давялося



надзець дадатковую шкарпэтку. У гэтых туфлях у той жа дзень Джым узяў два залатыя медалі.

Ідэальны напамін пра тое, што не трэба мірыцца з апраўданнямі, якія вас тармозяць. Не страшна, што жыццё часам несправядлівае — галоўнае, што вы збіраецеся з гэтым рабіць. Што б вас ні заспела — выкрадзены абутак, стан здароўя, няўдалыя адносіны, правальны бізнэс, — не дазваляйце гэтаму перашкодзіць вам удзельнічаць у сваёй гонцы. Жыццё пакажа сябе з яркага боку, калі вы перастанеце апраўдвацца і будзеце ўпэўнена ісці да пастаўленай мэты, нягледзячы ні на што».

## Асістэнт Эйнштэйна быў з Брэста

Да 140-годдзя Альберта Эйнштэйна бібліятэка Акадэміі навук выклала ў сваім фэйсбуку гісторыі пра нашых людзей у атачэнні Эйнштэйна. Частка кніг Эйнштэйна, што захоўваюцца ў бібліятэцы, захавала ўласніцкія запісы яго асістэнта Якава Громера — берасцейца, які выехаў за мяжу ў 26 і, не маючы сярэдняй адукацыі, стаў у Германіі доктарам навук. Громер з Эйнштэйнам працавалі 13 гадоў, распрацоўвалі тэорыю адносна́сці. З дапамогай Громера Альберт стаў нобелеўскім лаўрэатам.

У 1928-м Громер вырашыў змяніць кафедру ў Берлінскім універсітэце на месца ў Беларускім дзяржаўным універсітэце. Чаму? Вабілі карані? Ідыш, родная мова Громера, у БССР была адной з дзяржаўных. Кафедру ў БДУ далі з радасцю. Праўда, выкладчыкам Громер выявіўся так сабе. На славянскіх мовах гаварыў кепска, тлумачыў невыразна, праграмы не трымаўся... Кажуць, на экзаменах ён адказваў больш, чым самі студэнты.

Ёсць легенда, што праз два гады Эйнштэйн захацеў прыехаць у БДУ ўслед за асістэнтам (у Германіі яму ўжо было вельмі дыскамфортна). Але Сталін нібыта не дазволіў: маўляў, хапае ў нас сваіх. Эйнштэйн, на сваё шчасце, атрымаў грамадзянства ЗША і працаваў там спакойна.

А Громер пажыў у Мінску ўсяго пяць гадоў і памёр вясной 1933-га, у 53 гады. Усё жыццё ён пакутаваў ад акрамегаліі — гэта калі непрапарцыйна вялікімі растуць канечнасці і косці. З прычыны хваробы Громер саромеўся фатаграфавацца, і можам пабачыць яго хіба на адным сціплым фота.

Громер завяшчаў сваё цела ўніверсітэту, а кнігі — бібліятэцы Інбелкульта, пераемніцай якога з'яўляецца Цэнтральная навуковая бібліятэка Акадэміі навук.

Кніжкі ў плямах і разводах. Можна ўявіць, як геніі елі над імі варэнне, пілі чай і спрачаліся пра тэорыю часу і святла.

## Вера Глінскага

«Яркі штрых да біяграфіі Міхаіла Глінскага. Аказваецца, па-еўрапейску адукаваны князь, мяцежнік,




авантурыст і “чалавек на ўсякі час” пад канец жыцця (1536 год) пакутаваў на падучую хваробу (эпілепсію) і прасіў даслаць яму для лячэння рэліквіі з самой Англіі, ад грабніцы святога Эдуарда (а заадно — сёе-тое з нямецкага чытва; нагадаю, што да гэтага часу ён ужо даўно быў у Маскве і ў зняволенні вярнуўся ў праваслаўе, але ...).

Характэрна і тое, што публікацыя пра гэта прайшла амаль незаўважанай міма ўсёй шырокай літаратуры пра князя Міхаіла», — заўважае **Сяргей Палехаў**, расійскі даследчык Вялікага Княства, выдавец сярэднявечных полацкіх грамат. *«Teutonica non leguntur?»* — «Па-тэўтонску не чытаем?» — дадае ён са спасылкай на электронную версію нямецкамоўнага артыкула «Вярблюд для Дзерпта і індычка для Масквы. Дастаўка падарункаў паміж Лівоніяй і Руссю ў 1534 годзе». Яго аўтар **ЮрыКівімяэ**, эстонец, працуе ва ўніверсітэце Таронта ў Канадзе. Ён займаецца гісторыяй балтыйскага рэгіёна ў XV–XVI стагоддзях, гісторыяй савецкага ўварвання ў Эстонію, а цяпер працуе над гісторыяй пісьма і кнігадруку ў Эстоніі XVI стагоддзя.





## Перамога

Пад такім загалоўкам знавец Мінска **Дзмітрый Навумаў** падзяліўся сумнымі навінамі напярэдадні 9 Мая. «Вось, нарэшце, сёння раніцай быў знесены апошні дарэвалюцыйны будынак славутага чыгуначнага Лібава-Роменскага дэпо. Ад маўклівага сведкі разагнанага бальшавікамі Першага Усебеларускага кангрэса засталася цагляная горка. Раскіданыя цагліны з адбіткам бабруйскага Разенберга, што ўзняў на мяжы стагоддзяў ледзь не палову Менска, паглядаюць на вясновыя нябёсы.

Сучасныя крывашэіны рыхтуюцца да сваіх гульняў. Яны пакідаюць нам горад “чысценькі ды гладзенькі”. З такой самай “чысценькай ды гладзенькай” гісторыяй».

Крывашэін — гэта вайсковы камендант Менска ў час разгону Усебеларускага з'езда ў снежні 1917-га. ◆


















## Калі часопіса не засталося у «Саюздруках» і на поштах, пытайцеся яго ў кнігарнях

**Мінск**
«Акадэмкніга» (пр.Незалежнасці, 72, метро «Акадэмія навук»)
Symbal.by (пр. Машэрава, 18)
Філіял «Акадэмкнігі» на вул. Багдановіча, 46
Гандлёвы цэнтр «Купалаўскі» (пад Кастрычніцкай плошчай), крамы 41–42 і 44–45
«Галіяфы» (вул. Няміга, 3, крама № 47 на цокальным паверсе)
«Мой модны кут» (Цэнтр «Маскоўска-Венскі», павільён 333 — гэта каля ЦУМа, метро «Плошча Якуба Коласа», пр. Незалежнасці, 58)
Кніжны кірмаш па вул. Даўмана, 23 (субота 00.00–14.00), месца 78б
«Рагна» (вул. Сухая, 4, метро «Фрунзенская»)
«Кніжная шафа» (пр. Дзяржынскага, 9)
«Светач» (пр. Перамажцаў, 11)
«Цэнтральная кнігарня» (пр. Незалежнасці, 19)
«Кнігі і кніжачкі» (пр. Незалежнасці, 14)
«Эўрыка» (вул. Куйбышава, 75)

**Поштай ці з дастаўкай на дом** вы можаце яго замовіць праз Halijafy.by, Knihi.by, Kniger.by, Akademkniga.by

**Гродна**
«Цудоўня» (вул. Кірава, 3).
«Кругагляд» (б-р Ленінскага камсамола, 29а)
«Раніца» (вул. Маставая, 33)

**Брэст**
«Князь Вітаўт» (вул. Савецкая, 55)

«Асвета» (пр. Машэрава, 57)
«Дружба»(б-р Касманаўтаў, 120)
«Іскра» (вул. Пушкінская, 4)

**Гомель**
«Кніжны свет» (пр. Леніна, 45)

**Віцебск**
«Светач» (вул. Кірава, 10)
«Глобус» (вул. Замкавая, 21–30)

**Магілёў**
«Гасцінец» (Віцебскі праспект, 48)

**Бабруйск**
«Крыніца ведаў» (вул. Горкага, 31)

**Баранавічы**
«Кнігі» (вул. Савецкая, 73)

**Маладзечна**
«Спадчына» (вул. Прытыцкага, 7)

**Ліда**
«Кніжны свет» (пр. Перамогі, 33)

**Наваполацк**
«Дом кнігі» (вул. Маладзёжная, 145)
«Усход» (вул. Кірава, 4)

**Пінск**
«Мой модны кут» (вул. Леніна, 31)

Акрамя таго, праз сайт **ARCHE.BY** часопіс можна купіць у ПДФ, у электроннай версіі.
















**Падпісны індэкс 00469**